УДК 75.071.1(476)(092)+929 Амялішка
ББК 85.143(4Беи)
А61

**Амялішка, М.**
**А61** Заблудныя : раман-успамін : кн. 2 / Міхась Амялішка. — Мінск : Кнігазбор, 2011. — 160 с.
ISBN 978-985-7007-10-3.

Раман-успамін «Заблудныя» — гэта шэраг эсэ, якія аўтар стварыў на падставе апавяданняў сваіх бацькоў, блізкіх. Можна сказаць, гэта сямейныя паданні сям'і Амялішкаў, пераасэнсаваныя і запісаныя Міхасём Васільевічам. У іх раскрываюцца ўсе бакі чалавечага жыцця: праца і палітыка, каханне і злачынствы, вера людзей у Бога і светлую будучыню. У цэнтры аповеду — вёскі Бортнікі, Вольна, мястэчкі Сноў і Нясвіж.

**УДК 75.071.1(476)(092)+929 Амялішка**
**ББК 85.143(4Беи)**

**ISBN 978-985-7007-10-3**

Усё мінецца. Штосьці забудзецца,
а праўдзіва напісанае застанецца.

# Частка 3

# ВОЙНЫ

## 1. Пачатак Другой сусветнай вайны

Раніцай першага верасня 1939 года Васіль сказаў сваёй сяброўцы:

— Надзя, ведаеш, дзеці сёння павінны ісці ў школу. А пані Яніна чамусьці з адпачынку не прыехала. Я пайду ў краму пана Дашкевіча і даведаюся. Штось здарылася.

— Добра, схадзі і купі буханку сітнага хлеба…

Дзень быў пахмурным. Па дарозе Васіль падумаў, што сёння хіба што задажджыцца. Пачынаецца восень… Хвілін праз дзесяць ён пераступіў парог крамы. Там сабралася некалькі чалавек, і яны слухалі крамніка Яўгена Дашкевіча:

— Сёння раніцай я пачуў па радыёпрыёмніку, што немцы з баямі перайшлі нашую заходнюю мяжу. Іх самалёты бамбардавалі Варшаву і іншыя гарады, у тым ліку і Баранавічы. У пагожы начны час не толькі былі чутны выбухі, але і відаць было з нашага хутара ружовае зарыва тамашніх пажарышч.

Сяляне ў краме абмяркоўвалі гэтую страшную навіну, гаварылі аб тым, што скончыўся мір і пачынаецца вайна.

Пачалі гадаць, як да гэтай вайны паставіцца бліжэйшы сусед Польшчы Савецкі Саюз. Прысутны селянін, вядомы ў Бортніках па мянушцы Тола, сказаў:

— Саветы, па майму разуменню, нас не пакінуць у бядзе.

Пазней стала вядома, што Тола падпольна супрацоўнічаў з Саветамі. А Міхась Жанкевіч, па мянушцы Сікорскі, пагадзіўся з ім і сказаў:

— Адна надзея на братнюю дапамогу бліжэйшага суседа, панімаеш.

Большасць прысутных сялян успрыняла навіну ўсхвалявана, спадзеючыся, што ў наш край прыйдуць Саветы і пры іх дапамозе тутэйшыя зажывуць шчасліва, так, як жывуць нашы браты на ўсходзе ў БССР.

Аб заможным жыцці ў Саветах расказвалі спецыяльна падасланыя праз савецка-польскую мяжу людзі, навучаныя ў савецкіх разведвальных цэнтрах, як рыхтаваць насельніцтва Крэсаў да ўваходу ў склад СССР. Гэтыя людзі ўпрыгожвалі рэчаіснасць так, што толькі той, хто ведаў аб сапраўдным матэрыяльным стане нашых беларусаў у БССР, ведаў, што яны махлююць.

Аб сапраўдным становішчы за кардонам тамтэйшых сялян у Савецкім Саюзе расказвалася ў польскіх газетах, аднак мала хто гэтыя газеты чытаў, бо значная частка тутэйшых сялян была непісьменнай і карысталася чуткамі. Увогуле сяляне верылі, што бальшавікі, як і абяцалі, аддадуць сялянам зямлю, а рабочым — фабрыкі і заводы, таму і ішлі ў грамадзянскую вайну ваяваць «за зямлю, за волю, за лепшую долю», як спявалася ў адной вядомай на той час песні. А верылі сяляне таму, што яны аб гэтым марылі, і такіх людзей я называю заблуднымі. Да таго ж, менская радыёстанцыя вяла махлярскія перадачы аб заможным жыцці жыхароў у Саветах. Аднак сустракаліся і такія, якія пераследаваліся бальшавікамі. Яны ішлі да нас нелегальна праз мяжу, просячы ў польскіх уладаў палітычнага прытулку. Такія перабежчыкі часцей за ўсё сустракаліся з леснікамі і праўдзіва ім апавядалі аб тым, што з пачаткам калектывізацыі сяляне пачалі жыць галаднавата. Сярод іх быў і крамнік Дашкевіч, які з сям'ёй уцёк з «савецкага раю». Мой бацька працаваў гаёвым да 1934 года, сустракаў у лесе перабежчыкаў з Усходу, і яны яму расказвалі аб сваім «заможным жыцці» пад уладай Саветаў. Аднак такіх людзей было вельмі мала.

Пачуўшы ад крамніка страшную вестку аб тым, што немцы з баямі перайшлі ў наступленне па ўсяму фронту заходняй

мяжы з Польшчай, Васіль так расхваляваўся, што забыўся аб просьбе Надзі і адразу ж паспяшаўся дахаты.

Калі Васіль прыйшоў, Надзя заўважыла ягоны незвычайна ўзрушаны стан. Распытваць не стала, бо ведала, што падчас снедання ён сам штосьці раскажа. Пасля малітвы елі моўчкі, з апетытам — прагаладаліся, бо бацька чамусьці затрымаўся ў вёсцы. Елі са смакам, сёрбаючы зацірку, забеленую ранішнім салодкім малаком, а пасля бліны са скваркамі, яешняй ці смятанай — па выбару.

Як толькі скончылі снеданне, усталі, перахрысціліся. Васіль папярэдзіў прысутных, каб селі на месцы, сказаў:

— Дарагія мае, я сёння ў краме Дашкевіча даведаўся, што немцы распачалі з нашай дзяржавай вайну. Нямецкія войскі наступаюць па ўсёй заходняй граніцы, самалёты бамбардуюць Варшаву і іншыя гарады. Гэтыя трывожныя весткі пачуў Дашкевіч сённяшнім ранкам па радыёпрыёмніку. Польская армія аказвае ім супраціў. З першага верасня вучоба ў школе з-за вайны не пачалася, таму працягваюцца канікулы. Весткі з фронту несуцяшальныя. Нашыя войскі пад напорам немцаў адступаюць. Фронт з захаду набліжаецца да нас. Чутны таксама бомбавыя выбухі з Баранавіч. А гэта значыць, што пачалася вайна.

— Бацька скажы, а што ж цяпер з намі будзе? — спытала Надзея.

— Вайна — гэта самае страшнае, што можа быць, — пачаў гаварыць Васіль, — ніхто не ведае, што нас чакае наперадзе. Пасля майго звальнення з пасады лесніка мы пачалі абжывацца, а цяпер усё набытае намі можа прапасці ў адзін момант, калі пачнуцца вайсковыя дзеянні ў нашай мясцовасці.

Васіль пры дзецях не мог расказаць аб тым, чым ён хацеў падзяліцца з Надзяй. Не хацеў іх палохаць, непадрыхтаваных да такой страшнай весткі. Таму працягнуў расказваць Надзі пасля таго, як дзеці пайшлі займацца сваімі гульнямі на панадворак.

— За васямнаццаць гадоў пасля таго, як скончылася Першая сусветная вайна, мы набылі цудоўны хутар і марылі аб далейшым яго абсталяванні машынамі навейшай канструкцыі, каб аблегчыць нашу цяжкую ручную працу.

Я думаў з цягам часу набыць конныя жняярку і сенакасілку. Аднак не паспеў. Цяпер мае планы рухнулі. Вайна, па ўсіх прагнозах, будзе значна больш жорсткай за папярэднюю, бо за мірны час, па прычыне тэхнічнага прагрэсу аснашчанасць армій ваеннай тэхнікай значна ўзрасла.

Вайна хвалявала нашых блізкіх, і ў першую чаргу нашых бацькоў, усіх дарослых, таму што яны перажылі жахі Першай сусветнай вайны. Ведалі, што акрамя разрухі, смерцяў, голаду і хваробаў вайна нічога не прыносіць. Іх адносіны да вайны перадаюцца нам, дзецям. Хоць гэты ўплыў і гняце дзяцей, але яны ўяўляюць сваю будучыню інакш, чым іх бацькі. Дзецям цікава назіраць незвычайнае, бо яны пакуль не ведаюць, што нясуць гэтыя незвычайнасці тым людзям, якія жывуць там, дзе яны адбываюцца. Вайна турбуе ўсіх, але нас, дзяцей, менш, таму што мы яшчэ, як кажуць вопытныя, «не панюхалі пораху».

Нягледзячы на вайну, сельскагаспадарчыя работы працягваюцца. Пачалася копка бульбы. Сяляне чакаюць перамен. Мясцовыя жыхары затаіліся, чакаюць, што будзе далей.

Польскія ўлады пабудавалі абарончую лінію дотаў ля нашых хутароў супраць Саветаў, аднак не маюць сіл, каб размясціць там войскі і ўтварыць з гэтых дотаў усходнюю абарончую лінію. Весці вайну на два франты аказалася непасільным польскаму ўраду. Гэтая падзея супакоіла ў некаторай ступені бацькоў, бо штурму дотаў Саветамі не прадбачвалася. У Васіля адлягло ад душы, бо ў бліжэйшы час у нашай мясцовасці вайсковых змаганняў польскага войска з савецкімі войскамі не прадбачвалася.

— Васіль, — спытала Надзея, — а няўжо наш край захопяць бальшавікі?

— Усё ідзе да таго. Бачыш, наш урад не ў сілах ваяваць на два франты, польскія ўлады пралічыліся. Шмат гадоў будавалі абарончую лінію супраць магчымых нападаў з Усходу, а выходзіць, дарэмна гэта рабілі, бо не разлічвалі, што Гітлер нападзе з захаду, а там такой абарончай лініі, наколькі мне вядома, не будавалі — выходзіць, пралічыліся. А цяпер аказалася, што выкарыстаць пабудаваную лінію дотаў палякам не хапае войскаў. А колькі ж сродкаў дарма патрачана на гэтыя сховішчы-схроны!

## 2. Захоп Саветамі Усходніх Крэсаў

Сямнаццатага верасня. Восень. Дні сталі карацейшымі. Пахмурна. Сонейка не відаць. Адбываюцца змены ў прыродзе. Сялянскія палі з кожным днём пусцеюць. Не прыехала да нас пані Яніна, бо зблытала яе планы вайна. Ехаць да нас з пачаткам вайсковых дзеянняў было небяспечна. Складвалася ўражанне, што з пачаткам вайны польская адміністрацыя як бы затаілася, знікла, прысмірэла.

Каля трох гадоў Міхась вучыўся ў прыватнай хаце Міколы Шчэрбы, а сёння ўжо сямнаццатага верасня, а мы не вучымся.

Пасля палудня я, брат Мікалай і сястра Соня выйшлі на панадворак і заўважылі, што на ўсходнім гарызонце за балотам Бубноўскага па сцежках між хутарамі ў напрамку да нашага дома рухалася група ўзброеных коннікаў. Мы здагадаліся, што гэта была конная выведка Саветаў.

Бліжэй да вечара паказалася калона вайсковай савецкай тэхнікі, якая па паланечкаўскай дарозе без прыпынку ішла на Завоссе. Так выглядаў гэты звычайны захоп нашай мясцовасці савецкімі войскамі.

— Пачынае збывацца тое, — сказаў Васіль Надзі, — аб чым гаварыў Андрэй Мароз у Абрамчыкавым лесе на велікодныя святы 1927 года, што нас праз нейкі час акупіруюць Саветы і, пры спрыяльных ім абставінах, адбяруць бясплатна зямлю, пабудовы, нажытую некалькімі пакаленнямі маёмасць і прымусяць нас працаваць на гэтай зямлі парабкамі. Гэта азначае, што будуць рабіць з намі тое, што яны ўчынілі там у БССР. Цяперашні іх паход — гэта толькі пачатак. Далей нічога добрага маёй сям'і чакаць не прыходзіцца. Як я шкадую, што ў мяне не хапіла розуму! Трэба было ў той час прадаць усё набытае і таксама паехаць за акіян, як гэта зрабілі Андрэй Мароз, асаднік Дамагала з Калюгі і іншыя. Гэтым самым яны ўратавалі свае сем'і ад бальшавіцкіх рэпрэсіяў. Быў шанец і ў мяне. Аднак што было, тое сплыло. Цяпер толькі адна надзея — на Бога.

У нашай мясцовасці я не бачыў, каб хтосьці з нашых сялян сустракаў савецкія войскі з хлебам-соллю і кветкамі, як аб гэтым шмат разоў пазней пісалі і паказвалі ў кінафільмах

бальшавікі. Тутэйшыя людзі гасцінныя, і калі да нас завітвалі з мірнымі намерамі суседзі, то былі міла вітаныя.

Паток савецкіх войскаў выклікаў у нас, дзяцей, вялікую цікавасць. Хутарскія дзеці вёскі Бортнікі селі на ўскрайку дарогі Паланечка–Завоссе, кожны насупраць свайго хутара, назіралі за гэтым бясконцым патокам войскаў і невядомай нам тэхнікі. Мы ўбачылі ўпершыню шмат невядомых машын. Паназіраць было за чым. Трактары, якія мы ўбачылі ўпершыню, цягнулі гарматы розных калібраў, ехалі палутаркі, гружаныя вайсковым майном, і пераважна пешшу ішло шмат узброеных жаўнераў. Час ад часу паток машынаў і жаўнераў прыпыняўся, і мы частавалі іх яблыкамі з суседняга саду, які рос ля самай дарогі. Калона рухалася ўсю ноч. Наша назіранне скончылася, як добра сцямнела. Нас знайшла маці і паклікала дахаты.

## 3. Мітынг з нагоды ўводу савецкіх войск

Не памятаю дакладна, калі я выпадкова, будучы ў вёсцы Вольна, трапіў на мітынг сялян ля палаца Марыі Слізнёвай з прысутнымі там прадстаўнікамі Савецкай арміі. Запомнілася, што мітынг і шэсце праходзілі бурна. Было шмат людзей як з цэнтральнай вёскі Вольна, так і з бліжніх навакольных вёсак: Бортнікаў, Залесся, Рабковічаў. Прышлі яны з лозунгамі, транспарантамі, сцягамі. Шмат было кветак. Былыя падпольшчыкі спявалі незнаёмыя мне рэвалюцыйныя песні.

Марыя Слізнёва напярэдадні прыходу савецкіх войск са сваімі блізкімі з’ехала на Захад. І калі гэта адбылося, то настаў час безуладдзя. Знайшліся такія сяляне, якія пачалі рабаваць панскую маёмасць, бо былыя ахоўнікі зніклі, калі збеглі паны. Бралі ўсё тое, што ім пападала пад рукі: назапашаныя ў скляпах галандскія сыры, варэнне, адным словам, цягнулі ўсё, што там было. Трэба асабліва адзначыць рабункі спірту з скляпенняў былога панскага бровара. Там быў вялікі металічны чан. Адзін з жыхароў настолькі захапіўся здабываннем спірту, што па неасцярожнасці перагнуўся ў чан і ўтапіўся ў ім. Сяляне, аднак, увайшоўшы ў азарт, цягалі

вёдрамі на вяроўках спірт, не зважаючы на тое, што ў бочцы плавае тапелец. Расказваў мой знаёмы равеснік Хведар:

— Мой бацька бярэ два вядры і ідзе па спірт у бровар. Прыносіць іх поўныя дахаты. Адно вядро падвешвае на кручок у кухні, дзе ў нас звычайна вісіць вядро з калодзежнай вадой, а другое нясе ў камору і накрывае покрыўкай, а пасля мая маці пералівае ў бутэлькі змесціва і закаркоўвае. Тым часам я, бегаючы па двары, захацеў папіць і забег у кухню, бяру кубак, зачэрпваю «вады». І як каўтануў... мне захапіла дых. Выбягаю на двор, а мая маці бачыць, што сыну стала дрэнна. Выбягае за мной і ратуе мяне.

Другі падобны выпадак адбыўся са мною. У гэтыя п'яныя дні мой бацька паслаў мяне ў вёску Вольна, зараз не памятаю, з якой мэтай, да дзядзькі Міхася Хіневіча. Калі я прыйшоў у Вольна (Крывасельцы, дзе была хата Міхася), папаў на застолле. Мяне, падлетка, пасадзілі пры стале, налілі з паўшклянкі якойсьці празрыстай вадкасці і прапанавалі выпіць. Я пакаштаваў, і мне стала дрэнна. Гаспадыня дома, ратуючы мяне, замест вады ў шклянку сп'яну налівае памылкова спірту і прапануе запіць. Я зноў хуценька каўтануў, і мне стала яшчэ горш. Дзякуй Богу, абышлося. Аднак гэтае гасцяванне мне запомнілася на ўсё жыццё.

Я пытаюся зараз у сябе: «Чаму ў той час дарослыя не разумелі, што частаваць алкаголем, а тым больш спіртам-сырцом дзяцей нельга?» І чаму ў тыя часы было значна менш алкаголікаў, чым цяпер? Я мяркую, што, па-першае, такія гасцяванні былі вельмі рэдкімі, адбываліся ў незвычайных, як кажуць цяпер, экстрэмальных акалічнасцях (перамена ўлады падчас вайны). Разавае ўжыванне алкаголю, як сцвярджае сучасная медыцына, не прыводзіла да захворвання алкагалізмам. Залежнасць чалавека ад алкаголю з'яўляецца, калі сістэматычна, штодзённа яго ўжываць. А ці мелі людзі тых часоў магчымасць сістэматычна ўжываць алкаголь? Не, не мелі, а па-другое, медыцына нашага часу тлумачыць нам, што алкаголь — той жа наркатычны яд, але іншага кшталту. Ён у невялікіх дозах патрэбен чалавеку. Аднак сістэматычнае ўжыванне яго без меры прыводзіць, па сутнасці, да захворвання алкагалізмам. У медыцыне выкарыстоўваюцца некаторыя атруты ў строга абмежаваных колькасцях. Вядома лячэнне змяіным ядам некаторых

хвароб. Але ж колькасць яду строга абмежаваная. І калі ўжываць яго звыш меры, то гэта можа прывесці да трагедыі. Прафесар Гарадзенскага аграрнага ўніверсітэта М. П. Коваль у прыватнай гутарцы мне сказаў:

— Дастаткова ўжыць раптам шклянку кухоннай солі — і чалавек памрэ. У той жа час гэты прадукт мы разам з ежай ужываем штодзённа ў абмежаванай колькасці і жывём.

## 4. Уладу ў Бортніках узначаліў камітэт беднаты

На пачатку кастрычніка ў Бортнікі прыехалі старшыня Гарадзішчанскага райвыканкама разам з старшынёй Вальнянскага сельсавета. Яны наведалі прадстаўніка бедных сялян Аляксандра Сняжко. Дом ягоны і зараз стаіць насупраць хутара Уладзіміра Руцкага.

Сняжко Аляксандр быў ініцыятарам устанаўлення ў Бортніках савецкай улады, таму яму новыя акупанты даручылі арганізаваць сход, а пазней ён быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР. На першы сход ён запрасіў самых блізкіх сваіх аднадумцаў: Івана Кірэева, Міхася Жанкевіча, Мікалая Шчэрбу, Лідзію Таркайла, Адама Сняжко, Барыса Амялішку і іншых. З іх утварылі камбед — камітэт беднякоў, а старшынёй абралі Аляксандра Сняжко.

Іван Кірэеў — былы салдат царскай арміі, выхадзец з Расіі. Ён, калі рухнула царская ўлада і бальшавікі захапілі ўладу, не паехаў на радзіму, а прыстаў да бортніцкай дзяўчыны ў прымы, ажаніўся. Бацькі ягонай жонкі выдзелілі ім невялікі кавалак зямлі непадалёку ад бортніцкіх могілак, уздоўж дарогі, на гары, за хутарам Уладзіміра Руцкага. Там за гарой, бліжэй да рэчкі Змейкі, быў дом Кірэева. Сям'я Кірэевых пачынаючы з 1917 года расла і стала шматдзетнай. Сам Іван Кірэеў быў даволі гаваркі чалавек. І калі ў наш край прыйшлі Саветы, дык ён казаў:

— Хопіць мне мучыцца на гэтых гарах. Саветы мне дапамогуць атрымаць лепшы кавалак зямлі для маёй шматдзетнай сям'і.

Хадзіў ён па вёсцы і расказваў, што савецкая ўлада — самая справядлівая. Аднак ён у той час нічога не ведаў аб

планах савецкай улады, якая прыйшла ў наш край не з тым, каб бяднейшым сялянам даць дармавую зямлю, а каб адабраць іх уласную зямлю і зрабіць на гэтай зямлі калгасы.

Пахвалу ў адрас савецкай улады я пачуў з вуснаў Івана Кірэева ў 1939 годзе. Ягоны аповед аб савецкай уладзе мне чамусьці запомніўся, нягледзячы на тое, што з таго часу мінула ўжо больш як семдзесят гадоў. Помніцца, відаць, таму, што «справядлівасць» гэтай улады нашы сем’і адчулі на сабе ўжо пасля першага сходу бортніцкага камітэта беднякоў.

Міхась Жанкевіч меў хутар, які межаваў з сядзібай майго дзеда Аляксандра Абрамчыка. Там і цяпер ёсць той хутар, дзе, відавочна, жывуць ягоныя нашчадкі. Меў Міхась не шмат зямлі, лічыўся бедняком. Таму ён і быў адным з актывістаў беднаты.

Першы збор бортніцкай беднаты адбыўся ў хаце Аляксандра Сняжко а дваццатай гадзіне. Прыбылыя ў Бортнікі па запросінах Аляксандра Сняжко, Ліды Таркайла, Міхася Жанкевіча, Івана Кірэева кіраўнікі райвыканкама і сельсавета сабраліся ў хаце Кірэева, каб абмеркаваць разам парадак дня сходу і прапанаваць яго сходу беднякоў. І як толькі папярэдняе абмеркаванне было скончана, пайшлі на сход, дзе іх нецярпліва чакалі астатнія сяляне…

Тым часам, чакаючы кіраўніцтва сходу, мужчыны пачалі курыць. Кожны курэц меў свой капшук, запоўнены самасадам, ці карашкамі. Курэц адрываў кавалак прачытанай газеты памерам тры на чатыры сантыметры. Насыпаў на яго свайго тытуню. Слінявіў верхні край паперы і скручваў цыгарэту. Падыходзіў да «коміна» шкляной газавай лямпы і прыкурваў. Тое ж рабілі іншыя, а некаторыя прыкурвалі ад яго. Урэшце ў адносна невялікім пакоі сям’і Аляксандра Сняжко набралася столькі табачнага дыму, што ўсім прысутным прыходзілася дыхаць не чыстым паветрам, а дымам сумніўнай якасці тытуню. І самае цікавае, што ніводзін з прысутных некурцоў не рабіў заўвагі курцам, бо ніхто не ведаў аб шкоднасці табачнага дыму, і ўсе цярпелі. Больш за тое, кожны курэц свабодна курыў і пляваў на падлогу там, дзе ён сядзеў, ды так, што ўвесь пакой быў запоўнены тытунёвым дымам, а падлога — запляваная.

У хаце сабралася не менш як дзесяць чалавек. Усе чакалі з'яўлення раённага начальства і прадстаўнікоў сельсавета. А калі яны ўвайшлі ў хату і прывіталіся, то старшыня жартаўліва заўважыў:

— Таварышы прадстаўнікі бортніцкай беднаты, але ж вы і накурылі. Столькі дыму, што можна на ім сякеру павесіць і яна будзе вісець — не ўпадзе. Пакой Аляксандра малы, і чым мы з вамі будзем дыхаць, дымам? Перш чым пачаць наш сход, прапаную адчыніць вокны і праветрыць пакой.

І тут жонка Аляксандра Марыя папярэдзіла старшыню райвыканкама:

— Таварыш старшыня, вокны зачыненыя на зіму, адкрываць іх нельга. Я лепей адчыню дзверы. Думаю, што праз пяць хвілін дым выйдзе з хаты пры ўмове, што курцы перастануць дыміць.

— Прапаную ўсім пакінуць пакой, — сказаў старшыня, — пакуль будзе праветрывацца памяшканне.

Праз некалькі хвілін пакой вызваліўся ад дыму, прыбылыя на сход занялі свае месцы. Сход адкрыў старшыня райвыканкама, павіншаваў іх з вызваленнем ад панскага іга савецкімі войскамі, сказаў:

— У Вашым жыцці адбылася гістарычная падзея аб'яднання нашага краю з брацкай Беларуссю і з вялікім Саюзам Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. З чым вас віншую. Васямнаццаць гадоў таму па Рыжскай дамове Беларусь і Украіна былі несправядліва падзелены на дзве часткі — Заходнюю і Усходнюю. Заходнюю палякі назвалі Крэсамі, а Усходнюю з Менскам Саветы назвалі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай, скарочана БССР. У Заходнюю адышлі ў асноўным тры вобласці: Брэсцкая, Гродзенская, Беластоцкая і часткі цяперашніх Віцебскай і Менскай. Крэсавай тэрыторыяй лічылася таксама і значная частка Заходняй Украіны. Адкрыць сход прапаную старшыні камітэта беднаты вашага сяла Аляксандру Сняжко.

— Таварышы, я вас запрасіў на першы сход, — пачаў гаварыць Аляксандр, — нам неабходна разгледзець два пытанні: савецкая ўлада і яе палітыка і аб планах нашага жыцця ў Савецкай дзяржаве. Па першым пытанні мае слова старшыня Гарадзішчанскага райвыканкама таварыш Шут.

— Віноўнікамі цяжкага матэрыяльнага становішча прысутных бедных сялян, — хлусліва было сказана прадстаўніком райвыканкама, — з'яўляюцца багатыя сяляне. Іх належыць нам выявіць і назваць пайменна.

У гэты момант усталявалася на сходзе цішыня. Прысутныя задумваліся, чаму багатыя вінаваты. Адзін з прысутных, Мікалай Шчэрба, спытаў у старшыні райвыканкама:

— Скажыце, таварыш, ці можна гэтыя гаспадаркі лічыць вінаватымі ў тым, што яны давалі магчымасць нам, малазямельным, зарабляць сабе на пражыццё і гэта ратавала нас ад голаду?

Гэтае пытанне прымусіла старшыню райвыканкама задумацца: у чым сапраўды вінаватыя гэтыя гаспадаркі? Праца па найму добра аплачвалася. Наёмны атрымліваў па дагавору ад наймальніка за працу грашыма ці натурай, а да таго ж наймальнік няблага карміў за свой кошт.

І вось тады прадстаўнік райкама ўспомніў, што падчас інструктажу прысланы з БССР сакратар райкама раіў на такія «правакацыйныя» пытанні даваць рашучы адпор.

— Таварышы, я, як старшыня Гарадзішчанскага райвыканкама, на гэтае правакацыйнае пытанне вымушаны сказаць наступнае: багатыя сяляне захапілі лепшыя землі былога маёнтка Слізняў у Бортніках, пачалі эксплуаціраваць самых бедных сялян.

— Таварыш старшыня, — запытаў Мікалай Шчэрба, — растлумачце, як гэта багатыя сяляне захоплівалі лепшыя землі памешчыкаў Слізняў? Бо зямля — гэта такая каштоўнасць, якую, як мяшок з жытам, не закінеш за плечы і не панясеш. За яе трэба было заплаціць шмат грошай, якія збіраліся не гадамі, а дзесяцігоддзямі, і захапіць яе мог толькі той, хто болей заплаціў сваёй працай. Слізні прадавалі зямлю таму, хто болей плаціў.

— А мне растлумачце, што, па-простаму, азначае слова «сплаціраваць»? — запытаў прысутны бядняк малапісьменны Барыс Амялішка.

І тут падхапіўся з месца Міхась Жанкевіч, пачаў крычаць:

— Чаму гэта Барыс Амялішка і Мікалай Шчэрба мяшаюць старшыні тлумачыць палітыку савецкай улады і задаюць непатрэбныя пытанні, панімаеш! — І сеў.

Падымаецца Мікалай Шчэрба і кажа:

— Як разумець Міхася? «Непатрэбныя пытанні». Я таксама не разумею слова «эсплуаціраваць» і прашу растлумачыць гэтае слова таму, што далейшага расказу я не разумею. Акрамя таго я прашу старшыню больш проста расказваць нам, бо бальшыня з нас малапісьменныя, а то і зусім непісьменныя.

І пачаўся вэрхал. Каб яго перапыніць, старшыня райвыканкама Іван Шут падняў руку і папрасіў увагі:

— Таварышы, мы вас сабралі на першы сход бяднейшых сялян, каб расказаць вам пра тое, што зроблена бальшавіцкай партыяй у Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы для такіх жа сялян, як вы, каб вы зажылі багата, як жывуць зараз нашы браты ў БССР. Таму я вам раскажу даходліва, каб вы зразумелі, што ў нашым краі, былых Усходніх Крэсах, існуюць пакуль што класы памешчыкаў, капіталістаў і сяляне. Усіх сялян можна падзяліць на заможных (іх Ленін назваў «кулакамі»), сераднякоў і беднякоў. Не ўсе заможныя сяляне апрацоўваюць свае надзелы самастойна, а каб аблегчыць працу на сваёй гаспадарцы, яны наймаюць вас, гэтым самым карыстаюцца вашай працай у сваіх выгодах. Гэта і азначае, калі коратка сказаць, што яны вас эксплуаціруюць.

— Значыць, калі я працую на сваёй гаспадарцы, — пачаў гаварыць Мікола Шчэрба, — то я сам сябе эсплуацірую?

— Не, калі вы працуеце на сваёй зямлі, то гэта не лічыцца эксплуататацыяй, — адказаў старшыня.

— Чаму гэта не лічыцца эсплуататацыяй? Калі я працую на сваёй зямлі, то я плачу падатак дзяржаве, і гэта таксама не лічыцца эсплуататацыяй, — пачаў Мікола Шчэрба тлумачыць, — у той жа час, калі я іду працаваць па найму і мне наймальнік плаціць па дагавору і корміць падчас працы, то гэта лічыцца эсплуататацыяй? Па-мойму, эсплуататацыяй работніка трэба лічыць тады, калі наймальнік плаціць менней, чым дагаворваліся, а то і зусім не плаціць — вось тады можна лічыць, што яго эсплуаціруюць.

Гэтыя пытанні і разважанне Міколы Шчэрбы паставілі ў тупік старшыню райвыканкама. Ён разумеў, што Мікола правільна разважае. Аднак ён павінен абараніць выказа-

ную ім устаноўку партыі аб тым, што кулаком, па Леніну, лічыцца той селянін, хто выкарыстоўвае парабкаў, наймічак, пастушкоў незалежна ад таго, колькі ён ім плаціць.

— Таварышы прысутныя, — слова ўзяў старшыня, — у Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы да калектывізацыі сельскай гаспадаркі на сяле існаваў падзел грамадства на багатых, сераднякоў і беднякоў. Клас багатых сялян, названы кулакамі, ліквідаваны: іх вывезлі з сем'ямі на пасяленне ў іншае месца. Сераднякі і беднякі аб'ядналіся і пабудавалі калектыўныя гаспадаркі — калгасы. Закладзены падмурак сацыялізму. Цяпер нам належыць пабудаваць такую ж гаспадарку і ў нас.

Падымаецца Аляксандр Сняжко і кажа:

— Мы тут разам са старшынямі райвыканкама і сельсавета і Міхасём Жанкевічам, Іванам Кірэевым і Лідзіяй Таркайла склалі папярэдні спіс тых нашых сяльчан, якіх належыць аднесці, па Леніну, да кулацкіх гаспадарак. З прапановай па гэтаму пытанню выступіць старшыня Вальнянскага сельсавета.

— Таварышы прадстаўнікі беднаты, — пачаў старшыня сельсавета, — віншую вас з вызваленнем ад панскага іга і аб'яднаннем з нашымі братамі, якія залажылі падмурак сацыялізму ў БССР. Жадаю і вам такіх жа поспехаў у новай агульнай дзяржаве, якую будзем называць і мы БССР — Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. Мы, прадстаўнікі камбедаў сяла Бортнікі: Аляксандр Сняжко, Лідзія Таркайла, Міхась Жанкевіч, Іван Кірэеў, разам з прадстаўнікамі райвыканкаму і сельсавету абмеркавалі кандыдатуры заможных сялян Бортнікаў, якіх прапануем лічыць кулакамі: Васіля Амялішку, Аляксандра Абрамчыка, Якуба Бубноўскага, Яўгена Дашкевіча і Льва Яцкевіча.

Пасля агучвання спісу кулацкіх гаспадарак, прапанаванага даверанымі асобамі, пачалі паступаць пытанні:

— Скажыце, на якіх падставах нашы даверанья, — пачаў гаварыць Мікола Шчэрба, — вылучылі названыя гаспадаркі кулацкімі? Справа ў тым, што ні ад аднаго парабка не паступала скарга, што іх эксплуатацыіравалі. Гэтыя гаспадаркі акуратна разлічваліся з парабкамі па дагавору. Тады за што мы караем гэтых, я б сказаў, паважаных людзей, — пазбаўляем іх правоў? Узяць, напрыклад, першага, якога

прапануюць называць кулаком, Васіля Амялішку. Фактычна за яго ініцыятыву па ўдасканальванню ўласнай гаспадаркі надаём яму назву кулак замест таго, каб лічыць яго лепшым гаспадаром нашай вёскі. У яго трэба павучыцца, як весці сваю гаспадарку, каб стаць заможным.

Старшыня райвыканкама падняўся і сказаў:

— Таварыш Шчэрба, цікава, чаму гэта вы заступаецеся за тых людзей, якія наймалі парабкаў і на іх працы нажываліся? Такіх людзей, як вы, у тых абласцях, дзе праведзена калектывізацыя, называлі падкулачнікамі, а то і пачыналі лічыць іх таксама кулакамі.

Гэтая заўвага была наўмысна выказана старшынёй райвыканкама, каб хутчэй вырашыць пытанне пра раскулачванне, на якім настойвалі райвыканкамаўцы. Пасля такой заявы да старшыні райвыканкама ад прысутных другіх пытанняў не паступала, бо яны зразумелі, што прыбылае раённае начальства мела заданне: выявіць у кожнай вёсцы самых заможных сялян і, нягледзячы ні на што, прыляпіць ім назву кулак.

У канцы сходу слова папрасіў Іван Кірэеў:

— Толькі што мы вырашылі пытанне адносна раскулачвання нашых сялян, дык у мяне ёсць прапанова адносна вучобы нашых дзяцей. Вядома, што заняткі ў школе пачынаюцца з першага верасня, а сёння на двары кастрычнік і нашы дзеці не вучацца. Праўда, яны хадзілі ў польскую школу, а зараз трэба, каб яны наведвалі беларускую ці рускую. Я хачу запытацца ў старшыні райвыканкама: хто паклапоціцца цяпер, пры новай уладзе, аб вучобе нашых дзяцей? Пры Польшчы школа была ў Міколы Шчэрбы, а зараз ён адмаўляецца, каб у ягонай хаце была школа. Цяпер у сувязі з раскулачваннем кулака Амялішкі Васіля мы можам пацясніць яго. Ягоны самы вялікі пакой заняць пад школу, а ў вячэрні час там праводзіць нашы сходы.

— Падтрымліваю прапанову, — сказаў Аляксандр Сняжко, — і лічу, што гэта разумнае рашэнне. Раней гэты пакой арандавалі польскія настаўнікі. Будзем лічыць, што наш камбед падтрымлівае прапанову Івана Кірэева. Заўтра я пайду ў дом Васіля Амялішкі і раскажу яму аб нашым рашэнні.

На гэтым першы сход бортніцкай беднаты скончыў сваю працу.

## 5. Пачалося раскулачванне

Назаўтра Аляксандр Сняжко прыйшоў да Васіля Амялішкі, майго бацькі, і паведаміў яму, што сход беднякоў вырашыў лічыць ягоную гаспадарку кулацкай, што ў самым вялікім пакоі ягонага дома вырашана зрабіць пачатковую школу. У гэтым месяцы будуць прывезеныя школьныя парты, і бортніцкія дзеці пачнуць вучыцца, старшыня райкама абяцаў прыслаць настаўніка.

— Дазвольце мне спытаць вас, старшыня, а як мы цяпер будзем жыць? — спытаў Васіль.

— Вы цяпер лішаецесь усялякіх правоў. Мы, камбеды, набылі права вас раскулачыць, а гэта значыць, адабраць у вас зямлю, зліквідаваць вашую маёмасць і на вашай былой зямлі заснаваць калгас. А вам, як на сходзе паведаміў старшыня райвыканкама, савецкай уладай будзе выдзелена іншае месца пражывання.

Неўзабаве прывезлі ў наш вялікі пакой школьныя парты. І наш трэці клас пачаў вучыцца ў нашым доме зноў у трэцім класе савецкай беларускай школы, і вучыла нас настаўніца, якая прыехала з Баранавіч. Яна мела ад прыроды незвычайны дэфект у вымаўленні многіх слоў. Гэта былі не ўрокі прыгожай беларускай мовы, а здзек з мовы. Таму вучні ледзь стрымлівалі сябе ад дружнага рогату. Яе вымаўленне амаль усіх слоў было такім камічным, што мяне здзіўляла: як маглі ў аддзеле раённай адукацыі рэкамендаваць ёй працаваць настаўніцай? Праўда, праз паўгода, калі я вярнуўся пасля працяглага лячэння, дык у нашай школе была ўжо іншая настаўніца, у якой такога ненармальнага вымаўлення не было. Пазней, калі я часова вучыўся ў Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце, там вылучаўся дэфектным вымаўленнем выкладчык аналітычнай геаметрыі, які па-руску замест «точка» вымаўляў «тоська», скажаў і іншыя словы. А ў Гродзенскім педінстытуце выкладчыца курса гісторыі ВКПБ у рускіх словах «горняки» і «докеры» не вымаўляла гук «р», а замест яго выкарыстоўвала гук «в». Таму я больш за ўсё ад гэтага курса запомніў гэтыя анекдатычныя словы. Перакананы: людзям з такім дэфектным вымаўленнем лепш усяго выбіраць спецыяльнасць, якая не звязана з педагагічным працэсам.

Працягвалася раскулачванне. У дадатак да ўсяго хтосьці, падбухтораны камбедамі, атруціў нашых сабак, відавочна, дзеля таго, каб лягчэй было раскрадаць нажытае цяжкай працай бацькоў дабро. Раскулачванне тычылася ўсіх пералічаных у спісе кулакоў, не толькі Васіля Амялішкі. Напрыклад, Аляксандр Абрамчык, калі ягоныя дзяўчаты выходзілі замуж, адорваў пасагам — спелым лесам на пабудову свайго дома. К 1939 году заставалася невялікая колькасць спелага лесу насупроць хутара Аляксандра Абрамчыка. Старшыня камбедаў Аляксандр Сняжко прапанаваў выразаць рэшткі спелага лесу Абрамчыка і пачаць будаваць у Бортніках школу, але не на тым пляцы, які быў запланаваны палякамі, а на хутары кулака Васіля Амялішкі. Таму лес на пабудову новай бортніцкай школы па рашэнню камбедаў быў выразаны, прывезены на хутар Васіля Амялішкі і там ляжаў да пачатку вайны 1941 года. Калі быў прывезены Абрамчыкаў лес на наш хутар, я дакладна не памятаю. Памятаю, што недзе ў 1942 годзе, у часы нямецкай акупацыі, мой бацька звярнуўся да бортніцкіх сялян з просьбай перавезці гэты лес на законны пляц, які быў запланаваны пры пераходзе на хутары ў пачатку трыццатых гадоў. Лес перавезлі на запланаваную пляцоўку, і пачалася будова школы. У той жа час гэты лес пры новай уладзе быў уласнасцю сям'і Абрамчыкаў. Аднак гэтая сям'я не ставіла пытанне забраць гэты лесаматэрыял як сваю ўласнасць, хоць Абрамчыкам самім неабходна было будаваць новы дом, бо стары быў ужо мала прыдатны для жытла. Да лета 1944 года зруб новай школы быў пабудаваны. Зроблены сцены і дах. Заставалася канчаткова дабудаваць усё астатняе. Адступаючыя нямецкія жаўнеры выкарысталі зруб як агнявую кропку супраць наступаючых савецкіх войскаў, і школьны зруб быў спалены. У той жа дзень былі спалены таксама ўсе гаспадарчыя пабудовы хутара Васіля. Цудам захаваўся жылы дом, у якім дажывалі памешчыкі Слізні ў XIX стагоддзі. Гэты дом мае гістарычную каштоўнасць. Аб гэтым была размова ў першай кнізе «Заблудныя».

## 6. Першыя зімы акупацыі Усходніх Крэсаў

Зімы 1939/40 і 1940/41 гадоў былі снежнымі і з вялікімі маразамі. Мароз месцамі дасягаў ніжэй –40 °С. Мясцовыя сяляне падчас такога незвычайна вялікага марозу разважалі, што нібы Саветы сваімі танкамі прыцягнулі такія халады. Гэтыя зімы ў нас нанеслі вялікія шкоду фруктовым садам, дэкаратыўным дрэвам. Дзве трэці стагадовых каштанаў, якія раслі па перыметры нашага панадворка, вымерзлі. Захаваліся лічаныя экзэмпляры на паўднёвым захадзе. Вымерзлыя ствалы сухіх каштанаў амаль усе гады, з 42-га па 44-ы, выкарыстоўваліся на паліва. Так была страчана былая прыгажосць ансамбля парку Слізняў, якую пашкадавала выразаць і прадаць на дровы пані Слізнёва, калі мой бацька з дзедам Андрэем у 29-м годзе куплялі цэнтр бортніцкага памесця. Затое «яго вялікасць мароз» іх не ашчадзіў. Пры нізкай тэмпературы каля мінус 40 градусаў я выпадкова апынуўся сярод бяроз, клёнаў, серабрыстых таполяў, ясеняў, бэзу і каштанаў, дык пачуў незвычайныя гукі, якія нагадвалі патрэскванне. Гэта, аказваецца, сок, які звычайна цячэ па капілярах дрэва, пры вельмі нізкай тэмпературы замярзае, становіцца лёдам і расшыраецца. У дрэве ўзнікаюць разрывы капіляраў і дрэва гіне (вымярзае), калі доўга пратрымаецца нізкая тэмпература звыш дапушчальнай нормы для адпаведнай пароды дрэва. Так і загінулі тыя каштаны, якія былі сто гадоў таму завезены з цёплых краінаў…

Правучыўся я да студзеня ў сваёй былой хаце і захварэў. Бацька адвёз мяне ў Баранавічы лячыцца. Пачатак саракавога года я жыў і лячыўся ў доме майго дзядзькі Мікалая Абрамчыка. На прыём да доктара ў паліклініку мяне вазілі на дзіцячых саначках, бо былі такія болі, што я не мог хадзіць, а мне ж пайшоў ужо адзінаццаты год. У той жа час я быў рослым хлапчуком, і пры сустрэчы з аднагодкамі яны не прапускалі магчымасці з мяне панасміхацца: «Вось які дылдун прагульваецца на дзіцячых саначках». Такія насмешкі было непрыемна чуць, але прыходзілася цярпець.

Паліклінічнае абследаванне паказала, што я той халоднай зімой прастудзіўся і атрымаў запаленне сядалішчнага нерва.

Назначылі лячэнне: прыняць трыццаць ваннаў з водным растворам глаўберавай солі. Лячыўся ў хаце дзядзькі ўсю зіму, а ў пачатку красавіка саракавога года, калі сышоў снег, мяне адправілі дахаты праз мястэчка Калдычэва, аўтобусам Баранавічы–Гарадзішча. І што цікава: у той час за білет трэба было плаціць кандуктару за кожны кіламетр. Ад Калдычэва да бацькоўскай хаты — сем кіламетраў. Ішоў дадому праз вялікую вёску Мядзеневічы і Завоссе, прыйшоў у Бортнікі. Помню колькі было радасці ў маіх родных, што я жывы і здаровы і гатовы працягваць вучыцца. У той час ў Бортніках яшчэ калгаса не было. Вясенні сеў бацька выконваў самастойна. Кулацкі тытул бацькі прыгнятаў усю сям’ю — працягвалі раскулачваць. Камбеды з бацькамі не лічыліся. Нас рыхтавалі на высяленне. Мама сушыла сухары — рыхтаваліся да вывазу. Быў красавік 1940 года. Мае сябры трэцякласнікі заканчвалі вучобу. Мне прапанавалі здаць экзамены за трэці клас экстэрнам і пацвердзіць тое, што і я скончыў тры класы беларускай савецкай школы. Экзамены здаў на выдатна. Настаўніца, якая прымала экзамены, была задаволена маімі поспехамі.

## 7. 1940 год. Манеўры Саветаў на былых польскіх дотах

Вясна 1940 года запомнілася тым, што Саветы пасля захопу нашай мясцовасці праводзілі вайсковыя манеўры на паласе дотаў, якую палякі не змаглі выкарыстаць па назначэнні і «падарылі Саветам». Бальшавіцкае камандаванне, атрымаўшы гэты «падарунак» вясной 1940 года, вырашыла на паласе дотаў правесці манеўры, спрабавала бамбардаваннем нейкага адрэзку лініі дотаў знішчыць іх. Гэта ім, па меркаванню нашых старэйшых сялян, было патрэбна таму, што яны рыхтаваліся да вайны супраць буржуазных краінаў, якія мелі прыблізна такія палосы дотаў, накіраваныя супраць Саветаў. У той час Саветы распачалі вайну супраць Фінляндыі. У гэтай вайне ўдзельнічалі і нашыя бортніцкія прызыўнікі. Саветам патрэбна было пераадолець такую лінію дотаў, яе называлі лініяй Манэргейма. Таму

бальшавікі хацелі атрымаць адказ: ці магчыма бамбаваннем знішчаць доты?

Вайсковыя спецыялісты выбралі невялікі адрэзак з некалькіх дотаў. І адзін з гэтых дотаў быў насупроць зямельнага ўчастка майго бацькі. Перад пачаткам манеўраў усіх жыхароў, якія мелі хутары паблізу, часова выселілі. Нас не высялялі, бо наш хутар быў на адлегласці двух кіламетраў ад намечанай лініі.

Перад бамбаваннем я быў на сваім участку, які непасрэдна межаваў з дотам, і па заданню бацькі баранаваў. Да мяне падышоў вайсковец і папрасіў, каб я сабраўся і з канём паехаў дахаты, бо заставацца ў гэтым месцы было небяспечна. Калі я прыехаў на свой панадворак, то ляцелі бамбавозы і я бачыў, як на значнай вышыні аддзяляюцца ад іх бомбы і падаюць на лінію дотаў — чутны былі моцныя выбухі. Вынікі манеўраў: ні адзін дот пры бамбаванні не быў пашкоджаны. Праведзеныя манеўры паказалі, што бессэнсоўна па лініі дотаў наносіць бомбавыя ўдары. Так разважалі дарослыя. Таму прыкладна праз чатыры гады, калі скончылася Другая сусветная вайна і выбуховых сродкаў было назапашана лішку, Саветы вырашылі ўзарваць усе доты, якія палякі будавалі шмат гадоў. Узарвалі. На месцы былых дотаў застаўся друз і адзін дот непадалёку ад мястэчка Калдычэва.

## 8. Укараненне бальшавікамі мілітарысцкага мыслення

Вясной 1940 года мне давялося ўпершыню пабачыць, як адбываецца ворыва былой панскай, цяпер саўгаснай зямлі шматкорпусным савецкім плугам, навешаным да трактара НАЦІ, які дзяржава выдзеліла сваёй гаспадарцы — вальнянскаму саўгасу — для апрацоўкі глебы. Раней, за палякамі, тыя ж палеткі апрацоўвалі панскія парабкі коннымі плугамі. А цяпер, мабыць у прапагандысцкіх мэтах, побач з лясным масівам Храмуша працаваў савецкі трактар. Мы захапляліся магутнасцю гэтай машыны і яе магчымасцямі. Хтосьці з прысутных назіральнікаў сталага веку слушна заўважыў:

— Бачыце, як глыбока ягоныя плугі ўразаюцца ў глебу, выварочваючы няўгноены пласт на паверхню, што пры конным ворыве немагчыма. Такое глыбокае ворыва можа прывесці да змяншэння ўрадлівасці глебы і страты ўраджаю.

Прысутны сярод нас прадстаўнік паліторганаў новастворанага саўгаса заўважыў:

— Ваша крытыка, грамадзянін, не знаю, як вас завуць, не справядлівая, скіраваная на тое, каб зганьбіць перадавую савецкую тэхналогію апрацоўкі глебы, і можа мець адмоўны ўплыў на прысутных. Таму раіў бы вам: перш чым займацца крытыканствам савецкай тэхналогіі, падумаць, які палітычны ўплыў можа мець на прысутных ваша выказванне.

— Мне падумалася, што пры любым механізаваным новаўвядзенні, — пачаў між іншым гаворку былы польскі інжынер, які пры паляках працаваў у Баранавічах кансультантам у краме сельскагаспадарчых машын і са зменай улады, апынуўшыся беспрацоўным, прыехаў да знаёмых у Вольна адпачыць, — заўсёды знойдзецца чалавек, які ўбачыць штосьці адмоўнае, недапрацаванае і зробіць слушную заўвагу. Прыпісваць падобнаму выказванню палітыку, як гэта зрабіў паважаны прадстаўнік саўгаса, несправядліва і можа шкодна паўплываць на ўдасканальванне той жа тэхнікі, якую нам дэманструюць. Гэта з аднаго боку, а з другога — абвінавачванне селяніна ў тым, што ён займаецца крытыкай тэхналогіі апрацоўкі глебы трактарам савецкай вытворчасці, мне здаецца смешным. Я, як былы кансультант па сельскагаспадарчых машынах, лічу, што вашае абвінавачванне аднаго з нас у крытыканстве савецкай тэхналогіі апрацоўкі глебы несправядлівае і неразумнае.

Пачалася лаянка паміж прадстаўніком саўгаса і былым польскім інжынерам. Гэтая сварка, незразумелая нам, простым сялянам, нас не цікавіла. Мы пайшлі па справах. Аднак з гэтай сваркі можна было зрабіць выснову, што савецкая ўлада пачала перавыхоўваць нас, мясцовых, былых грамадзянаў Польшчы, каб мы думалі так, як гэта патрэбна бальшавікам. Таму яны, узяўшы ўладу ў свае рукі, перш за ўсё пачалі выкараняць свабодныя думкі. Выхоўваць нас у кірунку, патрэбным ідэалогіі ВКПБ.

## 9. Генацыд Саветаў супраць асаднікаў і гаёвых

У сувязі са зменай улады ў нас пачалі адбывацца такія незвычайнасці, якія раней нават уявіць было цяжка. Бліжэй да зімы папаўзлі чуткі, што саветы пачалі вывозіць усіх асаднікаў пагалоўна з сем'ямі ў Сібір і Казахстан, бо заснавальнікі гэтых гаспадарак ваявалі ў грамадзянскую вайну ў польскай арміі супраць бальшавікоў і перамаглі іх. За гэтыя заслугі палякі надзялілі іх зямлёй і дапамаглі пабудаваць свае гаспадаркі, праўда, не на тэрыторыі Польшчы, а ва «Усходніх Крэсах». Сталін не мог дараваць салдатам арміі Пілсудскага, што яны свядома ішлі ваяваць супраць бальшавікоў. Акрамя асаднікаў, Саветы вывезлі ўсіх былых гаёвых разам з сем'ямі.

У той час хадзілі чуткі, што Сталін лічыў гаёвых патэнцыяльнымі праваднікамі банд у тых лясах, дзе яны працавалі, а я мяркую, што Саветы, у дадатак да сказанага, баяліся гаёвых яшчэ і таму, што яны, а таксама і іх сем'і, маглі нанесці шкоду савецкай уладзе шляхам праўдзівага аповеду аб сапраўдным «шчаслівым» жыцці ў СССР. Карацей, Сталін баяўся, што ягоная злачынная дзейнасць будзе раскрыта, таму замятаў свае сляды, выкарыстоўваючы чыста бальшавіцкія метады. Гэтыя антыгуманныя акцыі супраць невінаватых былых асаднікаў, гаёвых, іх жонак, дзяцей і бацькоў раскрывалі перад сусветнай грамадскасцю звярыную сутнасць людзей, якія захапілі ўладу ў былой царскай імперыі і не грэбуюць самымі подлымі метадамі ўтрымання сваёй улады. Антыгуманныя ўчынкі Саветаў па кроплях накопліваліся і прывялі да таго, што СССР, як імперыя зла, па трапнаму выразу амерыканскага прэзідэнта Рональда Рэйгана, распалася ў 90-я гады.

Сям'ю Васіля мінула бяда вывазу разам са служылымі леснікамі. Гэта быў адзін з нешматлікіх выпадкаў, калі данос 1934 года дапамог нашай сям'і пазбегнуць аграмадных непрыемнасцяў. Я лічу, што нам у гэтым дапамог Бог праз той хлуслівы чыйсьці данос. Васіль быў звольнены з пасады гаёвага пяць гадоў таму. Жыў і працаваў на сваім хутары. Ці стала жыццё Васіля і ягонай сям'і шчаслівым і спакойным з пачаткам Другой сусветнай вайны, калі нас «вызвалілі»

Саветы? Я задаю гэтае рытарычнае пытанне і сам адказваю: не! Сям'і Васіля савецкая ўлада падрыхтавала другое выпрабаванне, палічыўшы ягоную гаспадарку багатай і прыляпіўшы яму ярлык «кулак» за тое, што ён жыў заможна. За тое, што на адносна невялікай плошчы ворнай зямлі (адзінаццаць гектараў) выкарыстоўваў перадавыя тэхналогіі і меў значны прыбытак ад гэтых навінак. За тое, што купляў зямлю, каб сваім дзецям пакінуць прыстойную спадчыну. За тое, што ў яго з'явіліся магчымасці аддаць грошы, якія ён пазычыў у камунальнай касе Баранавіч.

А калі зазірнуць у сучаснасць, дык гэта было не што іншае, як здзек не толькі з сям'і Васіля, але і з усіх заможных гаспадарак, якія давалі магчымасць бязбедна жыць беспрацоўным, «эксплуатуемым» і іхнім сем'ям. Па сучасным разуменні багатыя стваралі бедным працоўныя месцы — няблага аплочвалі іх працу. Прынамсі, галоднага ці паўгалоднага існавання сялян ва Усходніх Крэсах не было. Беднымі лічыліся беззямельныя і малазямельныя шматдзетныя сем'і. Большасць з іх бачылі мажлівасць паляпшэння свайго быту толькі ў тым, каб набыць зямлю. А іншых магчымасцяў не бачылі, бо многія былі непісьменнымі. Не вучыліся ў жыдоў, якія амаль не займаліся апрацоўкай зямлі, а жылі матэрыяльна лепш, чым сяляне. Значная частка сялян лічыла, што калі ў гаспадарцы шмат зямлі, дык яна багатая. Паляпшэння дабрабыту ад іншых промыслаў яны не бачылі, таму і чакалі, што хтосьці дасць ім шмат зямлі і яны зажывуць багата. Сама па сабе зямля не стварае багацця. Каб яго дасягнуць, патрэбна падумаць, як зямлю апрацаваць, каб яна прыносіла багаты плён. Можна прывесці мноства прыкладаў заможных гаспадарак, якія мелі адносна мала зямлі, аднак былі аднесены камбедамі да кулацкіх. Чаму? Таму, што тыя гаспадары былі вынаходлівымі. Выкарыстоўвалі найноўшыя дасягненні навукі ў вырошчванні зерневых і кармавых культур. Займаліся пабочнымі промысламі. Менавіта тымі, якія былі ім да спадобы. Гэта: жывёлагадоўля, птушкагадоўля, рыбаводства, пчалярства, рымарства, сталярства, бондарства, ганчарства і шмат іншых. Паяўляліся ініцыятыўныя людзі, якія выкарыстоўвалі энергію вады і ветру — будавалі

вадзяныя млыны, ветракі... Такія гаспадаркі стваралі багацце. На рынках з'яўлялася мноства розных тавараў, паслуг. Гэта той шлях, па якому развівалася сельская гаспадарка Даніі і іншых заходніх дзяржаў, дзякуючы чаму гэтыя дзяржавы стварылі сваім жыхарам высокі жыццёвы ўзровень. Мне пашанцавала ў жніўні 1996 года пабываць з канцэртамі гарадзенскага духоўнага хору «Бацькаўшчына» ў Дэмакратычным Каралеўстве Данія і пабачыць на свае вочы, як умела арганізавана функцыянаванне дацкай фермерскай гаспадаркі, і напісаць аб гэтым у кнізе «Гучыць наш хор».

## 10. Маральны ўціск і фізічны генацыд заможных сялян Саветамі

У 1939 годзе прадпрымальных людзей былых Усходніх Крэсаў Саветы ахрысцілі кулакамі, капіталістамі, пачалі іх абвінавачваць у варожых адносінах да будаўніцтва сацыялізму, палічылі ворагамі народа і зліквідавалі як варожы клас. Гэтае «новаўвядзенне» адразу ж прывяло да скарачэння вытворчасці прадуктаў, тавараў. Дзе-нідзе пачаўся голад. Камуністы лічылі, калі камбеды адбяруць маёмасць, нажытую багатымі, і раздадуць яе бедным, дык усе астатнія зажывуць у аднолькавым дастатку, а менавіта багата. Яны выконвалі ідэалагічную ўстаноўку Камуністычнай партыі — ствараць ініцыятыўным заможным людзям небывалыя цяжкасці. І ўсё гэта рабілася наўмысна, каб была падстава ліквідаваць гэтыя гаспадаркі як ворагаў савецкай улады, абгрунтаваць прычыну высялення кулака са сваёй абжытай вякамі гаспадаркі. Доказам гэтаму з'явіўся факт увядзення на акупаваных землях такіх жа парадкаў, якія былі сілай праведзены на тэрыторыі СССР. Стала вядома, што такія мерапрыемствы бальшавікоў, як фізічнае знішчэнне прадпрымальнікаў (капіталістаў) у горадзе і на сяле (высяленне прадпрымальных людзей сяла (кулакоў) у халодныя рэгіёны Сібіры і пустынныя мясцовасці рэспублік Сярэдняй Азіі) трэба лічыць генацыдам супраць самых актыўных і прадпрымальных людзей народаў СССР.

Атрымаўшы такі «падарунак», сям'я станавілася бяспраўнай, траціла ўсе правы, а з кулаком і ягонай сям'ёй маглі ўчыніць, што ім уздумаецца: адабраць уласную зямлю, перасяліць з аднаго пакоя ў іншы. І самае страшнае: ставілі на чаргу па высяленню і паступова падрыхтоўвалі да высялення без усялякай прававой асновы і згоды выселеных. Пры гэтым не папярэджвалі і рабілі вываз пераважна ў зімовыя часы, па-бандыцку, ноччу. Перавозілі ў вагонах, у якіх звычайна возяць быдла. У дарозе амаль не кармілі, не давалі медыцынскай дапамогі. Былі шматлікія прыклады, калі выселеныя натуральна замярзалі. Тады ахова на хаду выкідвала з вагонаў трупы памерлых на спажыву ваўкам. І за гэтыя злачынствы ніхто не нёс ніякай адказнасці. Кулак, ягоная жонка, дзеці трацілі выбарчыя правы, права навучання ва ўстановах розных ступеняў. Кулак і ўсе ягоныя сямейнікі станавіліся выгнанцамі. І гэтыя здзекі з самых эканамічна моцных гаспадарак ініцыяваліся Камуністычнай партыяй. Ініцыятарам быў Ленін, а здзяйсняў усе ягоныя задумкі Сталін разам з сваімі членамі Палітбюро. Разлік Кампартыі быў такі: калі адбяром зямлю і маёмасць у эканамічна моцных сялян, а іх саміх з сем'ямі вывезем, то пазасталыя напалохаюцца і запішуцца ў калгас. Абагуляць сваю зямлю і маёмасць з маёмасцю кулакоў і зажывуць багата і шчасліва.

Аднак яны не ўлічылі, што толькі свабодныя і ініцыятыўныя сяляне, ды на ўласнай зямлі, ды з верай у Бога, здольныя вырошчваць багатыя ўраджаі. Мара ж малазямельных сялян была ў тым, каб займець дастаткова зямлі і каб гэтую зямлю ўлада дала дарма. У той жа час бяднейшыя сяляне не ўспаміналі пра такую прыказку, што «дармовы сыр бывае толькі ў пастцы».

## 11. Іншыя памылкі бальшавікоў

Васіль быў чалавекам адданым сваёй сям'і, дзецям. Турбаваўся аб іх будучыні. Задаваў сабе пытанне: што чакае іх у сувязі з пачаткам вайны? Здагадваўся, што Саветы ў гэтай вайне не застануцца пабочнымі назіральнікамі. Даведаўся ад парушальнікаў мяжы пяць гадоў таму, што бальшавікі ставяць мэту пабудаваць камунізм ва ўсім свеце. А зрабіць гэта мірным шляхам ім не ўдаецца. Таму разважаў, што яны не будуць староннімі назіральнікамі нападу Германіі на Польшчу, а паспрабуюць выкарыстаць гэтую вайну ў сваіх інтарэсах. Кіруючыся тэорыяй пабудовы камунізму ва ўсім свеце, яны лічылі, што пралетарыі ўсіх краін, дазнаўшыся аб паспяховым будаўніцтве сацыялізму ў СССР, самі пачнуць захопліваць уладу ў сваіх краінах. Рэвалюцыі ў іншых краінах не прывялі да захопу ўлады пралетарыятам. Там да ўлады прыйшлі людзі адукаваныя і не пажадалі пераймаць вопыт пабудовы сацыялізму па-бальшавіцку шляхам фізічнага знішчэння буржуазіі і высокакваліфікаваных людзей — інтэлігенцыі.

Яны бачылі, што бальшавікі ўсялякімі спосабамі, у тым ліку тэрорам і запалохваннем людзей, будуюць камунізм. Каб прыхаваць свае няўдачы, бальшавікі вырашылі зрабіць моцную ахову граніцы, каб пралетарыі капіталістычных краін не бачылі тых злачынстваў, якія адбываліся ў СССР, каб не даведаліся пра супраціў тых, хто раскусіў задумы бальшавікоў і пачаў выступаць супраць іх. Гэта і паўстанні тамбоўскіх сялян, і ўзброены паход Булак-Булаховіча на поўдні Беларусі супраць бальшавікоў, і ўзброенае паўстанне ў Семежаве, так званы Збройны чын, і іншыя. У той жа час нялюдскія злачынствы, тэрор і падман з'явіліся зародкам фашызму. Іх вопыт быў пераняты Гітлерам, Мусаліні і іншымі. Трэба зазначыць, што гэтыя паслядоўнікі ўзялі не ўсё ў Леніна, а самае страшнае — неабмежаваны тэрор і падман. Па-дзіцячы бальшавікі прынялі рашэнне адгарадзіцца ад капіталістычнага свету пабудовай моцнай аховы мяжы і, каб не даць сваім грамадзянам пабачыць, як людзі могуць жыць у нармальных умовах, вырашылі нікога адмыслова

не падрыхтаванага не пускаць у захопленыя імі былыя капіталістычныя краіны. Такія штучныя меры ў рэшце праз шмат гадоў пацярпелі няўдачу — Савецкі Саюз распаўся.

Васіль не ведаў таго, што яшчэ ў жніўні 1939 года між Саветамі і германцамі быў заключаны дагавор, вядомы зараз як пакт Молатава–Рыбентропа аб ненападзе. І да яго дадаваўся сакрэтны пратакол аб тым, што нямецкая армія распачне вайну з Польшчай і захопіць заходнюю частку яе аж да ракі Буга, а савецкія войскі акупуюць усю астатнюю тэрыторыю Польшчы, уключаючы Усходнія Крэсы. Аб гэтай змове дзвюх мілітарысцкіх дзяржаў стала шырока вядома толькі ў пачатку дзевяностых гадоў дваццатага стагоддзя, калі ў маскоўскіх сховішчах быў знойдзены тэкст гэтай сакрэтнай змовы і апублікаваны.

Каб апраўдаць захоп часткі тэрыторыі Польшчы перад сусветным грамадствам, Саветы акупацыю назвалі вызвольным паходам дзеля беларусаў і ўкраінцаў, што пражывалі на тэрыторыі Усходніх Крэсаў, вызваленні іх ад прыгнёту палякаў і аб'яднанні іх з сваімі братамі, якія жылі на Усходзе ў савецкіх рэспубліках БССР і УССР. Як высветлілася пазней, гэта была дзяржаўная мана сталінскага кіраўніцтва. Таму, што Саветы фактычна сілком, у змове з фашыстамі захапілі Крэсы. Гэта было не вызваленне Заходніх Беларусі і Украіны ад польскага прыгнёту, а сапраўдны захоп, таму што жыццё ў матэрыяльным плане ў СССР было значна бяднейшым, чым у Польшчы, прынамсі ва Усходніх Крэсах пры Польшчы голаду не было, а вядома, што ў Савецкім Саюзе быў не толькі голад, але і так званы галадамор, а беларусы і ўкраінцы ў нацыянальным плане не атрымалі нічога акрамя аб'яднання ў агульным канцлагеры.

У 1939 годзе мне ішоў 11-ы год. Натуральна, у той час я не разумеў, што адбывалася ў нашым краі. Пры Польшчы тыя сяляне, якія былі падманутыя савецкай прапагандай (у бальшавікоў была дасканала распрацавана сістэма падману), чакалі лепшых часоў і з прыходам савецкіх войск пачалі дапамагаць усталёўваць новыя парадкі.

Вясной 1941 года мой бацька не засяваў сваю зямлю — яго законная зямля, здабытая цяжкай шматгадовай працай, была засеяна калгаснікамі і лічылася іхняй уласнасцю.

А фактычна стала ўласнасцю ўлады — таксама як і зямля памешчыкаў і буйных землеўладальнікаў. А з пачаткам чэрвеня Васіль быў з канём і возам мабілізаваны ведамствам Берыі на дарожнае будаўніцтва. Бацька адбываў гэтую павіннасць да пачатку вайны з фашысцкай Германіяй на ўчастку за вялікай вёскай Стайкі. Гэта была абавязковая працоўная павіннасць. Бацька вазіў пясок для пясчанай падсыпкі дарожнага палатна новай дарогі Мінск–Брэст. А калі хтосьці не пагаджаўся з гэтай павіннасцю, то яго запісвалі ў сабатажнікі і судзілі. У тыя часы бацьку часцяком прыходзілася выконваць з фурманкай розныя павіннасці. Акрамя дарожных работ бацька з канём і возам вазіў рудастойкі з лесу да чыгуначнай станцыі. І за такую работу дзяржава не плаціла і не карміла. А калі плаціла, то такую суму, якая не папаўняла фізічных затрат працоўных.

У пачатку чэрвеня 1941 года мяне і майго старэйшага брата Мікалая наша мама паслала да бацькі. Сказала аднесці яму харчы, бо савецкія дарожнікі мабілізаваных сялян не кармілі. Бальшавікі лічылі, што сяляне павінны самі сябе карміць за свой кошт. Ішлі мы туды пешшу. Час быў трывожны. Лёталі нямецкія самалёты, чамусьці ім дазвалялася лётаць над нашай тэрыторыяй. Мабыць, таму, што ў той час была дружба між Германіяй і СССР.

## 12. Напад фашыстаў на СССР

Існаваўшыя ў той час самыя магутныя мілітарысцкія дзяржавы СССР і Германія не былі аднолькавымі па ўсіх паказчыках. Аднак супадзенні былі ў іх. І тая, і другая называлі сябе сацыялістычнымі дзяржавамі. І тая, і другая мелі аднолькавыя мэты: захапіць сусветнае ўладаранне на Зямной кулі. З моманту кастрычніцкага захопу ўлады бальшавікамі ленінская Камуністычная партыя бальшавікоў вырашыла траціць усе свае сродкі на абарону, як яны называлі, сацыялістычных заваёваў пралетарыяту. Дзеля гэтага яны лічылі галоўным мець моцную армію, аснашчаную самай сучаснай зброяй, пры гэтым фактычна не турбаваліся аб матэрыяльным забеспячэннем насельніцтва, а рабілі

ўсё так, каб насельніцтва — жыхары сяла самі галадалі, а за свой кошт кармілі рабочых розных прадпрыемстваў. Дзеля гэтага ўстанаўлівалі незвычайна вялікія зямельныя падаткі. З году ў год пагаршаўся матэрыяльны стан людзей ва ўсіх рэспубліках. У магазінах, як у харчовых, так і ў мануфактурных, былі амаль пустыя паліцы. Продаж харчоў нармаваўся часцяком картачнай сістэмай. З пераходам у сельскай мясцовасці да суцэльнай калектывізацыі колькасць прадукцыі памяншалася, а ўсё лепшае ішло ў асноўным на пайкі кіраўнікам. Патрабавалася ўтрымліваць аграмадную армію, якую рыхтавалі дзеля захопніцкіх войнаў і ўдушэння паўстанняў уласнага народа. Трэба было карміць вялікую армію рабочых, якія выраблялі зброю і шмат чаго іншага. У той жа час калгасная сістэма давала ўсё менш і менш прадукцыі. Савецкай дзяржаве не хапала сродкаў на паляпшэнне матэрыяльнага забеспячэння простых людзей, бо Савецкі Саюз рыхтаваўся да вайны. Большасць бюджэтных сродкаў ішла на ўзбраенне. Расло незадавальненне шырокіх масаў насельніцтва. Каб папярэдзіць выбух, было створана Сталіным моцнае міністэрства ўнутраных спраў, НКУС, на чале якога быў прызначаны вядомы бандыт Берыя, інакш яго не назавеш. Ён жорстка душыў усялякае недавольства, колькасць арыштаваных з дня на дзень расла. Расло, нягледзячы на масавую смяротнасць, насельніцтва ГУЛАГу. З простымі людзьмі не лічыліся. Колькасць расстраляных «ворагаў народа» павялічвалася. У жніўні 1939 года быў падпісаны Молатавым і Рыбентропам маскіровачны пакт аб сяброўстве і ненападзе і сакрэтны пратакол аб раздзеле Польшчы. Апошні быў апублікаваны пасля распаду СССР недзе пасля 1991 года.

І ў той жа час шырока апавяшчалася і рэкламавалася па радыё і па ўсіх каналах дружба паміж дзвюма мілітарысцкімі дзяржавамі на вякі. У Берасці пасля разгрому Польшчы праводзіўся сумесны парад войск Германіі і СССР. Спявалі фальшывыя песні: «Чужой земли мы не хотим ни пяди, но и своей вершка не отдадим».

«Двадцаць второго июня ровно в четыре часа Киев бомбили, нам объявили, что началася война», — так спявалі ў тыя трагічныя дні. Скончылася гульня ў фальшывую дружбу.

Кожны з драпежнікаў збіраўся напасці на «сябра» першым і з’есці яго. Гітлеру ўдалося апярэдзіць Сталіна на некалькі дзён. Сталінскія войскі, якія збіраліся заваяваць пакуль што ўсю Еўропу, маючы велізарную перавагу ў колькасці і ўзбраенні, не былі падрыхтаваныя да абарончай вайны і пакаціліся назад у Расію аж да самых сценаў Масквы. Толькі вялікімі ахвярамі, коштам мільёнаў людскіх жыццяў, з дапамогай антыгітлераўскай кааліцыі ўдалося перамагчы фашысцкага звера.

Сталін па крыважэрнасці нічым не саступае Гітлеру, і нават пераўзыходзіць яго, бо вінаваты персанальна ў гібелі мільёнаў чалавек розных народаў, не толькі савецкіх, але і іншых. Гэтае сцвярджэнне можна даказаць шматлікімі прыкладамі забойстваў па персанальным указанні Сталіна людзей без суда і следства. Ёсць шмат фактаў, якія сведчаць аб расправе над невінаватымі людзьмі. Так, перад вайной Сталін запрасіў у Маскву на адпачынак усё кіраўніцтва КПЗБ і іншых партый Усходніх Крэсаў і аддаў загад Берыі арыштаваць іх і расстраляць усіх без суда і следства. Калі мы ехалі з хорам «Бацькаўшчына» ў 1996 годзе на першы канцэрт у горад Хорстэнс Дацкага Каралеўства, я пацікавіўся ў нашага гіда Эрыха Ланк’ера аб дзейнасці кампартыі Даніі. І атрымаў адказ: «Пасля таго, як па загаду Сталіна, падчас вайны з фашыстамі, дэлегацыя дацкай кампартыі была ім палічана варожай і расстраляная, то тады дацкая кампартыя была распушчана, а зараз Дацкім Каралеўствам паспяхова кіруе сацыял-дэмакратычная партыя Даніі.

Вядома, што Данія па ўзроўню сацыяльнага забеспячэння сваіх грамадзян займае адно з першых месцаў у свеце, ні адна з мілітарысцкіх дзяржаў, дзе кіруюць камуністы, пакуль не дабілася такіх поспехаў у матэрыяльным забеспячэнні свайго насельніцтва. Былыя грамадзяне магутнай імперыялістычнай дзяржавы СССР памятаюць выслоўе: «Призрак бродит по Европе — призрак коммунизма». Так ён і да гэтага часу бадзяецца ў такіх дзяржавах, як КНДР, Куба і іншыя. Вядома, што па ўзроўню сацыяльнага забеспячэння свайго насельніцтва гэтыя дзяржавы займаюць апошнія месцы ў свеце.

## 13. Падзеі падчас змены савецкай улады нямецкай

Пасля таго як нямецкія фашысты акупавалі нашу мясцовасць, у нас адбываліся наступнае: камбеды ў Бортніках былі ў разгубленасці і, натуральна, перасталі існаваць. Старшыня камітэту Аляксандр Сняжко не ведаў, як паводзіць сябе, таму што ён нёс адказнасць за тыя злачынствы, якія нанесла савецкая ўлада тым гаспадаркам, што былі раскулачаныя. Беднякі з нецярпеннем чакалі высялення раскулачаных гаспадароў, спадзеючыся, што ім дастануцца і зямля, і пабудовы. Зімой 1940/41 года ў Бортніках быў арганізаваны калгас, які назвалі «Сталінскі шлях», а раскулачаным гаспадаркам камбеды паведамілі, што іх землі пераходзяць ва ўласнасць створанага калгаса і разам з землямі сялян, якія запісаліся ў калгас, складаюць аснову калгаса. Зямля бацькі (гэта восем гектараў былога памешчыцкага парку з забудовамі і шэсць гектараў ворнай зямлі з захаду парку) рашэннем камбедаў была нацыяналізаваная і перадавалася калгасу. І вось 22 чэрвеня ўсё раптам змянілася — пачалася вайна.

У Бортніках на Галёніі сабраліся на пасядзелкі былыя сябры Аляксандр Сняжко, Шведы — Міхась і Іван, Іван Шарапа, старшыня калгаса «Сталінскі шлях» Алесь Шчэрба і іншыя. Сабраліся і вырашылі абмеркаваць, як ім жыць пры новай уладзе. Міхась Швед спытаў у Аляксандра Сняжко:

— А чаму гэта ты не ўцёк разам са сваёй уладай? Ты ж, мусіць, яшчэ пры Польшчы супрацоўнічаў падпольна з бальшавікамі. Нацкаваны імі, арганізаваў калгас, незаконна адабраўшы землі ў кулакоў, раскулачваў заможныя сем'і, рыхтаваў іх на вываз у Сібір на пагібель і думаў, што ты будзеш жыць панам у іх дамах. Не, галубчык, каб табе панаваць, трэба было зараз уцякаць разам з бальшавікамі на Усход. А цяпер цябе за твае беззаконныя справы трэба судзіць.

На гэтую жорсткую справядлівую крытыку не мог змаўчаць Аляксандр Сняжко, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР. Ён пачаў, як заўжды, з палітычнага ўступу:

— Мне не зразумела адно, чаму такая магутная краіна церпіць паразу ад учарашніх сваіх сяброў германцаў. Прайшло не шмат часу, як між СССР і Германіяй у жніўні 1939 года заключаны дагавор аб ненападзе. І раптам германцы па загадзе Гітлера напалі на СССР. Мы бачым, што немцы за гэтыя дні актыўна захопліваюць нашыя землі і Чырвоная Армія калі і супраціўляецца гэтаму нападу, як, напрыклад, у лясным масіве Храмуша, дык фашысты ўсё роўна іх перамагаюць. Нямецкае камандаванне дабілася сваёй мэты. І наступ на Менск фашыстаў працягваецца.

Што тычыцца крытыкі Міхася Шведа ў мой адрас, магу сказаць наступнае: я не лічу сябе вінаватым у тым, што савецкая ўлада ставіла мэтай пабудову камуністычнага грамадства і ў прыватнасці перабудову сельскай гаспадаркі на новы сацыялістычны лад у нас. Я вінаваты ў тым, што выконваў указанні вышэй стаячага раённага начальства. І калі б я гэтага не выконваў, то хтосьці з вас рабіў бы тое, што лягло на мае плечы. А што тычыцца таго, чаму я, як дэпутат, не ўцёк разам з хаатычна адступаючай Савецкай Арміяй, то гэта мая памылка. Але ж так гвалтоўна наступаючая нямецкая навала не дала мне магчымасці пакінуць маю сям'ю. І я разгубіўся. Я думаў, што тыя, хто рэкамендаваў і прасоўваў мяне ў дэпутаты, у гэтыя трагічныя дні ўспомняць пра мяне і маю сям'ю. Аднак ніхто не ўспомніў. Выходзіць, што зараз я нікому не патрэбны. Таму я вырашыў застацца на месцы. А ў тым, што мы ўсе разам з камбедамі будзем адказваць за ўсё, што Міхась Швед пералічыў, дык усім нам, прысутным актывістам, прыйдзецца адказваць за раскулачванне заможных сялян і падрыхтоўку іх на вываз сем'ямі ў Сібір.

І тут пачаў гаварыць Іван Швед:

— Выслухаўшы цябе, Аляксандр, я зрабіў выснову, што ты ўліп у непрыгожую справу, садзейнічаючы бальшавіцкім агентам пры Польшчы. Ты сваім падпольным супрацоўніцтвам з імі спрыяў таму, каб яны акупавалі наш край. Бальшавікі ўлічылі твае заслугі: абралі цябе дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР і кінулі ў такі трывожны час. А цяпер ты задумаў застацца і віну за злачынства савецкага рэжыму разлажыць на ўсіх членаў камбеда. Не, Аляксандр,

табе трэба было кінуцца ў бягі, бо найбольшая віна ляжыць на табе. Цябе мы павінны судзіць сваім судом.

І ў гэты момант хтосьці з прысутных пырнуў нажом дэпутата ў жывот. Раненне было цяжкім і адбылося каля сямідзесяці гадоў таму, таму цяпер трудна ўстанавіць віноўніка гэтай трагедыі…

Хуценька запрэглі каня, у звычайны сялянскі воз палажылі саломы і на гэтым возе павезлі раненага ў бліжэйшы шпіталь — Гарадзішча. Прывезлі яго туды ў дрэнным стане. Дактары зрабілі ўсё, што было магчыма ў той час, аднак выратаваць Аляксандра не ўдалося. Праз нейкі час ён памёр. Пахаванне адбылося з лямантам-плачам родных у сувязі з тым, што ён пайшоў з гэтага свету пры трагічных абставінах. Узнікае пытанне, хто вінаваты ў заўчаснай смерці дэпутата. На гэтае пытанне простага і адназначнага адказу няма. Адказ на яго можна даць, калі прааналізаваць падзеі, якія адбыліся пазней. Пахаванне скончана. Ідуць дахаты родныя і плачуць, ягоная жонка Марыя галосіць, а насустрач гэтым людзям едзе нямецкі патруль. Спыняюцца, праз перакладчыка пытаюць:

— Што здарылася?

Жонка забітага сцішылася і сказала:

— Мой муж быў на пасядзелках у кампаніі. П’яныя бандыты пырнулі ў жывот нажом, і праз нейкі час у шпіталі Гарадзішча ён памёр.

Пры гэтым Марыя Сняжко, удава дэпутата, не сказала, што яе муж быў дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР. І тады нямецкі начальнік пытае:

— А хто зрабіў гэтае злачынства і па якой прычыне?

— Пан начальнік, — сказала Марыя Сняжко, — зрабіў гэта бандзюга Іван Шарапа ў п’янай кампаніі.

Тады немец піша, што віноўным у забойстве Аляксандра Сняжко з’яўляецца Іван Шарапа, і патрабуе паставіць тры подпісы сялян. Сярод гэтых падпісантаў мне вядомыя былі Марыя і Адам Сняжко, а трэці мне невядомы, таму што тую распіску з подпісамі забраў нямецкі начальнік і даў распараджэнне сваім падначаленым арыштаваць вінаватага і прывесці яго да сябе. Івана Шарапу арыштавалі і прывялі пад дом А. Сняжко, уручылі яму рыдлёўку і адвялі ад гэтага

дома за сто метраў на поўдзень у поле. І Іван Шарапа па загаду нямецкага патруля капае сабе магілу. Праз нейкі час пачуліся стрэлы з аўтамата, і Івана не стала. Так немцы-фашысты адпомсцілі за забойства сялянамі камуніста.

Там яго і пахавалі. Я гэты магільны грудок бачыў заўсёды, калі ішоў у Вальнянскую школу. Прайшло з тых пор амаль семдзесят гадоў. Той магільны грудок знік, і зараз, калі я праязджаю каля хаты Аляксандра Сняжко, то там, дзе ён быў і напамінаў нам аб тых трагічных падзеях, ужо роўная зямля. Гэтак жа зніклі клады як рускіх, так і нямецкіх могілак абедзвюх сусветных войнаў, якія былі на тэрыторыі Бортнікаў.

Так немцы пачалі наводзіць свае парадкі ў Бортніках. Нам і ўсім раскулачаным у сувязі з захопам нашай мясцовасці фашыстамі атрымалася адтэрміноўка ад страшнага пакарання — вывазу ў Сібір. Каб гэтае злачынства здзейснілася, то малаверагодна, што мы ўсе там у далёкай Сібіры выжылі б. Падчас нямецкай акупацыі мы заставаліся на месцы. Мае бацькі пасля таго, як калгас сам па сабе рухнуў, пачалі разам з дзецьмі працаваць на сваёй зямлі, а ўвосень пайшлі ў школу: я — у пяты, Мікалай — у сёмы клас Вальнянскай школы, а сястра Соня ў першы клас Бортніцкай школы. Вучыліся на беларускай мове і памагалі бацькам па гаспадарцы, працавалі на сваёй, потам сям'і Пракопчыкаў палітай зямлі, якую бацькам вярнула нямецкая адміністрацыя, запатрабаваўшы плаціць ім падатак значна меншы, чым кулакі плацілі савецкай уладзе. Да гэтых падзей трапна пасуе народнае выслоўе: «Няма такога благога, каб яно ўрэшце не выйшла на добрае». Заможныя сяляне, якія жылі раней на сваіх законна нажытых хутарах, падчас вайны былі вызвалены ад страшнага лёсу — вывазу ў раёны, мала прыдатныя для жыцця. Бальшавікі да такіх людзей ставіліся горш, чым да злачынцаў, называлі іх ворагамі народа. Віна іх была ў тым, што яны былі заможнымі. Іх лічылі ворагамі народа і вывозілі не з мэтай, каб гэтыя людзі жылі і працавалі, а каб яны загінулі. Так яно і адбылося. Пераважная большасць «ворагаў народа», вывезеных да вайны з усходніх абласцей Беларусі, а таксама і ўсіх рэспублік у складзе СССР, загінулі і пахаваныя не на радзіме, а там, на

Поўначы, у тайзе Сібіры, пустынных стэпах Казахстана, у Якуціі, на Далёкім Усходзе і іншых месцах.

У пацверджанне гэтага існуе шмат дакументальнай літаратуры. Аб гэтым сведчаць і кнігі Салжаніцына і іншых рускіх пісьменнікаў, а таксама і беларускіх, напрыклад Мікалая Мельнікава, Ільі Копыла і многіх іншых.

## 14. Захоп нямецкімі фашыстамі нашай мясцовасці ў 1941 годзе

— Сталін, нягледзячы на пакт, заключаны ў жніўні 1939 года Молатавым і Рыбентропам аб ненападзе і дружбе дзвюх «сацыялістычных» дзяржаў, рыхтаваўся да вайны, таму і не планаваў належных абаронных мер супроць Германіі. Не нацэліў сваю армію на абарону. А стратэгія Савецкай Арміі была такая ж як і германскай — наступальнай.

Гітлер, аднак, напаў першым 22 чэрвеня 1941 года, аддаўшы загад нанесці бомбавыя ўдары па гарадах, аэрадромах, казармах, камандных пунктах Саветаў і пачаў наступленне па ўсёй заходняй мяжы СССР.

Разведка даносіла Сталіну, што пачалося наступленне фашысцкай арміі па ўсяму фронту заходняй граніцы, аднак ён палічыў, што гэта правакацыя. Гэтая збянтэжанасць вярхоўнага галоўнакамандуючага прывяла да таго, што гітлераўская армія адразу ж мела незвычайны поспех. Савецкае камандаванне было ў разгубленасці. Пачалося панічнае адступленне савецкіх войскаў на Усход.

І калі на шляху нямецкіх войскаў узнікаў моцны ачаг супраціву савецкіх войскаў, то нямецкае камандаванне пераапранала ў савецкую форму дыверсантаў і яны разам з савецкімі чырвонаармейцамі пранікалі ў ачаг супраціву. Абязглаўлівалі камандаванне і такім чынам сеялі паніку ў многіх вайсковых адзінках.

Напрыклад, на адлегласці аднаго кіламетра ад вялікай вёскі Вольна і ў трыццаці кіламетрах ад Баранавічаў знаходзіцца лясны масіў Храмуша плошчай прыкладна семдзесят гектараў. Там занялі свае пазіцыі дзве савецкія дывізіі з абозам. Адной камандаваў генерал-маёр Кабанаў,

а другой — вайсковец ніжэйшага рангу — палкоўнік. Чаму не генерал? Таму, што Сталін перад вайной расстраляў шмат генералаў, а на замену генералаў не хапала, таму другую дывізію ўзначальваў палкоўнік. У Храмушы размясціліся з абозамі дзве адступаючыя савецкія дывізіі і затрымалі на нейкі час наступ немцаў па дарозе на Менск. Бамбаванне Храмушы не прынесла немцам поспехаў, і тады яны пайшлі на хітрыкі: пераапранулі сваіх спецыяльна падрыхтаваных жаўнераў у савецкую форму. Яны далучыліся да адступаючых чырвонаармейцаў, разам з савецкімі войскамі праніклі ў Храмушу і гранатамі знішчылі камандаванне абедвюх дывізій. Пасля гэтага практычна без бою немцы захапілі Храмушу. Немцы мабілізавалі мясцовых сялян вёсак Вольна, Залесся, бліжніх хутароў вёскі Стайкі на капанне ямы на ўскрайку Храмушы і пахаванне трупаў усіх загінулых. Асобна былі пахаваныя генерал-маёр Кабанаў і іншыя кіраўнікі дывізій. Іх магілы з надпісамі я бачыў, калі ехаў па торф дарогай, якая праходзіць па заходнім ускрайку Храмушы і вядзе ў балота Ясянёва.

## 15. Рабункі вайсковай маёмасці ў Храмушы

Немцы пайшлі далей на Мінск. У Храмушы засталося шмат вайсковага правіянту ад дзвюх дывізій. Гэты правіянт заставаўся безнаглядным, бо адказныя за гэтую харчовую і іншую вайсковую маёмасць былі або забітыя, або проста пайшлі на ўсход, ці шукалі магчымасць уратаваць сваё жыццё. Іншыя трапілі ў нямецкі палон. Нямецкае камандаванне, відавочна, гэтай маёмасцю дзвюх дывізій не цікавілася, таму яны ніякай аховы гэтаму багаццю не забяспечылі. Яны ад свайго камандавання мелі загад як мага больш узяць у палон чырвонаармейцаў. Мясцовыя сяляне пачалі гэтае безнагляднае дабро забіраць на свае патрэбы. Былі сярод мясцовага люду марадзёры. Дыверсанты, відавочна, атрымалі інструкцыю не толькі вывесці са строю камандуючых дывізій, але па магчымасці перастраляць малодшы афіцэрскі састаў, тых, хто камандаваў шараговымі байцамі. Адзін выпадак марадзёрства атрымаў значную пагаласку ў

нашым сяле. Хутаранін, прозвішча і імя яго я не памятаю, помню толькі, дзе быў ягоны хутар: прыкладна паўтара кіламетра ад бацькоўскага дома. Гэтая падзея адбылася пасля таго, як немцы ліквідавалі супраціў у Храмушы. Храмуша была на адлегласці ад гэтага хутара каля двух кіламетраў. Назавём умоўна гэтага хутараніна Іванам. Дык вось Іван, даведаўшыся, што ў Храмушы можна пажывіцца, бо там засталося шмат дабра пасля нападу гітлераўцаў, вырашыў схадзіць і штосьці дарма прыхапіць, маўляў, не прападаць жа дабру. Ідзе і бачыць: ляжыць забіты нейкі камандзір, абуты ў хромавыя боты. Іван і разважае: «Во дзе дабро прападае, ўсё роўна яго закапаюць і боты яму ўжо будуць непатрэбныя, а мне яны во як спатрэбяцца» і пачаў труп той разуваць. А камандзір быў цяжка ранены, адчуў, што нехта здымае з ягонай нагі бот. І тут ён перасіліў сябе, палажыў руку на кабуру і крыкнуў:

— Ах ты, мародёр! Я тебя пристрелю!

У гэты момант Іван зразумеў, што зараз ён загіне. Ён так спужаўся, што, як у нас кажуць, яму сарвала сік. Рукі затрэсліся, выпусцілі нагу з ботам. Адвярнуўшыся ад раненага, ён зрабіў паціху некалькі крокаў, чакаючы, што прыгавор раненага будзе выкананы. Паранены, аднак, ужо не меў сілы націснуць на курок. Іван жа цяпер пачаў вінаваціць сябе за свой подлы ўчынак і папракаць самога сябе: «Так табе, марадзёру, і трэба», ледзь даплёўся дахаты. Прыйшоў. Лёг на ложак, нічога не кажучы. Трызніў, што зараз грымне стрэл і яго не стане. Так працягвалася два дні, а на трэці ён памёр. Сумленне забіла. На ягоным пахаванні людзі казалі, што яго пакараў Бог.

Хто меў каня і воз, прыязджаў і браў: розныя канцэнтраты, кансервы, усё, што было прывезена вайсковым абозам, а цяпер стала безнаглядным.

Падчас гэтых падзей да майго бацькі Васіля ў той час звярнуўся адзін з бортніцкіх жыхароў, які не меў каня:

— Дзядзько Васіль, пазыч мне каня з возам. Ведаеш, што пасля ўцёкаў бальшавікоў з Храмушы засталося шмат вайсковага дабра. Хачу з'ездзіць туды і таксама набыць што-кольвек сабе. Усё роўна дабро расцягнуць, а мне нічога не застанецца.

— Не, Іван. Не крыўдуй. Не дам, бо што падумаюць людзі: «Во глядзі, Васіль Пракопчыкаў сам не паехаў, а паслаў бясконнага, каб пажывіцца вайсковым дабром». Каб ты прасіў каня на іншыя мэты, скажам, прывезці дахаты сена з свайго лугу, то я б даў табе яго абавязкова, а на гэтую справу, прабач, не дам.

## 16. Панічныя ўцёкі савецкіх жаўнераў з Храмушы

Вольна, Залессе, Бортнікі і другія паселішчы размяшчаюцца на ўскраіне Наваградскага ўзвышша, непадалёку ад ляснога масіву Храмушы. Пасля разгрому немцамі дзвюх савецкіх дывізій у Храмушы, пазасталыя жывымі савецкія вайскоўцы пачалі панічна ўцякаць з гэтага лесу ва ўсе бакі. Мала каму з іх хацелася добраахвотна здавацца ў палон фашыстам. Таму савецкія салдаты знаходзілі такія месцы, дзе днём можна адседзецца, а ноччу ісці на ўсход. Напрыклад, у Калюзе ля вёскі Стайкі былі хутары, у тым ліку і два хутары маіх дзядзькоў Паўла і Давыда.

За гадзіну да світанку пастукалі ў дзверы. Група чырвонаармейцаў папрасіла іх пакарміць і дазволіць ім затрымацца на хутары да наступнага вечара. Бабуля Ксенія і жонка Паўла Марыя пакармілі іх. А адпачыць да вечара ім дзядзя Павал рэкамендаваў:

— Вунь там наводшыбе знаходзіцца маё гумно. Дзверы там не замкнёныя. Ідзіце і адпачывайце. Там ёсць зроблены з дошак насціл, а на ім ляжыць салома. Залазьце пад насціл і адпачывайце. Могуць днём прыйсці немцы і пачнуць штыкамі карабінаў пароць салому на насціле. Дык вы спакойна ляжыце — яны мінулым днём прыходзілі і пыталіся: «Wo sind russishe Soldaten hier?»* Пасля ішлі ў гумно і штыкамі паролі салому, а пад насціл не заглянулі.

Чырвонаармейцы паслухалі гаспадара дома і пайшлі адпачываць. Праляжалі там увесь светлавы дзень, а вечарам, калі добра сцямнела, зайшлі ў хату. Іх пакармілі. Яны падзякавалі і пайшлі.

---

* Дзе тут рускія жаўнеры? (*Ням.*)

Чырвонаармейцы спрабавалі і днём ісці на ўсход, дык немцы ў Бортніках на горцы за хутарам Аляксандра Сняжко выставілі назіральны пункт. Аднаго разу нямецкія назіральнікі заўважылі, што два чырвонаармейцы на адлегласці некалькіх кіламетраў ідуць у напрамку нашага хутара. Назіральнікі тут жа даюць каманду сваім жаўнерам стрэць іх. Тыя садзяцца на трохколавы матацыкл і пруць на перахват. Гэтую падзею ўвачавідкі прышлося ўбачыць мне, маме і брату, бо тады якраз мы былі на сваім полі — асыпалі бульбу-скараспелку. На адлегласці ад нас не болей за пятнаццаць метраў прамчаўся трохколавы матацыкл з трыма ўзброенымі немцамі і прыпыніўся па дарозе на Завоссе за сто метраў ад нас. Тут жа пачулася страляніна з кулямёта. Мы пакідалі гачкі, паляглі і толькі выглядалі, што будзе далей. Страляніна хутка сціхла, і мы ўбачылі, як адзін чырвонаармеец падняў рукі ўгору і ідзе да матацыкла, а за ім з аўтаматам крочыць немец. Пасля немцы сядаюць на матацыкл і едуць, а наперадзе бяжыць чырвонаармеец. Немцы падганяюць крыкамі: «Schneller, schneller!» Матацыкл і чырвонаармеец за паваротам знікаюць у вёсцы Бортнікі.

Неўзабаве на месца, дзе ляжалі чырвонаармейцы, прыйшлі жыхары вёскі Бортнікі і знайшлі там забітага чырвонаармейца. Пахавалі яго непадалёку ад некалькіх магілак салдат Першай сусветнай вайны. Тады яшчэ на іх магілах былі крыжы. Гэтыя клады былі на мяжы балота нашага суседа Яцкевіча, прыкладна сто метраў ад дома Міколы Сеўрука.

Пасля пахавання жанчына, якая ўзяла ягоныя дакументы, сказала, што гэты чырвонаармеец родам з Цэнтральнай Расіі, і абяцала, што пасля вайны напіша ліст на ягоную радзіму. А ці выканала яна сваё абяцанне, мне гэта невядома. Даведацца аб гэтым у тых людзей зараз немагчыма. Прайшло з тых пор шмат часу. Тое пакаленне зышло ў нябыт... У маёй памяці захавалася і тое, што на горцы былога хутара Бубноўскага былі таксама клады царскіх жаўнераў Першай сусветнай вайны. На іх магілах былі крыжы. Я там нават бачыў свежую магілу гітлераўскага жаўнера, які быў пахаваны ў вялікай спешцы ды так неахайна, што былі бачныя ягоныя ногі. Тыя клады, як стаў калгас, былі зруйнаваныя. Зараз цяжка знайсці іх сляды.

Былі і такія падзеі, аб якіх расказаў мне мой знаёмы Алёша. Яму было дзевяць гадоў, ён пасвіў кароў. Днём пасля ранішняга выпасу ён гнаў свой статак у хлеў. І раптам ля жытнёвага поля пачуў голас:

— Мальчик! Мальчик!

Ён павярнуў галаву і ўбачыў у жыце галаву чырвонаармейца. Той знакамі паклікаў хлопца да ўскрайку жытнёвага поля і запытаўся:

— Скажи-ка, мальчик, в деревне немцы есть?

— У нашай вёсцы немцаў няма.

— Хорошо. Где твой дом?

— Мой дом вось тут за дарогай. Я ганю свой статак у хлеў.

— Загониш своё стадо в хлев, зайди в дом и скажи своей маме, што мы хотим кушать.

Загнаў і ўвайшоў у хату. Расказаў маме аб сустрэчы з чырвонаармейцам і аб ягонай просьбе. Маці запытала:

— А колькі іх там?

— Не ведаю, ён сказаў, што «мы хацім кушаць».

Маці налівае збан малака. Кладзе збан у палатняную торбу разам з буханкай хлеба і кубкам. І хлопчык ўсё гэта нясе на тое месца, дзе сустрэў чырвонаармейца. Аднак яго там ужо не было. Ён паклікаў хлопца з іншага месца. Відавочна, баяўся, што той мог падказаць немцам, дзе хаваюцца савецкія салдаты. Хлопчык перадаў яму прынесенае. Той узяў і папрасіў пачакаць, покуль яны будуць есці. Праз некалькі хвілін чырвонаармеец прынёс торбу са збанком і кубкам і папрасіў, каб хлопец прынёс ім і ў наступны дзень штосьці паесці. Так той хлопец прыносіў ім і малако, і сала некалькі дзён. А пасля яны кудысьці зніклі. Магчыма, у кагосьці пераапрануліся і засталіся на часовае пражыванне. Так, у нас на нейкі час затрымаўся вайсковец, і відаць было, што ён быў даволі адукаваным чалавекам.

Такія пераапранутыя чырвонаармейцы пасяляліся пераважна ў заможных сялян.

Заходзілі такія людзі і да нас і нейкі час жылі ў маіх бацькоў. Жыў у нас адзін чалавек, які расказаў, што ён былы савецкі вязень. Ён вельмі прыгожа спяваў розныя песні, у тым ліку і тыя, якія пры Саветах былі забароненыя. На жаль,

я яго прозвішча не памятаю. Быў ён у нас не доўга, а пасля кудысьці пайшоў.

Жыў і працаваў у нас салдат Іван Васіленка, які расказваў, што ён родам з казакоў Краснадарскага краю. І калі немцы гэтых вайскоўцаў у канцы 1942 года забіралі на работы ў Нямеччыну, то ён не пайшоў у партызаны, а добраахвотна паехаў у Германію.

## 17. Што адбылося ў вальнянскай царкве падчас уцёкаў Савецкай Арміі з Храмушы

Гэтую гісторыю мне расказаў мой бацька Васіль.

З акружэння ў Храмушы ўдалося вырвацца і двум узброеным палітрукам. Яны праходзілі паўз вальнянскую царкву і вырашылі зайсці ў плябанію — дом, у якім жыла сям'я бацюшкі Пятра Герасімовіча. Сказалі яму ўзяць ключы ад царквы і ісці за імі. Падышлі з паўночнага ўваходу царквы і загадалі Пятру адчыніць дзверы. Увайшлі ў царкву. Пачалі падымацца на званіцу па вінтавой лесвіцы. Затрымаліся на пляцоўцы ля званоў.

Адзін з палітрукоў сказаў:

— Батюшка Пётр, вы догадываетесь, с какой целью вы, верующий, а мы, безбожники, поднялись на звонницу? Мы с другом Фёдором хотим проверить, есть ли Бог на свете. Предлагаем вам вот из этого окна прыгнуть на землю. Если вы останетесь живым, тогда и мы станем верующими.

Бацюшка Пётр не разгубіўся, сказаў:

— Хорошо, прошу вас разрешить мне помолится перед смертью, — і, не чакаючы адказу, укленчыў, падняў рукі ўгору да неба і пачаў эмацыянальна маліцца.

Прайшло хвілін з дзесяць. Палітрукі занерваваліся. І тут раптам з боку Храмушы пачуліся стрэлы і гул нямецкіх машын. Палітрукі стрымгалоў пачалі ўцякаць з царквы, каб не папасці ў нямецкі палон. Малітва скончана. Пётр спакойна спусціўся па пакручастай лесвіцы са званіцы. Зачыніў дзверы. Не знайшоў сваіх эксперыментатараў. І да канца жыцця памятаў, як Бог дапамог яму ўратавацца ад смерці.

## 18. Нямецкія дыверсанты

За два дні да падзей 22 чэрвеня 1941 года перад рэчкай з правага боку, калі ехаць з Баранавіч, у дом, які стаяў у цэнтры вёскі Вольна на скрыжаванні Бортнікі — Вальнянская царква і Баранавічы — Паланечка, жылі дзве бабулі, якія былі ў нейкім далёкім сваяцтве з бортніцкімі сялянамі. І калі я хадзіў падчас акупацыі ў Вальнянскую школу, то выпадкова трапіў у іх дом. Мне неабходна было пераабуцца, таму што пры пераходзе праз рэчку Змейку з левага берага ракі на правы лёд трэснуў, я набраў у свае чаравікі вады і не ведаў, што рабіць. Маю збянтэжанасць заўважылі гэтыя бабулькі і прывялі мяне ў свой дом. Распыталі мяне, чый я хлопец і як гэта я рызыкнуў пераходзіць праз рэчку пры такім ненадзейным лёдзе. Гэта адбылося ў пачатку студзеня 1942 года. Даведаўшыся, што я сын бортніцкага Пракопчыкавага Васіля, бабулькі сказалі, што добра ведаюць майго дзеда і ўсё сямейства Пракопчыкаў. Разулі мяне. Замянілі мокрыя анучкі сухімі, а мае палажылі сушыцца. Сагрэлі мяне і пачаставалі гарачым чаем з малінавым варэннем. І расказалі пра цікавыя падзеі, якія адбыліся ў іх доме перад вайной і ў пачатку апошняй вайны. Адна з бабулек, відаць старэйшая, якую звалі Марыя, папярэдзіла мяне, каб нікому не расказваў, прынамсі да канца вайны, пра тое, што я пачуў. Цяпер пра гэта можна расказваць, што я і раблю: «Дваццатага чэрвеня 1941 года ў наш дом завіталі двое незнаёмых савецкіх афіцэраў і папрасілі нас дазволіць ім пакінуць іх чамаданы ў нашым доме, бо ім трэба схадзіць да знаёмых сяброў у Пянчын, а валачыцца з гэтымі чамаданамі нязручна. Мы з сястрой пагадзіліся і палажылі тыя чамаданы ў камору, каб ніхто не цікавіўся, адкуль у нас гэтыя чамаданы і што ў іх захоўваецца.

22 чэрвеня пачалася вайна. Была вялікая паніка. Пасля падзей у Храмушы нямецкія войскі пайшлі калонамі на Паланечку. Праз Бортнікі адным ранкам прарываюцца каля дзясятка савецкіх танкаў з невялікім абозам у той самы час, калі праз Вольну рэгулярна ідуць нямецкія калоны на Паланечку. Спыняецца гэтая калона ў Галёніі ў канцы вёскі Бортнікі, і танкісты звяртаюцца да жыхароў з просьбай

знайсці ім паліва, бо без паліва калона вымушаная будзе заставацца на месцы і пачаць бой з акупантамі тут, ля вёскі. Бортніцкія сяляне знайшлі паліва, і танкавая калона з невялікім абозам рушыла на вальнянскае скрыжаванне. Першыя два танкі ўступаюць у бой і паварочваюць наўздагон за нямецкімі войскамі на Паланечку. Іх немцы падбіваюць.

І тут жа на гэтым скрыжаванні з'яўляецца адзін з тых "савецкіх" афіцэраў, якія ў нашай хаце пакінулі чамаданы, і як рэгуліроўшчык накіроўвае калону танкаў з абозам праз вёску Вольна і маёнтак Слізнёвай на мост каля вадзянога млына, у балота Ясянёва. Першы танк правальваецца на мосце перад ставам, таму што мост быў разлічаны толькі на каня з возам. А астатнія танкі паспрабавалі абысці мост злева і правалiліся гарматнымі стваламі ў гразкую рэчку Змейку. Забуксавалі. Танкісты зразумелі, што патрапілі ў пастку. Кінулі тэхніку, пайшлі хто куды. (Трэба адзначыць, што два падбітыя танкі ў Вольне стаялі побач з нашай школай да тых пор, пакуль іх не звезлі немцы. Я іх бачыў, калі хадзіў у пяты клас восенню 1941 года. Бачыў таксама і тыя танкі, якія стаялі на мосце і ў балоце на беразе рэчкі Змейкі яшчэ доўгі час. )

Неўзабаве пасля гэтых падзей у хату да нас завіталі па свае чамаданы "савецкія" лейтэнанты, — працягвала спадарыня Марыя. — І калі я іх убачыла, дык міжволі ўсклікнула: "Як вы можаце ў адкрытую хадзіць? Вакол жа немцы!" На што адзін з іх адказаў: "Ничего, мамаша, нас снаряды не берут". І адчыняюць чамаданы, а там нямецкае абмундзіраванне. Убачыўшы гэта, мая сястра Жэня самлела. Я кінулася яе ратаваць, а немцы пераапрануліся, сказалі: "Аўфвідэрзэен!" і пайшлі. Далучыліся да нямецкай калоны. Паехалі ў наступ на Менск. Ачухаўшыся, я і сястра Жэня зразумелі, у якую непрыгожую гісторыю мы без віны ўляпаліся».

## 19. Жыццё ў Бортніках падчас нямецкай акупацыі

Тыя падзеі, якія адбыліся падчас безуладдзя (забойства дэпутата Сняжко Аляксандра), паўплывалі на наша жыццё не толькі ў гады фашысцкай акупацыі, але ў некаторай ступені на лёс нашай сям'і ў пасляваенны перыяд. Але падрабязна аб гэтым будзе больш дэталёва напісана ў чацвёртай частцы кнігі «Заблудныя» — «Калгас».

Пасля таго, як у Бортніках усталявалася новая акупацыйная нямецкая ўлада, закончылася безуладдзе. У памяшканні былой вальнянскай гміны, а з 1939 года — сельсавета размясцілася нямецкая ўправа. А ў Бортніках быў назначаны войтам Юзік Хамянюк па прозвішчы Цівунчык і прабыў на гэтай пасадзе ўсяго адзін месяц. Устанавіўшы сваю ўладу, немцы не спяшаліся разбірацца і шукаць былых савецкіх актывістаў — чакалі. Яны слушна меркавалі, што хтосьці з сялян, пакрыўджаных савецкай уладай, паскардзіцца на свайго крыўдзіцеля, аднак ніхто не скардзіўся, ніякіх спісаў не складаў. Таму ў нямецкай вальнянскай управе вырашылі, што ў Бортніках не было такіх актывістаў, якіх належала б пакараць. Аднак калі немцам станавіліся вядомымі прозвішчы актывістаў, то яны, не цырымонячыся, тых людзей расстрэльвалі. Так, за дванаццаць кіламетраў ад Бортнікаў у мястэчку Цырын немцы расстралялі актывістаў разам з яўрэямі. А ў Бортніках ніхто з былых актывістаў не пацярпеў. Немцы палічылі, што бортніцкія сяляне самі расправіліся з былым старшынёй камбеда Аляксандрам Сняжко, і гэтага ім было дастаткова.

## 20. Здзекі нямецкіх фашыстаў з сялян нашай ваколіцы

Падчас акупацыі мне даводзілася назіраць тыя зверствы, якія здзяйснялі фашысты. Па дарозе ў школу мне прыходзілася штодзённа пераадольваць па пяць кіламетраў у адзін бок і на зваротным шляху столькі ж. І вось аднойчы па дарозе ў школу я пабачыў, як нямецкі салдат на

скрыжаванні ў вёсцы Вольна збіваў селяніна толькі за тое, што гэтаму селяніну не спадабаўся патрульны нямецкі сабака, які падбег да яго і пачаў абнюхваць. І ён натуральна спрабаваў ад сабакі інстынктыўна абараніцца, сказаўшы: «Пайшоў вон!» І тады немец пачаў біць селяніна дубінкай, а сабака, нацкаваны немцам, рваў на гэтым чалавеку адзенне. Так мне стала ясна, што нас любога можа фашыст збіць і ніхто не зможа абараніць.

Часцяком мне прыходзілася назіраць, як з вальнянскай нямецкай управы выходзілі людзі пасля апрацоўкі іх дубінкамі за нейкія правіннасці.

Другі выпадак. Мы з бацькам едзем на базар у Баранавічы па левай абочыне дарогі. Мінулі мястэчка Сталавічы. Наперадзе нас некалькі сялянскіх фурманак, якія таксама едуць у тым напрамку. А насустрач нам ідзе калона нямецкіх машын. І калі яны наблізіліся да нас, конь пярэдняга селяніна спужаўся, падняўся на заднія ногі і пярэднімі капытамі грукнуў па аўтамабілю. Нямецкая калона прыпынілася. Выйшлі фашысты і дубінкамі пачалі збіваць невінаватага селяніна.

Пасля таго, як у нашым краі ўсталявалася нямецкая акупацыйная ўлада, у вёсцы Вольна немцы ў былой польскай гміне размясцілі сваю ўправу. А непадалёку ад яе быў будынак Вальнянскай школы, якую я пачаў наведваць восенню 1941 года, калі пайшоў у пяты клас беларускай школы. Насупраць школы ў той час стаялі два савецкія танкі, падбітыя летам немцамі. Праз нейкі час немцы іх прыбралі — адвезлі ў Баранавічы. Неўзабаве наша школьнае памяшканне занялі немцы і зрабілі свой пастарунак, а нас перавялі ў будынак непадалёк ад царквы. Вучыліся мы там да 1943 года. У гэтым годзе партызаны напалі на вальнянскую ўправу і пастарунак, а заадно і на палац Слізнёвай, і ўсё гэта спалілі, згарэў і наш школьны будынак. Апошні навучальны 1943/44 год наш сёмы клас вучыўся ў бортніцкім доме сямейства Сакалухі, на мяжы Бортнікаў і Вольна.

У чэрвені 1944 года я скончыў сем класаў гэтай школы. Уручаў нам пасведчанні аб заканчэнні сямігадовай школы дырэктар сп. Гурын у прысутнасці настаўнікаў, але чамусьці не ў школе, а пад векавымі ліпамі па дарозе

Гарадзішча–Вольна. У сваёй кароткай развітальнай прамове наш дырэктар павіншаваў усіх нас і дадаў: «Дарагія нашы дзяўчаты і хлопцы, нашыя былыя вучні, я хацеў бы нагадаць, што сённяшняе нашае свята адбываецца ў складаны час. Нам усім добра ведама, з якімі цяжкасцямі мы вучыліся, колькі мы памянялі месцаў нашых заняткаў. Пераадолеўшы ўсе цяжкасці, вы ўрэшце закончылі сваю школу і атрымалі пасведчанні, і мне здаецца, што ў будучым вы нас, настаўнікаў, не забудзеце», — закончыў сваю прамову сп. Гурын.

Стаяла цёплае сонечнае надвор’е. Над нашымі галовамі гудзелі пчолы, іх не цікавілі нашы падзеі. Яны рабілі сваю штогадовую справу — збіралі і неслі ў свае вуллі нектар. Прыслухаўшыся, можна было пачуць з усходу далёкія выбухі вайны, якая несла нам вызваленне ад нямецкіх фашыстаў.

## 21. У бацькоўскім доме да 1943 года жылі яўрэйскія ўрачы і лячылі мясцовых сялян

Зімой 1941/42 года рашэннем акупацыйных нямецкіх уладаў былі ў Бортнікі прысланыя дзве сям’і ўрачоў, яўрэяў з баранавіцкага гета, лячыць мясцовых сялян. У Бортніках не было спецыяльнага памяшкання для адпаведнай медыцынскай практыкі. І іх размясцілі ў нашым вялікім пакоі, дзе пры Саветах была пачатковая школа. Там яны паспяхова лячылі сялян. Адна маладая сям’я — доктар з жонкай, а другая — доктар са сваёй маці. Прозвішча адной пары было Фелеры, а другое з-за даўнасці гадоў забылася. Жылі і лячылі яны сялян не толькі з Бортнікаў, але і з бліжніх вёсак. А чаму гэтых урачоў адміністрацыя размясціла не ў Вольне, а ў Бортніках? Я мяркую, што ўсе магчымыя вальнянскія памяшканні былі занятыя немцамі. Акрамя таго, у палацы Слізнёвай фашысты арганізавалі для нямецкіх афіцэраў-франтавікоў базу адпачынку, якая дзейнічала да 1943 года. Вясной пачалі актыўна дзейнічаць партызаны, і ў канцы гэтага года яны папалілі ўсе будынкі, у якіх размяшчаліся немцы, у тым ліку: дом управы, два школьныя дамы, у якіх размяшчаліся немцы і паліцаі, і драўляны палац памешчыцы Слізнёвай. Перад

гэтай падзеяй да мяне звярнулася маці аднаго з дактароў, спытала: «Міхась, што ты чуў пра партызан?» Я не памятаю, што я ёй мог адказаць, бо ў той час я яшчэ партызан не бачыў, аднак задумаўся: чаму гэтая жанчына пытаецца мяне аб партызанах? Канешне ж, гэтыя дактары шукалі магчымасці захаваць свае жыцці і збіраліся перабрацца да партызанаў. І сапраўды, гэта было б паратункам для іх. Тым больш, што яны разумелі: дактары вельмі патрэбныя партызанам. Да гэтай высновы я, аднак, сваім розумам тады не дайшоў, бо шмат чаго не разумеў і не ведаў.

У мінулым годзе я даведаўся, што тыя дактары, па загадзе фашыстаў з Бортнікаў, вымушаны былі адзін раз на тыдзень прыходзіць ў вальнянскую ўправу адзначацца. Пры гэтым кожны доктар абавязаны быў мець на лацкане гарнітура з левага боку і на спіне з правага нашытыя жоўтыя зоркі Давыда. У той час яны сустракаліся з былым дырэктарам Вальнянскай школы Берасневічам як былыя польскія інтэлігенты. Вялі размовы, абменьваліся мастацкай літаратурай. Дактары ў гэты трывожны час чамусьці больш за ўсё цікавіліся дзіцячай казачнай літаратурай, дзяліліся з дырэктарам планамі аб сваёй будучыні. Аднойчы з даверам яму сказалі, што калі ўзнікне смяротная пагроза іхняму жыццю, то яны гатовы здзейсніць над сабою суіцыд — прыняць яд.

Аднойчы сярод ночы вясной 1943 года хтосьці пастукаў у дзверы нашага дома. Васіль спытаў: хто? Пачуў: адчыняйце, паліцыя! Некалькі паліцыянтаў зайшлі ў дом і загадалі дактарам збірацца. Іх адвязуць у гета. Бацьку сказалі, каб наша сям'я адпачывала і не турбавалася.

Усіх дактароў і іх блізкіх пасадзілі на вазы з той маёмасцю, якую яны прыхапілі з сабою, і на двух вазах павезлі. Я думаў, што іх павезлі ў бліжэйшае гарадзішчанскае гета. Пасля хадзілі чуткі, што перад прыходам другіх Саветаў фашысты ўсіх яўрэяў гарадзішчанскага гета расстралялі.

Пасля гэтага злачынства мінула шмат часу. І калі ў 2009 годзе я наведаў свайго стрыечнага брата Міхася Паўлавіча ў вёсцы Вольна, дык ягоная жонка Алена Іосіфаўна мне расказала: «Летам 1943 года я жыла з татам і мамай Берасневічамі ў вёсцы Вольна. Бацька ў той час працаваў

дырэктарам Вальнянскай школы і расказваў мне, што паліцаі арыштавалі сям'ю бортніцкіх дактароў яўрэяў, адвезлі ў лес за вёскай Вольна і недзе там іх расстралялі. Зрабілі яны гэтае злачынства таму, што баяліся, каб дактары не ўцяклі ў лес да партызанаў.

Памяць аб гэтых урачах, якія ратавалі бортніцкіх сялян падчас нямецкай акупацыі ад розных хвароб, а магчыма і ад смерці іх блізкіх, і па сённяшні дзень жыве ў душах борніцкіх нашчадкаў.

Вось якое страшнае забойства бязвінных высокакваліфікаваных яўрэйскіх дактароў учынена фашыстамі і іх памагатымі падчас нямецкай акупацыі. Уся віна іх была ў тым, што яны былі яўрэйскай нацыянальнасці.

## 22. Што здаралася з сялянамі, калі яны спрабавалі абараніцца ад узброеных людзей?

Калі чалавек, гаспадар дома, спрабаваў абараніцца і казаў: не адчыню бо вас не ведаю, дык яны маглі зрабіць так, як гэта ўчынілі партызаны з Зубраўскай пушчы ў вёсцы Лёткі за Гудзевічамі: узарвалі гранату і забілі бацьку вядомага заслужанага дзеяча культуры БССР Алеся Белакоза. Бывала і такое: нецярплівыя партызаны зімой 1943 года на хутары Калюга вёскі Стайкі Баранавіцкага раёна выламалі прыкладамі дзверы, пакуль мой дзядзька Павал апранаўся. У сваё апраўданне ён сказаў:

— Не магу ж я без порткаў адчыняць дзверы.

З аповеду майго стрыечнага брата Міхася, былі і сапраўдныя партызаны: «Яны нічога ў нас не прасілі. Праўда, мая бабуля іх пачаставала. Яны былі дастаткова ўзброеныя, мелі свой харч. Ім трэба было ў кагосьці суткі адпачыць. Мой бацька хваляваўся, бо баяўся, што будзе з намі і хутарам, калі нечакана з'явяцца з вёскі Стайкі ўласаўцы і з імі сутыкнуцца. Аднак Бог мілаваў. У гэтыя суткі ўласаўцы на нашай дарозе не паяўляліся. Партызаны папрасілі тату Паўла зімовым вечарам арганізаваць некалькі суседніх фурманак. Сам тата таксама запрог у сані каня. Гэтую групу адвезлі ў лес непадалёк ад вёскі Савічы. Перад расставан-

нем яны ўсіх возчыкаў папярэдзілі, каб нікому не расказвалі, куды іх адвезлі. Гэта былі сапраўдныя партызаны. На жаль, часцей за ўсё ноччу прыходзілі мясцовыя партызаны, якія займаліся рабаўніцтвам як вопраткі, так і прадуктаў і нават жывёл і патрабавалі каб іх накармілі і абавязкова каб кармленне было з выпіўкай. Трэба зазначыць, што аб такіх партызанах напісана шмат адмоўных успамінаў.

## 23. Партызаны злавілі «правакатара» і прывялі да нас на апазнанне

Каля былога панскага бровара на перакрыжаванні дарог Паланечка–Завоссе і Гарадзішча–Бортнікі падчас вайны сялянамі праваслаўнай канфесіі быў пастаўлены драўляны крыж, а другі — на канцы вёскі. Лічылася, што гэтыя крыжы будуць ахоўваць вёску ў ваенны час ад усялякіх бедаў. Крыжы былі пастаўленыя на пачатку Другой сусветнай вайны і пасвечаны бацюшкам вальнянскай царквы Герасімовічам.

Тое ж на пачатку вайны рабілася ў шматлікіх вёсках нашай мясцовасці. І вось на гэтым скрыжаванні ноччу зімой 1943 года ішоў дахаты на свой хутар селянін па мянушцы Зязюля. Бачыць, што яму насустрач едуць партызаны. Спужаўся: што рабіць? Агледзеўся, убачыў крыж, падышоў да яго, укленчыў, перахрысціўся, пачаў вымаўляць словы малітвы: «Ойча Наш» і закончыў словамі: «...але збаў нас ад злога». У гэты момант да яго падскочылі двое ўзброеных партызанаў, палічыўшы яго правакатарам, спыталі, што ён тут робіць сярод ночы.

— Як што? Малюся!

— Моляцца звычайна ў царкве ці дома перад абразамі, а ты ўбачыў нас і падумаў, што цябе Бог уратуе ад сустрэчы з намі.

— Не, бачыш — гэта крыж. Ён пастаўлены, каб ахоўваць нашых сялян ад злога. Я заўсёды, калі іду дахаты ў начны час, прамаўляю малітву ля крыжа, каб Бог ратаваў мяне ад злога.

— Што ты траціш дарма час? — кажа другі партызан. — Ці ты не бачыш, што перад намі правакатар?

— Не спяшайся вырашаць яго лёс. Вунь на гары хутар. Давай пад’едзем туды і высветлім, хто ён такі.

Партызаны загадалі Зязюлі сесці пабач з вазніцам і хутка паехалі да нас. У нашым доме не было святла. Была першая гадзіна ночы. Пастукалі ў дзверы. Паднялася мая маці, а за ёю і мая бабуля Юля. Яна пераехала ад Абрамчыкаў і апошнія свае гады жыла ў сваёй дачкі Надзі.

— Хто там? — спытала маці.

— Адчыніце дзверы. Партызаны.

Увайшлі на кухню чацвёра мужчын, з імі Зязюля, і папрасілі гаспадыню запаліць лямпу. Пры святле маці пазнала Зязюлю і ўсклікнула:

— Што, Іван, і ты стаў партызанам?

Партызанскі камандзір зразумеў, што іхняя здагадка не пацвердзілася, і спытаў у мамы:

— Скажыце, гаспадыня, ці знаёмы вам гэты чалавек?

— Так, ён мне знаёмы. Сапраўднае прозвішча ён сам вам скажа. Жыве ён недалёка, па гарадзіцкай дарозе, а ў вёсцы яго ўсе завуць Зязюля.

Прышлося партызанам яго адпусціць. Пры гэтым ён з перапуду звярнуўся да маёй бабулі, спытаў:

— Бабулечка, а куды ж мне падзецца?

Бабуля зразумела, што ён п’яны. Вывела яго на ганак, паказала напрамак і сказала:

— Хутчэй уцякай дахаты!

Партызаны пачаставаліся і паехалі па сваіх справах.

## 24. Першае наведванне партызанамі нашага хутара

Самым цяжкім перыядам у часе нямецкай акупацыі ў нашай мясцовасці быў менавіта год 1943 і першая палова 1944 года. У гэтыя часы мы фактычна жылі пры дзвюх уладах. Днём была нямецкая акупацыйная ўлада, а ноччу — партызанская, савецкая. І тая і другая ўлада нас не бараніла, наадварот, за невялікую правіннасць любога з нас маглі забіць і немцы, і савецкія партызаны. Прыходзілася цярпець і выконваць усе капрызы і патрабаванні, як тых, так і гэтых.

У сярэдзіне ночы хтосьці пастукаў моцна ў дзверы. Васіль падняўся і выйшаў у сені спытаў:

— Хто там?

— Адчыняй, партызаны!

Адчыніў. Яго груба адштурхнулі тры ўзброеныя чалавекі і пачалі крычаць:

— Вазьмі загаркі! Запалі лямпу!

Маці ўстала і запаліла газавую лямпу на кухні, а другую ў спальні.

Увайшлі ў спальны пакой, паставілі на стол, недалёка ад майго ложка, кулямёт, і адзін з іх стаў пстрыкаць затворам, відавочна, каб нас запалохаць. Другі палажыў свой мяшок ля шафы. Адчыніў дзверцы шафы, уважліва агледзеў, сказаў:

— О, як вы багата жывяце! Прыйдзецца вам з намі падзяліцца!

І пачаў лепшае адзенне выбіраць і запіхваць у свой мех. Зняў з вешака форменны мундзір майго дзеда Аляксандра Абрамчыка, які ён насіў на службе, покуль служыў на чыгуначнай станцыі Баранавічы галоўным кандуктарам за царскім часам. Гэтая рэч была пашыта з дабротнага цёмнасіняга колеру сукна, аздоблена серабрыстымі гузікамі і залацістымі галунамі ў адпаведнасці са званнем службовай пасады. Мы, дзеці, часцяком заглядвалі ў шафу і любаваліся гэтай рэліквіяй.

Калі маці ўбачыла, што гэты партызан пачаў камячыць мундзір, каб запіхнуць яго ў мех, то смела сказала:

— Гэтую старамодную рэч, якую вы забіраеце, на днях прынёс мне на захаванне мой стары бацька, каб я яе захавала і зберагла на той выпадак, калі ён адыдзе ў іншы свет, каб яго ў гэтым мундзіры пахавалі. А як забераце, у чым я яго пахаваю, калі ён памрэ?

На што той цынічна адказаў:

— А навошта твайму мёртваму бацьку будзе патрэбны гэты мундзір? А мне ён спатрэбіцца во як! — І запіхнуў скамечаны мундзір у мех.

Напакаваў цэлы мех тым, што яму спадабалася, азірнуўся і ўбачыў, што поруч з маім ложкам стаць зэдлік і на ім маё адзенне. Падышоў гэты патрашыцель-партызан і маё адзен-

не забраў і запіхнуў у мех. І калі ранкам я падняўся, то бачу, што мне няма ў што апрануцца.

Покуль першы партызан арудаваў, другі, маладзейшы, убачыў, што на печы спіць мая сястра. Яна была самай малодшай з нашай сям'і, хадзіла ў другі клас пачатковай школы. Начны «госць» падышоў да печы і пачаў да яе заляцацца, малая так напужалася, што пачала аж калаціцца. Маці на гэта выгаварыла яму:

— Яна ж яшчэ дзіця, ты што, не бачыш, што яна ад тваіх заляцанняў уся дрыжыць!

Пасля гэтай мамінай заўвагі ён пайшоў у кладоўку і разам з другім патрашыцелем насыпалі мех жыта і аднеслі яго на воз. Усе ўтрох вярнуліся ў кухню і запатрабавалі, каб іх пакармілі. Маці паставіла на стол загадзя падрыхтаваную бутэльку самагону, парэзала кавалак сала, паставіла тры шклянкі, сказала:

— Частуйцеся!

Старэйшы гэтай групы адчыніў бутэльку, пароўну разліў у тры шклянкі. Выпілі і хлебам з салам закусілі. Пасля чаго ўзялі мех з напакаваным адзеннем і паехалі.

Немцы рэдка наведвалі нас, і пераважна сярод пагодлівага дня. Пыталіся аб партызанах, па якіх дарогах яны перамяшчаюцца. У хату яны амаль не заходзілі, прадуктаў не прасілі, бо мы гэтай уладзе плацілі цвёрда ўстаноўлены зямельны падатак, а партызаны прыходзілі да нас толькі глыбокай ноччу. Ім зямельнага падатку мы не плацілі. Затое сумленныя партызаны вымушаны былі прасіць нас, каб мы іх пакармілі і па магчымасці падтрымалі іх вопраткай. Я памятаю, як адзін з такіх партызанаў звярнуўся да маёй маці і папрасіў, каб яна памяняла яму мокрыя парцянкі і пакарміла. Партызаны-грабіцелі, іх так называлі, гвалтам шарылі па шафах, каморах і забіралі ўсё, што ім прыглянулася. Забіралі не толькі адзенне, свіней і нават кароў, забіралі маладых хлопцаў, якія маглі служыць у войску. Гэтым пераважна займаліся палітрукі. Бачаць, што на ложку ляжыць малады хлопец. Пытаюцца:

— Ты кто такой и сколько тебе лет?

— Гэта мой сын, — адказвае бацька Васіль, — яму толькі што споўнілася поўных пятнаццаць гадоў.

— Ничего, ты, считай, взрослый парень, — працягваў партызан-палітрук, — сначала мы тебя подучим, и будешь воевать. Собирайся! А если откажешься, то мы тебя можем посчитать дезертиром и будем судить!

Бацька кінуўся сына абараняць:

— Дазвольце мне сказаць наступнае: я лічу, што па закону прызыў на службу ў армію ў мірны час адбываецца не раней чым у васемнаццаць гадоў. І гэта не выпадкова, бо даказана, што арганізм юнака фізіялагічна ў пятнаццаць гадоў не падрыхтаваны да службы ў войску. Таму прыняты закон прызываць юнакоў пазней на тры гады — у васямнаццаць гадоў.

На гэта партызан-палітрук адказаў:

— Мы, партизаны, находимся в особых условиях и вольны поступать по своим партизанским законам. У нас в нашем отряде есть ребята и моложе шестнадцати лет. И когда возникает опасность, они берут оружие и воюют.

— Так бываюць розныя выпадкі, — працягваў Васіль супярэчыць палітруку. — І ў той жа час ніводная дзяржава на Зямной кулі не дазваляе сабе зваць дзяцей на вайну.

У гэты момант мая маці падрыхтавала, як звычайна, пачастунак і паўлітра самагонкі, паставіла на стол у кухні, дзе сядзеў за сталом бацька Васіль і гутарыў з партызанамі.

— Частуйцеся, вы, мабыць, галодныя, — сказала Надзя.

Тым часам, мой старэйшы брат Мікалай апрануўся, выйшаў на двор і пайшоў прагуляцца па парку, каб не маячыць перад «гасцямі». Ён вучыўся ў Баранавіцкім тэхнічным вучылішчы і ў тую суботу прыехаў да бацькоў, каб запасціся харчамі на тыдзень, а тут раптам мог стаць партызанам. Гэта не ўваходзіла ў ягоныя планы, таму ён не спяшаўся вяртацца ў хату. Партызан-палітрук, падвыпіўшы, падабрэў і больш не настойваў на тым, каб Мікалая забраць у партызаны. Асабліва калі Васіль растлумачыў яму, што ягонаму сыну ранавата брацца за зброю.

Палітрук глянуў на гадзіннік і сказаў сваім партызанам:

— Товарищи, уже четвёртый час, нам пора ехать. У нас ещё долгий путь.

Мікалай неўзабаве вярнуўся ў хату і сказаў бацькам, што ён вырашыў не ісці ў партызаны, пакуль не скончыць тэхнічнае вучылішча.

— Другім разам, калі прыеду да вас, у хаце спаць не буду, каб не сустракацца з партызанамі, буду спаць на сенавале ў адрыне. За зброю мне брацца ранавата.

У наступны раз прыехалі глыбокай ноччу іншыя партызаны. Яны вялі сябе больш агрэсіўна: пайшлі ў хлеў, выбралі самага вялікага парсюка, забілі і пагрузілі на воз. Іх таксама пакармілі з выпіўкай. Ад'язджаючы, запрасілі з сабой бацьку, каб ён паказаў ім дарогу на Пянчын. Сярод гэтых партызан быў бацькаў знаёмы селянін, які пры паляках спілаваў у мітрапольскім лесе сасну. Бацька яго пазнаў, але не падаў віду, што ён яго добра ведае. Васіль, будучы гаёвым, яго злавіў і склаў пратакол, лясніцтва яго аштрафавала. (Аб гэтай падзеі напісана падрабязна ў першай частцы кнігі «Заблудныя» — «Гаёвы».) З тых часоў прайшло больш як дзесяць гадоў. Васіль здагадаўся, што гэты «партызан» хоча яму адпомсціць. І калі Васіль паказаў дарогу на Пянчын, той падышоў да яго і сказаў:

— Што ж, пан гаёвы, ты забыўся, як ты складаў на мяне за сасну пратакол і хацеў мяне застрэліць, а пасля за сасну я лясніцтву заплаціў вялікі штраф і ты думаў, што я табе гэта дарую?

На гэта партызанскі кіраўнік сказаў:

— Сцяпан, не спяшайся выносіць прысуд гэтаму чалавеку. Яшчэ суд не закончаны. Мы, твае сябры, выслухалі цябе як абвінаваўцу, а цяпер я хачу паслухаць таго, каго мы судзім.

Васіль пачаў праўдзіва расказваць аб той даўняй справе:

— Я, Амялішка Васіль, жыхар гэтага хутара, з 1922 года працаваў леснікам двух участкаў лесу «Мітрапальскага» і «Храмушы». Ахоўваў гэтыя дзялянкі да 1934 года. Па невядомым даносе ў гэтым годзе мяне палякі звольнілі за сувязь з бальшавікамі. З тых пор я працаваў на сваёй гаспадарцы. Падчас службы, недзе ў 1928 годзе, зараз дакладна не памятаю я, рабіў абход мітрапольскага лесу і ўбачыў пень свежаспілаванай сасны. Памераў яго дыяметр і пайшоў па следзе. След мяне прывёў на хутар Сцяпана. І калі я хацеў адпілаваць узор ад самага тоўстага камля сасны на возе, каб параўнаць яго з пнём у лесе, дык ён схапіў сякеру і накінуўся на мяне. Я выхапіў з кабуры пісталет, і толькі тады ён супакоіўся. Пасля я склаў пратакол і перадаў яго

ў лясніцтва. У той час я мог застрэліць Сцяпана і не быў бы пакараны, таму што я гэта зрабіў бы пры абароне. Аднак я цаніў ягонае жыццё і не застрэліў. А цяпер ён хоча мяне забіць за тое, што я падараваў яму жыццё дзесяць гадоў таму. Чакаю вашага справядлівага прысуду.

— Што ты, Сцяпан, скажаш нам па сутнасці расказу падсуднага? — спытаў партызанскі кіраўнік.

Такое ж пытанне задаў прысутным. Усе маўчалі, у тым ліку і Сцяпан. І тады камандзір сказаў:

— Мы вызваляем Васіля Амялішку ад намечанага Сцяпанам пакарання. І ад імя ўсіх нас прыносім селяніну Амялішку Васілю падзяку за матэрыяльную падтрымку. А партызана Сцяпана хачу папярэдзіць, што калі і ў далейшым ён будзе помсціць несправядліва сялянам, будзем судзіць яго.

Пасля гэтага партызаны селі на свае вазы і хутка паехалі, бо да світанку заставалася не шмат часу.

Васіль вярнуўся дадому. Міша і Соня спалі. Надзя заўважыла, што Васіль у незвычайна ўзрушаным стане. Спытала:

— Вася, што з табой здарылася?

Ён запрасіў Надзю ў кухню, каб не будзіць дзяцей, сказаў:

— Надзя, яны прасілі мяне паказаць дарогу па просьбе партызана Сцяпана з мэтай, каб мне адпомсціць і, магчыма, забіць мяне. Аднак у іх аказаўся разумны камандзір і вырашыў правесці дазнанне, па якой прычыне гэты партызан хоча адпомсціць мне.

І Васіль падрабязна расказаў Надзі аб тым, як праводзілася дазнанне і якое было прынята камандзірам рашэнне. Пасля Надзя сказала:

— Васіль, я лічу, што ў гэтым выпадку не абышлося без Божай дапамогі. Я думаю, што бліжэйшым часам нам з табою трэба схадзіць у царкву паставіць свечку і памаліцца. Мяркую, што аб гэтай падзеі зараз не трэба нікому расказваць, і ні ў якім разе нашым дзецям. Яны яшчэ да такіх падзеяў не падрыхтаваныя, і гэтае здарэнне можа адбіцца на іх здароўі.

— Пасля гэтага наведвання нашага дома партызанамі я раблю выснову, — сказаў Васіль Надзі, — што мне спаць у нашай хаце не трэба. Я буду спаць у адрыне над пограбам. Пачынаецца вясна, мне будзе пад кажухом добра спаць у

адрыне, а Міша можа пасля школьных заняткаў застацца начаваць у маёй сястры Сашы ў Вольне. І калі на наш панадворак завітаюць партызаны, то я магу свабодна выйсці з адрыны і схавацца ў кустах, бо я ўпэўнены, што Сцяпан падчас змены ўладаў захоча мне адпомсціць. Акрамя таго, трэба ўратаваць нашага апошняга кабана, якога мы планавалі забіць на вясну. Каб не забралі яго партызаны, прапаную памясціць яго ў склеп. Я там зраблю яму загарадзь, там яго будзем карміць да пары.

На наступны дзень Васіль зрабіў загарадзь у склепе і паравёў кабана туды. На гэты раз склеп стаў падпольным хлявом кабану. Гадавалі там яго, покуль існавала небяспека рэквізіцыі партызанамі.

Пачынаючы з мая 1944 года стала цёпла, і мы з суседнім хлопцам Васілём Жанкевічам дамовіліся начаваць за нашай хатай у акопе Першай сусветнай вайны. Падрыхтавалі там спецыяльны ложак і спалі да тых пор, покуль не знікала пагроза нам, малалеткам, стаць партызанамі. Аб нашым знаходжанні ў акопе знала мая маці. І калі аднойчы на ўскрайку нашага парку немцы з паліцаямі зрабілі засаду партызанам насупраць пянчынскай дарогі, дык маці паклікала нас, каб мы з Васілём Жанкевічам пакінулі сваё сховішча, бо яно стала небяспечным. Тады мы перабраліся на паграб у адрыну і там у спакоі праспалі разам з маім бацькам. У гэтую ноч партызаны не паяўляліся. Можна здагадацца, што партызанам было вядома аб нямецкай засадзе ля нашага хутара, бо ў адну з наступных начэй партызанскія коннікі напалі вялікім конным злучэннем менавіта на наш парк — мелі намер даць немцам начны бой. Аднак на гэты раз засады немцаў там не было. Ад начнога шуму і выдатнай пагожай месячнай ночы мы прачнуліся і назіралі, як ішла ў наступ партызанская конніца на наш парк. Коннікі праскакалі галопам ля нашага дома і кудысьці зніклі. Вось якія падзеі адбываліся ў начныя часы напярэдадні прыходу другіх Саветаў.

## 25. Падзеі на нашым хутары падчас наступу савецкіх войск летам 1944 года

Я памятаю, як у канцы чэрвеня 1944 года ў нашую мясцовасць прыйшлі другія Саветы. Перад боем у наш дом прыйшлі немцы і запатрабавалі, каб наша сям'я хутка сабралася і пакінула хутар, таму што ў гэтым месцы заставацца небяспечна. Бацька хутка запрог каня. Воз нагрузіў тым, што лічыў самым неабходным, і са статкам кароў і іншых жывёл рушылі па дарозе, якая вяла ў бок ляснога масіву Храмуша. Мы дабіраліся ў балота Ясянёва не праз Храмушу, а праз вёску Залессе і бачылі, як немцы разварочвалі свае гарматы і нацэльвалі іх у напрамку на поўнач у бок нашага хутара і стралялі, а мы ратаваліся як маглі. Немцы нашаму паходу не перашкаджалі. Перад захадам сонца наш паход прыпыніўся — затрымаліся ў лесе на ўскрайку балота Ясянёва і назіралі палыхаючае полымя з боку нашага хутара, здагадваліся, што гэта гарыць наш хутар. Начавалі ў лесе разам са сваімі жывёламі. Ноч была спакойнай. Раніцай прачнуліся і зразумелі, што ў нашым краі больш не чутно страляніны. Мама сабралася і пешшу пайшла на наш хутар — паглядзець што здарылася, а мы з бацькам, братам Мікалаем, сястрой Соняй і са статкам жывёл заставаліся ў лесе. К поўдню стала вядома, што наш хутар згарэў. На шчасце, застаўся дом, які цудам ацалеў. Гэта абрадавала нас: нам ёсць дзе жыць! І як ні дзіўна, гэты пажар быў для сям'і паратункам, хоць мы страцілі амаль усё: гумно, хлявы для коней, кароў, свіней, авечак, адрыну для захоўвання корму жывёлам, некалькі вуллёў пчол. Пасля пажару мы сталі пагарэльцамі, і новым камбедам да Васіля Амялішкі немагчыма было прычапіцца, каб ізноў навесіць ганаровую мянушку «кулак». Гэтае званне афіцыйна знікла разам з дымам. Выходзіць, што пажар, які знішчыў зароблены цяжкай працай Васіля і ўсёй сям'і набытак, паспрыяў паратунку сям'і ад большай бяды — вывазу з радзімы.

У сярэдзіне гэтага дня я вярнуўся на свой хутар вярхом на кані. Убачыў пажарышча. На панадворку нейкі чырвонаармеец забраў майго каня. І тады я хутка пабег, каб аб гэтым сказаць маме. Пры ўваходзе ў дом другі чырвонаар-

меец затрымаў мяне і не дазволіў увайсці ў дом. Тады я з усёй сілы крыкнуў:

— Мама, мяне нейкі салдат не пускае ў наш дом!

Маці мяне пачула і выйшла на ганак. Спытала:

— Міша, што здарылася?

— Мама, нейкі чырвонаармеец забраў у мяне каня і мяне не пускаюць у наш дом!

— Міша, наконт каня я зараз высветлю, а ў нашу хату цябе не пускаць таму, што ў нашай хаце часова размясціўся вайсковы штаб. Мяне таксама не пускалі, пакуль я ім не сказала, што я гаспадыня гэтага дома.

Маці правяла мяне на кухню. Сказала дзяжурнаму афіцэру, што я яе сын, і пакарміла мяне. А сама пастукала ў дзверы і пайшла да начальства прасіць вярнуць каня. Дзяжурны афіцэр штаба распарадзіўся вярнуць мне каня. На жаль, нашага каня не вярнулі. Далі кульгавага каня ўзамен.

Вечарам таго ж дня вярнуўся на сваё котлішча бацька і азадачыў сябе: а дзе ж цяпер будзем утрымліваць усіх сваіх жывёл? Знайшоў выйсце: вырашыў пры нашым доме з паўночнага боку зрабіць часовую прыбудоўку-хлеў усім жывёлам. І пачаў шукаць спецыялістаў, каб змайстраваць часовы хлеў. Васілю пашэнціла. У Бортніках у той час, ратуючыся ад голаду, жылі перасяленцы з Смаленскай вобласці. Двое смалян пагадзіліся за адпаведную плату зернем зрабіць такую прыбудоўку цягам жніўня і верасня. У кастрычніку хлеў быў зроблены. Жывёлы атрымалі свой «дом», а будаўнікі-смаляне пагрузілі на воз заробленае зерне, падзякавалі Васілю і паехалі на радзіму.

## 26. З прыходам Савецкай Арміі (чэрвень 1944 года) у Бортніках адбываліся падзеі

Пасля дзвюх апошніх войнаў у Бортніках было пашкоджана каля чатырох хутароў. Адзін хутар за балотам Бубноўскага быў спалены паліцаямі, пасля таго як гэты селянін усёй сям’ёй пайшоў у партызаны, год, а можа, і два таму. Забудовы нашага хутара згарэлі пры загадкавых акалічнасцях. На нашым хутары заставаўся хлопец

Іван Сініцкі, які нядаўна пасяліўся ў нас. Ягоныя родныя, ратуючыся ад голаду, перасяліліся ў Бортнікі са Смаленшчыны задоўга да адступлення фашыстаў і жылі ў кагосьці з бортніцкіх сялян. Дык ён расказваў майму бацьку, што нейкі ўзброены ў цывільным адзенні чалавек прыходзіў на хутар і пытаўся ў яго:

— А дзе гаспадар гэтага дома?

А Іван яму адказаў:

— Сям'ю гэтага хутара немцы выселілі, а куды, я не ведаю. З імі я не паехаў.

Тут пачалася страляніна, Іван хутка пабег у зямлянку, а гэты чалавек пайшоў, і толькі як Іван схаваўся, пачалі гарэць гумно, адрына над пограбам, хлеў, вуллі.

Бацька Васіль, пачуўшы гэта, быў упэўнены, што той мужчына быў той самы партызан Сцяпан і што ён падпаліў нашыя гаспадарчыя забудовы, якія мелі саламяныя стрэхі, а дом быў пакрыты гонтай і стаяў на значнай адлегласці ад гарэўшых пабудоў. Магчыма, такім спосабам Сцяпан адпомсціў Васілю… І ў працяг гэтых падзей трэба адзначыць, што Сцяпан, як і ўсе партызаны, быў ваеннаабавязаны, а таму мабілізаваны ў войска на вайну, і адтуль дахаты хіба не вярнуўся, бо больш ён Васілю не помсціў.

На мяжы вёскі Бортнікі і Галёніі, па расказах Алёшы Руцкага, адбываліся такія падзеі: сялянам стала вядома ад немцаў, што пры адступленні немцаў ля бортніцкіх могілак, магчыма, будзе бой між немцамі і Савецкай Арміяй. Аб гэтым немцы папярэдзілі сялян, каб жыхары зналі і прынялі адпаведныя меры, каб ратаваць сваё жыццё.

Тады бліжэйшыя суседзі сабраліся сем'ямі ў нашым вялікім пограбе. Над пограбам быў невялікі драўляны зруб, пакрыты саламяным дахам. І калі ішоў немец ля гэтага сховішча і заглянуў у пограб, то сказаў, што калі ўпадзе сюды бомба, то ўсім ім будзе капут. І дадаў, што, каб ратавацца, трэба разбурыць дах і зруб. Прысутныя дружна праз паўгадзіны знялі з пограба дах і зруб. А пасля пайшлі і схаваліся па сваіх паграбах. А у канцы дня немцы загаманілі і пачалі здымаць тэлефонныя правады — адступаць на захад.

Да нас без адзінага выстралу прышлі савецкія войскі. У доме Руцкіх савецкае камандаванне вырашыла зрабіць

часовы шпіталь. Для гэтага ў цэнтральны пакой прынеслі дошкі і зрабілі сталы. Прывозілі раненых і рабілі ім аперацыі, а ў суседнім доме Івана Шчэрбы клалі прааперыраваных на далечванне.

— Мне ў той час, — гаворыць Алёша Руцкі, — было вельмі цікава падгледзець, як робяць у нашым доме хірургічныя аперацыі раненым. Я пралазіў у аперацыйны пакой, а мяне ўрачы і іхнія памочнікі выганялі. Я бачыў там шмат крыві, і мяне гэта не палохала. З тых пор я падумаў, што я абавязкова павінен стаць доктарам.

Марыя Сняжко, якая жыла ад нас праз дарогу за хутарам Івана Шчэрбы, была шкадлівая жанчына. І калі прыйшлі другія Саветы, яна брала драўляную палку і раз на тыдзень, а то і часцей, ішла ў раённы цэнтр Гарадзішча ў КГБ даваць інфармацыю на сваіх суседзяў. Мой дзядзька, родны брат маёй маці, Юзік Хамянюк адседзеў дзесяць гадоў у Сібіры ад званка да званка па яе даносе, толькі за тое, што адзін месяц быў прызначаны немцамі солтысам. Ён нікога не здаў немцам, нікога з сялян немцы пры ім не расстралялі. Аднак Марыя Сняжко яго не любіла, і ён адседзеў прысуджаны тэрмін па яе даносе.

— Скажы мне, Алёша, ці ў трыццаць дзявятым годзе твой бацька лічыўся кулаком?

— Не, мой бацька тады не лічыўся кулаком. А гэтае «ганаровае» званне ён атрымаў пасля вайны па патрабаванню Марыі Сняжко на сходзе беднякоў. З атрыманнем гэтага звання падаткі павялічыліся ў дзесяць разоў. Каб выплаціць кулацкі падатак, мае бацькі прадалі ўсё: коней, кароў, цялятак, авечак, — усё, што было ў гаспадарцы, і гэты падатак бацька ўсё роўна не мог выплаціць. Бацьку абвінавацілі ў сабатажы і пасадзілі ў турму ў Баранавічах. Сядзеў там тры месяцы.

У 1944 годзе вярнуўся пляменнік Саня Белавусаў, прызваны ў войска ў 1940 годзе. Ён удзельнічаў у фінскай вайне. Быў цяжка ранены. Па ім хадзілі фіны. Ён нават не стагнаў, калі чуў незнаёмую мову, бо ведаў, што фіны такіх цяжка раненых дабівалі. Дык калі яму ягоная цётка Ніна расказала, што ягоны дзядзька незаконна акулачаны і зараз сядзіць у турме, дык ён напісаў ліст аб гэтым у Вярхоўны

Савет БССР і атрымаў пастанову, што з Уладзіміра Руцкага кулацтва знята. І мой бацька вярнуўся з турмы дамоў. Гэтае рашэнне Вярхоўнага Савета і па сёння захоўваецца ў мяне.

— Лёша, скажы як развіваліся падзеі вакол вашага дома ў канцы чэрвеня 1944 года?

— Наступ савецкіх войск на захад затрымаўся ў балоце ля вытокаў ракі Шчары з Калдычоўскага возера. Адтуль у наш дом паступала шмат раненых. Штурм гэтага нямецкага ўкрэпрэгіёну быў няўдалым, і там, у гэтым балоце, загінула шмат савецкіх салдат, і я сваімі вачамі назіраў, як штурм меў поспех тады, калі каля бортніцкіх могілкаў з'явілася «кацюша» і нацэліла ўсю моц сваіх снарадаў на лясок, у якім знаходзіліся нямецкія часткі, і гэты лясок быў спалены двума залпамі «кацюшы». І тады без перашкод пайшлі ў наступ савецкія войскі. Гэтыя залпы «кацюшы» скончыліся, і яна хутка пераехала ў другое месца, каб немцы не засеклі месца яе знаходжання.

Праз некалькі хвілін у раён могілак прыляцелі два нямецкія снарады. На той момант грозная «кацюша» была ўжо ў другім месцы.

Пасля гэтых падзей, прыкладна праз тыдзень, наш дом вызвалілі ад аперацыйнай. Яе перавезлі ў іншае месца на захад, бліжэй да фронту.

## 27. Цырын месціцца на беразе ракі Сервечы

На адлегласці дванаццаці кіламетраў ад Бортнікаў на беразе прыгожай ракі Сервечы, прытока Нёмана, знаходзіцца знатнае ў акрузе мястэчка Цырын. Там жыла мая хросная маці Ніна. У пачатку лета штогод у цырынскай царкве адбываецца фэст — прастольнае свята Яна. Дык вось, да вайны, амаль кожны год, Васіль запрагаў каня, і мама везла мяне, брата Мікалая і сястру Соню на фэст да цёткі Ніны ў Цырын. Бацька Васіль з намі не ездзіў — заставаўся даглядаць сваю гаспадарку. Такія паездкі пашыралі наш дзіцячы кругагляд і запомніліся мне на ўсё маё жыццё не толькі выдатным багатым пачастункам нашай хроснай маці і яе сям'і. Зачароўвалі нас цудоўнымі краявідамі пагоркі Навагрудскага ўзвышша

і вёскі па суседству з багатымі лясамі і гаямі, якія месцяцца паблізу ракі Сервечы. Дзякуючы такім паездкам Цырын і яго аколіцы сталі мне настолькі дарагімі, што я часта прыязджаю сюды ці іду пешшу. А апошнім часам прыязджаю на аўтобусе ці на легкавіку, каб наталіць сябе тым, чаго мне ў маім жыцці не стае. Апошні раз мы наведалі нашых цырынскіх сваякоў у даваенныя часы да 1939 года, калі Сладкоўскія пераехалі з мястэчка Цырына на хутар за рэчкай Сервеч. Пераехалі таму, што Іосіф Сладкоўскі, па ўмовах камасацыі, пагадзіўся пераехаць у іншае месца пражывання з намерам атрымаць больш зямлі, каб было штосьць даць у спадчыну сваім дзецям і ўнукам. На новым прыгожым месцы на горцы ў сасонніку пабудавалі часовы дом. Набылі дрэва на новы, больш прасторны дом, каб пабудаваць яго з усімі выгодамі. Тут жа на гэтым панадворку пабудавалі гумно, хлявы для буйных жывёл, свіней. Асобны хлеў для птушак. Склеп для захоўвання агародніны і асобны для садавіны. А таксама іншыя неабходныя ў гаспадарцы збудаванні не толькі для буйных жывёл, але і «дамы» ахоўнікам гаспадарчага дабра — сабакам. На падворку пабудавалі неабходны ў гаспадарцы калодзеж.

Мы іх наведалі, а гэта было дзесьці ў 1938, ці на Яна 1939 года, зараз дакладна не памятаю. Апошні раз у перадваенны час мы ехалі да нашай хроснай маці не звычайным шляхам, а праз вёску Падгайна і гасцявалі там у новым, толькі што пабудаваным доме, на захадзе ад рэчкі Сервечы. Тут быў такі прастор сям'і Сладкоўскіх, якога ў Цырыне на самым беразе балоцістай рэчкі не было. Стары дом у Цырыне напрадвесні кожны год быў пад рэальнай пагрозай падтаплення пры разліве Сервечы. А на новым хутары такой небяспекі не было. Пасля пераезду на новае месца ў Цырыне стары дом і пляц захоўваліся як уласнасць сям'і Сладкоўскіх.

Сям'я Сладкоўскіх на новым месцы жыла шчасліва толькі два гады, да тых пор, пакуль у Цырын не прыйшлі Саветы. З захопам Усходніх Крэсаў Саветамі ўсе далейшыя планы жыць па-новаму на хутары былі парушаныя.

Саветы ў мястэчку Цырын, як і ва ўсім нашым краі, пачалі агітаваць сялян аб'яднацца ў калгасы. Камітэт

беднаты Цырына пад прымусам райкама правёў сход у кастрычніку 1939 года. Заможных сялян, у тым ліку і сям'ю Восіпа Сладкоўскага, пачалі лічыць кулакамі. Гэта рабілася наўмысна бальшавікамі, каб запалохаць астатніх сялян, забраць іх землі і землі «кулакоў» і «добраахвотна» арганізаваць калгасы. А кулацкія сем'і планавалася вывезці на пасяленне.

Належыць дадаць, што ў Заходняй Беларусі за часы гаспадарання першых Саветаў многім арганізаваным калгасам сабраць ураджай у 1941 годзе не ўдалося, таму што пачалася вайна. У першы год вайны Беларусь была акупавана нямецкімі войскамі, а ўраджай быў сабраны сям'ёй Сладкоўскіх, і частка яго была аддадзеная новаму акупанту як падатак у памерах значна меншых, чым «кулакі» плацілі Саветам да нямецкай акупацыі.

## 28. На хутар Сладкоўскіх прыйшлі партызаны забіць Барыса

У 1943 годзе на хутар Сладкоўскіх ноччу завіталі партызаны па заданні партызанскага штаба, каб ліквідаваць сына Восіпа Сладкоўскага Барыса, забіць яго як паслугача фашыстаў. Аднак гэтай ноччу Барыс і Уладзімір спалі не ў новай хаце, а ў гумне на сенавале. І калі партызаны пастукалі ў хату, то да дзвярэй падышоў бацька, Іосіф Сладкоўскі, спытаў:

— Хто там?

— Адчыняй, партызаны!

Іосіф адчыніў дзверы. Партызаны груба яго адштурхнулі, увайшлі ў пакой, дзе спалі нявестка Ніна з дзецьмі, дачка Валя, і загадалі запаліць святло. Спыталі ў бацькі:

— Дзе твае сыны?

Іосіф Сладкоўскі адказаў:

— На гэтае пытанне ў мяне адказу няма, бо я сапраўды не ведаю, дзе яны. Мае сыны пасля вячэры сабраліся і кудысьці пайшлі, і мне нічога не сказалі. Калі яны былі малымі, то казалі, куды ідуць, а як выраслі, перасталі мне аб сваіх сакрэтах расказваць.

Тады, каб не будзіць дзяцей, адзін з партызанаў прапанаваў усім дарослым выйсці ў двор і загадаў Валянціне схадзіць у хату і прынесці ім фатаграфію Барыса. Валянціна, сястра Барыса, сказала:

— Мне гадоў пару таму назад, калі мы перабіраліся ў гэты дом, бацька даручыў сабраць усе сямейныя фатаграфіі. У той час прысутнічаў мой брат Барыс і свае фотакарткі забраў, так што тут, у гэтай хаце, іх няма.

— Ты лжэш. Ідзі ў хату і прынясі нам фотакартку Барыса, — сказаў партызан.

Каб абараніць дачку ад настойлівых патрабаванняў гэтага партызана, Іосіф Сладкоўскі сказаў:

— Не ведаю, як вас завуць. Не здзекуйцеся з маёй дачкі. Яна вам не салгала, а сказала праўду, у гэтым доме фота майго сына Барыса няма.

І тады разгневаны партызан нацэліў вінтоўку і выстраліў у галаву Іосіфу Сладкоўскаму. Разрыўная куля вынесла з чэрапа ўсе мазгі. Іосіф Сладкоўскі памёр. Пачаўся плач і крык жанчын і дзяцей.

Праз нейкі час, як зніклі партызаны, у хату прыйшлі Барыс і Уладзімір. Убачыўшы, што зрабілі партызаны, яны былі ў страшным адчаі і роспачы. Аднеслі цела забітага ў хату. Барыс, звычайна заўсёды стрыманы, вельмі расплакаўся, а супакоіўшыся, сказаў:

— Дарагі мой татулечка, ты шмат добрага зрабіў мне. Дзякуючы табе я паспяхова скончыў Віленскую беларускую гімназію і зараз працую дырэктарам Цырынскай школы. Я ведаю, тая куля, якая забіла цябе, заблуднымі прызначалася мне, і ты сваім жыццём абараніў мяне. Я вінаваты, што я не прадумаў і не ўсё зрабіў, каб цябе зберагчы. Спадзяюся, што за злачынства гэтага забойцу і таго, хто аддаў загад мяне забіць, пакарае Госпад Бог сваім судом.

Гэтыя словы былі прарочымі. Забойца і той, хто загадаў забіць Барыса, былі пакліканы на вайну з фашыстамі, і там яны загінулі. Аб гэтым мне расказалі сваякі Сладкоўскіх.

У наступны дзень цела Іосіфа Сладкоўскага было ў труне адвезена ў цырынскі дом Сладкоўскіх, і адтуль адбылася пахавальная працэсія на цырынскія могілкі, якія знаходзяцца недалёка ад хаты, дзе нарадзіўся нябожчык. У пахаванні

ўдзельнічалі родныя і духоўна блізкія ягоныя сябры. У сваёй прамове ягоны родны брат, Павал Сладкоўскі сказаў:

— Шмат разумных нявінных людзей зараз гіне, загінуў і мой брат Іосіф. Яны гінуць ад рук нашых людзей, бо ў іх руках зброя. Яны часцяком не разбіраюцца, у чым віна асуджаных на смерць, а караюць смерцю не злачынцаў, а зусім невінаватых людзей. І я спадзяюся, што наступіць такі час, калі ўсялякае злачынства будзе пакарана незалежным справядлівым судом. За што быў забіты мой брат? За тое, што ён абараніў сваю дачку Валянціну. За гэта бандыт, якому партызаны даверылі зброю, забіў паважанага чалавека. Іосіф быў смелым чалавекам, не пабаяўся заступіцца за сваю дачку. Такіх людзей у нас не шмат, і яны ў першую чаргу гінуць ад бандытаў.

Пасля пахавання ў наступную ноч зноў у дом Сладкоўскіх пастукалі партызаны. Дзверы адчыніла жонка Уладзіміра Ніна, і за ёю пабеглі дзеці. Адзін з партызанаў спытаў у яе:

— Гаспадыня, фатаграфію Барыса знайшла?

— У мяне фатаграфіі Барыса няма. Я — прышлая з другой вёскі, і мне ён сваё фота не дарыў.

Тады той самы партызан падняў свой карабін нацэліў на яе, але вышэй яе галавы, каб напалохаць націснуў на спускавы кручок і стрэльнуў. Яна ад страху абамлела і ўпала. Дзеці пачалі наўзрыд плакаць і галасіць:

— Мамачка, што з табою? Уставай, — старэйшы сын Віктар ухапіў яе за руку, — хадзем у хату!

Другі партызан, звяртаючыся да забойцы, кажа:

— Што ж ты зрабіў? Ты ж, падла, асіраціў дзяцей.

Пасля гэтай падзеі партызаны хутка селі на коней і паскакалі. А дзеці плакалі, тузалі маму з крыкам:

— Мамачка, уставай!

## 29. На сямейным савеце Сладкоўскія вырашылі пакінуць хутар і паехаць у бяспечнае месца

Уладзімір і ягоная сястра Валянціна Сладкоўскія вырашылі не выпрабоўваць свой лёс, таму на сваім хутары ў ноч пасля пахавання бацькі вырашылі спаць у гумне на

сенавале. А калі партызаны пастукалі ў дзверы дома, то яны падняліся і ў цемры падышлі бліжэй да дома і назіралі за бандыцкімі здзекамі з іх сям'і, бо, не маючы зброі, ніяк не маглі іх абараніць. Партызаны, не дабіўшыся запалохваннем сваёй мэты, селі на сваіх каней і паскакалі, а Уладзімір і Валянціна падышлі, аглядаючыся, да парога хаты, завялі перапалоханую Ніну ў хату, зачынілі дзверы, а самі пайшлі адпачываць у сваё сховішча, бо была толькі першая гадзіна ночы і партызаны маглі з'явіцца зноў.

Раніцай усё сямейства Сладкоўскіх сабралася разам у часовым доме. Вырашылі пакінуць свой хутар. Барыс сказаў, што ён пераселіцца жыць у цырынскі стары дом, а Уладзімір з сваёй жонкай, дзецьмі і сястрой Валянцінай вырашылі паехаць на радзіму ягонай жонкі Ніны ў Бортнікі. Яны запрэглі ў лепшы воз свайго жарабца. З сабой узялі неабходнае адзенне. Да воза прывязалі лепшую карову. На воз пасадзілі ўсё сямейства Уладзіміра і Валянціны. І праз вёску Падгайну паехалі да нас, у Бортнікі.

## 30. Інтэрв'ю Марыі Лопух (май 2004 года)

*— Марыя Вікенцьеўна, прашу вас, раскажыце нам падрабязна ўсё, што вы ведаеце аб легендарным чалавеку Барысе Восіпавічы Сладкоўскім. Пра яго ў свой час хадзілі розныя чуткі, памяшаныя з плёткамі аб ягоным жыцці і працы падчас нямецкай акупацыі. Прашу пачаць з яго біяграфіі*.

— Я ужо ў 1944 годзе хадзіла ў школу, а ў цырынскім доме Сладкоўскіх жылі Шчарбакоў, Навара і Кашынскі, — пачала свой расказ Марыя, — Лёля, дачка брата Барыса Уладзіміра Сладкоўскага, у той час была яшчэ малой, таму не дзіўна, што яна вам добра не можа расказаць аб сваім дзядзьку.

*— Мне вядома, што Барыс Сладкоўскі нарадзіўся ў Цырыне ў 1920 годзе. Хацелася б пачуць ад вас, як ён вучыўся і дзе атрымаў сярэднюю адукацыю*?

— У Цырыне, як вядома, пры Польшчы была чатырохкласная пачатковая школа — школа powszechna. Барыс Сладкоўскі быў лепшым вучнем у цырынскай школе і ўва ўсёй акрузе. Да гміны Цырына належала ў той час вялікая

тэрыторыя ад вёскі Скробава і Сэрвечы на поўдні і да Валеўкі на захадзе. На ўсходзе Жухавічы ўжо не належалі да Цырына. Бацька Барыса, Іосіф Сладкоўскі разумеў, што ягоны сын мае незвычайныя здольнасці, — у наш час такіх дзяцей завуць вундэркіндамі, — і пасылае яго вучыцца ў Віленскую беларускую гімназію. Пра Барыса Сладкоўскага я памятаю з тых пор, як ён пачаў вучыцца ў Вільні. У тыя часы, можна сказаць, у сэнсе адукацыі насельніцтва існавала такая сітуацыя, якую можна хіба што параўнаць з ноччу, а цяперашнюю — з днём. Была амаль абсалютная неадукаванасць мясцовага насельніцтва. Гэта адбывалася ў канцы дваццатых і пачатку трыццатых гадоў мінулага стагоддзя. Была беднасць. Барыс закончыў гімназію, мабыць, у трыццаць восьмым ці ў трыццаць дзявятым годзе, дакладна я не памятаю, і яго хацелі паслаць вучыцца далей, каб атрымаць вышэйшую адукацыю, але цяпер патрэбна было плаціць, і плаціць не мала. Таму Восіп Сладкоўскі, ягоны бацька, падумаў: «Каб Барыса вучыць, трэба прадаваць зямлю і на гэтыя грошы яго вучыць. А што ж тады застанецца ў спадчыну сыну Валодзю і дочкам Тоні, Жэні і Валі? Калі раздзяліць пазасталую зямлю на ўсіх, то атрымаецца кожнаму па два гектары, а калі ўлічыць нас, бацькоў, і дзяцей Валодзі — настане беднасць». Мой бацька, Вікенцій Лежань, тады са шкадаваннем у адрас Барыса Сладкоўскага сказаў: «Во дзе талент прападае!»

Людзі куплялі зямлю, не ведаючы, што ў 1939 годзе ў наш край прыйдзе савецкая ўлада і з пабудовай калгасаў фактычна нацыяналізуе зямлю без выкупу, а іх прымусіць працаваць за мізэрную аплату на былой сваёй зямлі.

Барыс Сладкоўскі падчас вучобы меў заўсёды незвычайныя поспехі. Аб гэтым было вядома польскай адміністрацыі, яны разумелі, што калі яму даць магчымасць вучыцца далей і скончыць універсітэт, то ён стане выдатным вучоным. Яму прапанавалі стаць каталікам. У тыя часы лічылі ўсіх каталікаў-беларусаў палякамі і ім былі льготы, у тым ліку і ў атрыманні вышэйшай адукацыі. Такой льготы не мелі дзеці, бацькі якіх належалі да праваслаўнай канфесіі. Калі аб гэтай прапанове стала вядома бацьку, то Восіп

Сладкоўскі катэгарычна адмовіў сыну мяняць канфесійную прыналежнасць, бо быў адданым прыхільнікам праваслаўя. Ён на ўласныя грошы ахвяраваў звон цырынскай царкве, на баку якога было выгравіравана, што звон падараваны цырынскай царкве Сладкоўскім Восіпам. Акрамя таго, дочкі Восіпа Сладкоўскага былі ў той час пеўчымі ў царкве.

Вучоба Барыса была скончана. Яму нічога не заставалася, як ісці працаваць настаўнікам. Я перайшла ў пяты клас, а сямнаццатага верасня ў Цырын прыйшлі сталінскія танкі

Мой бацька, Вікенцій Лежань, быў падпольшчыкам. Ведаў, што сямнаццатага верасня вечарам прыйдуць савецкія танкі, і рашыў пайсці прывітаць іх. Таму апрануўся ў новы святочны касцюм, кашулю-вышыванку, абуў хромавыя боты, узяў багаты букет асенніх чырвоных вяргіняў і надвячоркам пайшоў па сцежцы, якая пралягала па загуменні. Выйшаў на дарогу, якая ідзе з усходу і дзеліць мястэчка Цырын на дзве часткі — паўднёвую і паўночную. Чакаць прыйшлося не больш за дзесяць хвілін, як з-за горкі паказаўся савецкі танк, а за ім цэлая калона танкаў.

Камандзір першага танка ўбачыў чалавека, прыгожа апранутага, з вялікім букетам кветак, аддаў распараджэнне вадзіцелю танка затрымацца. Ён вырашыў, што гэта буржуй, бо яму ў палітаддзеле сказалі, што яны едуць у буржуазную краіну, дзе сяляне жывуць бедна, не маюць прыстойнага адзення, а прыстойна апранаюцца толькі буржуі.

Танк затрымаўся, адкрыўся люк і з яго вылез танкіст. Не паспеў Вікенцій адкрыць вусны і прывітаць «вызваліцеля», як камандзір танка пачаў моцна крычаць па-расейску: «Ах ты, недорезанный буржуй! Ишь ты, как вырядился! Да тебя следовало бы тут же пристрелить. Твоё счастье, что у меня сегодня хорошее настроение, иначе я бы пустил тебя в расход...» І пачаў лаяць. Гэты спектакль працягваўся хвілін пяць, затым танкіст знік у танку. З грукатам зачыніўся люк, танк ірвануў уперад, а за ім рушыла ўся калона сталінскіх танкаў вызваляць «прыгнечаных палякамі» жыхароў мястэчка Цырын. Вікенцій, пабялеўшы ад такой пагрозы-абразы, шпурнуў букет вяргіняў з адчаем у роў і агледзеўся: ці не чуў хто-небудзь з мясцовых, як яго абняславіў савецкі танкіст.

Той жа сцежкай Вікенцій вярнуўся дахаты, нікому аб атрыманай ганьбе не расказваў, акрамя самых блізкіх, і то пасля, калі мінула шмат гадоў.

Барыс Сладкоўскі стаў завучам Цырынскай шасцікласнай растучай школы, а Іван Сямёнавіч Гуто, родам з вёскі Падгайнай, быў назначаны дырэктарам. Пры якіхсьці невядомых мне абставінах Іван Сямёнавіч напярэдадні 1941 года пакінуў сваю пасаду, і тут пачалася вайна. Гітлераўская Германія без абвяшчэння вайны напала на СССР.

З кастрычніка гэтага года Барыс Сладкоўскі працуе завучам беларускай школы ў Цырыне. У гэтай школе працавалі спадар Мазоль з Любаніч, а спадар Лётка з Любчанскага раёна выкладаў беларускую мову і літаратуру.

Мой тата, Вікенцій Лежань, пры першых Саветах працаваў загадчыкам чатырохкласнай школы ў вёсцы Рудашы. Барыс Сладкоўскі і мой тата былі траюраднымі братамі і блізкімі сябрамі, абменьваліся вопытам працы з вучнямі.

Я мяркую, што Барыс і Вікенцій яшчэ за польскім часам былі завербаваныя савецкай контрвыведкай і пастаўлялі ёй патрэбную інфармацыю. Дзеля гэтага Барыс Сладкоўскі ўладкаваўся сакратаром нямецкай управы мястэчка Цырын. Ніхто не ведаў і не здагадваўся, што Барыс пастаўляе Саветам патрэбную ім інфармацыю. Не ведалі аб сакрэтнай працы Барыса і партызаны, таму і лічылі яго фашысцкім паслугачом і вырашылі яго зліквідаваць.

У канцы 1941 года хтосьці з мясцовых склаў спісак актыўных людзей — дэпутатаў і актывістаў Савецкай улады і аднёс немцам. На паседжанні ўправы Барысу даручылі разгледзець той спісак. Барыс прагледзеў і выкрасліў з яго майго бацьку. І тады хтосьці з Цырынскіх членаў управы сказаў: «Вікенцій Лежань працаваў пры Саветах загадчыкам Рудашоўскай школы і належаў да актыву».

Тады Барыс устаў і кажа: «Вікенцій быў загадчыкам Рудашоўскай школы, а тая школа падпарадкоўвалася Цырынскай растучай школе, дзе завучам быў я. Тады выходзіць, што ў гэтым спісе павінен быць і я».

Перакладчык з польскай мовы, чэх, які сябраваў з Барысам, пераклаў нямецкаму афіцэру гэтую размову. Тады немец сказаў, што мой тата не вінаваты, і яго выкраслілі з

гэтага спіска. Так, майго бацьку Барыс уратаваў ад смерці, бо астатнія ў спісе былі расстраляныя разам з яўрэямі.

У канцы 1942 года ў Цырыне быў нямецкі пастарунак. Немцы пачалі вывозіць жыхароў сярэдняга ўзросту ў Нямеччыну на працу. З пастарунка паступіў загад: усе мужчыны і жанчыны сярэдняга ўзросту павінны прыйсці ва ўказаны дзень на камісію. Перакладчык чэх быў у дружбе з Барысам і параіў яму, як майму бацьку пазбегнуць вывазу ў Нямеччыну, а Барыс тату перадаў: «Вікенцій, заўтра будзе камісія, то ты вазьмі сакавітую траву кураслепу, разатры яе, гэтым сокам памаж вечарам галёнкі ног і наступным днём ідзі на камісію.

Барыс сядзіць на камісіі і піша спісак, хто годны, а хто нягодны, і размаўляюць з чэхам на польскай мове. Чэх Барысу кажа: «Глядзі, каб сярод тых людзей, якія паедуць у Нямеччыну, не было венерычна хворых і туберкулёзных». Гэта былі дзве прычыны, па якіх людзей на вываз не бралі.

Уваходзіць мой бацька Вікенцій, распранаецца. Барыс падымае галаву, бачыць на яго галёнках вялікія пухіры і кажа: «Гэта ж язва — страшная хвароба!»

Чэх ператлумачыў немцу, а той кажа: «Вэк! Вэк!»

Так мой бацька, дзякуючы Барысу, пазбавіўся ад вывазу ў Нямеччыну.

Па рэкамендацыі і падтрымцы Барыса мой тата пайшоў зноў у 1942 годзе працаваць у Рудашы настаўнікам, а Барыс у той час узначальваў Цырынскую школу.

У 1943 годзе партызаны разграмілі пастарунак у Цырыне, знішчылі цырынскі паліцэйскі гарнізон. У гэтую ж ноч быў спалены і былы палац магнатаў Пуслоўскіх у Варончы ў сямі кіламетрах ад мястэчка Цырына. Спалілі былую ўніяцкую драўляную царкву і званіцу ў Цырыне. А звон ляжаў на папялішчы да тых пор, пакуль вернікі не перавезлі яго ў іншую парафію. Там ён захоўваецца і зараз. Пасля цырынская царква часова праводзіла свае службы ў пустым доме Сладкоўскіх, пакуль сям’я Сладкоўскіх не вярнулася ў Цырын з вёскі Вольна летам 1944 года.

Барыс Сладкоўскі і Павал Сладкоўскі (бурмістр мястэчка Варонча) вымушаны былі пераехаць у Карэлічы. З імі пераехаў Алексіевіч — бурмістр Цырына. Барыс з сабою звёз

сваю дзяўчыну Аляксандру Чэчат. З таго часу і да чэрвеня 1944 года Барыс працаваў кіраўнікам адукацыі Карэлічаў і яго ваколіц.

Калі поўнасцю разгарнуўся партызанскі рух у нашым рэгіёне, то Барыс і Павал Сладкоўскія сістэматычна перадавалі сакрэтную інфармацыю партызанам праз майго бацьку Вікенція Лежня. Вось адна з сакрэтных запісак ад Барыса і Паўла Сладкоўскіх да майго бацькі, якую я перадала партызанам: «На Ракачоўцы ў лубіне многа зайцоў. У сераду будзем на іх паляваць». У той час была блакіравана немцамі Налібоцкая пушча. Перад гэтым партызаны групамі выйшлі з пушчы. І вось Мікалай Лопух — мой дзядзька, Главацкі — камісар атрада, Пахолак, які пасля вайны быў прызначаны на пасаду старшыні Карэліцкага райвыканкама, Крутаў — камандзір разведкі і іншыя, усіх было дванаццаць чалавек, хаваліся ў лубіне. Як даведаліся немцы, што ў лубіне хаваюцца партызаны, невядома.

У аўторак раніцай я бяру з сабою карову, лусту ў торбачцы і вяду на павадку да таго лубіну пасвіць. У торбачку кладу запіску, якую даў мне тата. Калі я вяла карову і бачыла, што хтосьці ідзе па дарозе ці едзе, то я незаўважна апускала торбачку ці ў бульбянішча, ці ў іншае месца і пасвіла карову да тых пор, пакуль той чалавек не знікаў з поля зроку. Так паступова прыйшла да мэты. Перадала запіску гэтай групе. Тады партызаны пайшлі хто куды, у асноўным напрамкам на Мелянец у вёску Высадавічы. У наступны дзень да гэтага лубіну прыйшлі два нямецкія танкі і лубін проста спляжылі, але нікога не знайшлі.

Таленавітыя мясцовыя хлопцы, якія вучыліся ў Віленскай беларускай гімназіі, паверыўшы савецкай прапагандзе аб шчаслівым жыцці пры Саветах, былі завербаваныя савецкай выведкай і працавалі па яе заданні — пастаўлялі ёй неабходную сакрэтную інфармацыю з тых месцаў, дзе яны працавалі. Такімі паведамляльнікамі з прыходам гітлераўцаў стаў Барыс Сладкоўскі і ягоны дзядзька Павал. Іх сістэматычна наведвалі людзі з савецкай выведкі, каб атрымаць патрэбную ім інфармацыю, а дзеля гэтага яны павінны былі іграць двайную ролю: служыць немцам і перадаваць сакрэтную нямецкую інфармацыю Саветам.

Аб іх працы на савецкую выведку ніхто не ведаў, за выключэннем іхніх кіраўнікоў-вербаўшчыкоў. Разведорганы Саветаў не мелі права паведамляць партызанам аб тым, што Сладкоўскія працуюць на гэтых пасадах па рэкамендацыі разведкі Саветаў. Таму шараговыя партызаны застрэлілі бацьку Барыса, патрабуючы ад родных фотакарткі Барыса, каб падаслаць партызана і забіць яго. Пераследавалі ягонага брата Уладзіміра і таксама хацелі забіць. Спалілі толькі што пабудаваны хутар сям'і Сладкоўскіх непадалёк ад вёскі Падгайнай, спалілі нават лесаматэрыял, падрыхтаваны для новага дома. Сям'я Уладзіміра Сладкоўскага была вымушана з'ехаць у небяспечнае месца да родных яго жонкі ў вёску Бортнікі, каб захаваць свае жыцці.

З другога боку Сладкоўскім пагражала небяспека ад нямецкіх фашыстаў. Дастаткова было камусьці данесці немцам, што Сладкоўскія працуюць на савецкую разведку, то яны былі б расстраляныя. Сладкоўскія Барыс і ягоны дзядзька Павал былі таленавітымі людзьмі ад прыроды. Іх прыродны талент быў скарыстаны савецкай выведкай у самыя складаныя моманты той вайны. Іх унёсак у агульную перамогу над нямецкім фашызмам пакуль не толькі не ацэнены, але і невядомы на іх радзіме. Чаму?

З майго пункту гледжання, Сладкоўскія былі разумнымі людзьмі і бачылі, што яны папалі ў складаную палітычную пертурбацыю. Яны былі патрыётамі сваёй радзімы і разумелі, што і Саветы, і тагачасныя германцы — фашысцкія рэжымы. Яны не верылі Саветам, але вымушаны былі даваць іхнім органам патрэбную інфармацыю, працаваць па іх заданні. Я мяркую, што гэтыя разведчыкі, Барыс і Павал, не хацелі ў душы падтрымліваць ні нямецкі фашысцкі, ні савецкі бальшавіцкі рэжым.

Пачатак 1944 года. Вайна рухалася на захад, набліжалася да Карэлічаў. Сладкоўскім неабходна было вырашыць: як ім быць далей? Застацца на месцы яны не маглі, бо супраць іх у партызан накоплена столькі варожай энергіі, што іх могуць расстраляць падчас змены ўладаў — калі правіць баль той, у каго ў руках зброя. Таму Сладкоўскія са сваімі блізкімі паехалі на Захад разам з адступаючай гітлераўскай арміяй. Ехалі туды, дзе іх ніхто не знае. Скажы ў 1944 годзе,

што Барыс і Павал Сладкоўскія не вінаватыя, то ніхто б не паверыў. Нават мой бацька Вікенцій Лежань, калі прыйшлі другія Саветы, не быў упэўнены ў сваёй небяспецы — меў вузялок бялізны і адзення, каб адправіцца ў турму, калі па яго прыедзе «чорны воран».

Гэтым тлумачыцца рашэнне Сладкоўскіх выехаць на сталае жыццё ў Канаду. А потым была перапіска Барыса і Паўла Сладкоўскіх з маім татам, а як гэта было, сама не ведаю, бо я працавала настаўніцай за Карэлічамі ў вёсцы Кайчычы. Аднойчы я прыехала дахаты і застала там супрацоўнікаў НКВД. Яны дыктавалі бацьку пісьмо. Імі былі прывезены пісьмы ад Барыса і Паўла Сладкоўскіх з Карэлічаў, а не па пошце.

Тату на юбілей пяцідзесяцігоддзя КДБ падаравалі срэбраную папяросніцу з выгравіраваным на вечку малюнкам з паэмы Шата Руставелі «Віцязь у тыгравай шкуры», патлумачылі як падарунак ад Карэліцкага райана. А даць медаль ці ордэн не маглі, бо не хацелі людскіх здагадак: за што гэта Вікенцій Лежань атрымаў такую ўзнагароду?

Барыс і Павал Сладкоўскія працавалі ў Канадзе. Барыс меў свой тартак, а чым займаўся Павал Сладкоўскі, я не ведаю. У адным пісьме Павал Сладкоўскі піша, што ён вельмі хацеў бы прыехаць у Беларусь хоць на дзень і нават так, каб навечна застацца ў роднай зямлі. Паказалі гэтае пісьмо супрацоўнікам КДБ. Тыя сказалі: хай прыязджае. Аднак ён усё-такі пабаяўся прыехаць. «Спецорганы падмануць, — думаў ён, — а пасля знішчаць». І не паехаў. Мой тата ўспамінаў увесь час — чаму ён не едзе?

Вось якую інфармацыю я атрымаў ад былой партызанскай сувязной Марыі Лопух (дзявочае імя Марыя Лежань) 7 мая 2004 года. Мінула больш як шэсцьдзясят гадоў з таго часу, як з’ехалі са сваёй радзімы Барыс і Павал Сладкоўскія. Яны зараз пакінулі гэты свет і пахаваныя ў Канадзе. Да сённяшняга часу іх родныя, землякі ў Карэліцкім раёне не ведаюць, кім на самай справе былі гэтыя людзі і які гераічны подзвіг яны здзейснілі ў барацьбе з фашызмам.

У Канадзе засталіся іх дзеці і ўнукі, якія праўдзіва могуць расказаць аб сваіх бацьках.

Марыя Вікенцьеўна Лопух жыве ў мястэчку Цырын, Карэліцкага раёна, Гродзенскай вобласці.

З моманту апошняй маёй сустрэчы з былой партызанскай сувязной Марыяй Вікенцьеўнай Лежань прайшло больш як два гады. Яна таксама пакінула гэты свет.

## 31. Аб трагедыі сям'і Абрамчыкаў расказаў мне апошні яе нашчадак Аляксандр

Мой прадзед Аўгусцін па лініі роду маёй мамы Надзеі працаваў у маёнтку памешчыкаў Слізняў кіраўніком спраў сорак гадоў. Сям'і Аўгусціна Слізні выдзелілі на тэрыторыі вальнянскага памесця дом на паўднёвым ускрайку за былой уніяцкай царквой вёскі Вольна. Жонка Аўгусціна Марфа нарадзіла Аляксандра і Ганну, якія выхоўваліся і вучыліся разам з дзецьмі Слізняў. Ганна дарослай нейкі час працавала гувернанткай. Слізні былі багатымі памешчыкамі, мелі не адзін, а некалькі маёнткаў. У іх быў свой палац у Варшаве, дзе ў асенне-зімні перыяд дзеці вучыліся і жылі, а лета яны праводзілі ў маёнтку Вольна. Сын Аўгусціна Аляксандр атрымаў добрую адукацыю за кошт Слізняў, а дарослым атрымаў пасаду галоўнага кандуктара на чыгуначнай станцыі горада Баранавічы.

Аляксандр Аўгусцінавіч жыў у Баранавічах са сваёй сям'ёй у казённым доме. Ажаніўся з Юліяй Канстанцінаўнай Купрыянчык. Яна нарадзілася ў мястэчку Сноў. Замужам нарадзіла восем дзяцей, траіх хлопцаў і пяцёра дзяўчат. Адна дзяўчынка памерла падчас Першай сусветнай вайны ад брушнога тыфу. Пятым у сям'і Абрамчыкаў быў Міхась. Яму, як малодшаму, было наканавана застацца ў Галёніі гаспадаром усяго хутара Абрамчыкаў.

— У пачатку трыццатых гадоў дваццатага стагоддзя, — гаворыць мой стрыечны брат Аляксандр Абрамчык, — мой бацька Міхась Абрамчык ажаніўся з Валянцінай Уладзіміраўнай Раўкоўскай і стаў гаспадаром хутара. Мая маці Валянціна нарадзілася ў Варонежы. Яе бацька паходзіў з вёскі Вызарак, у некалькіх кіламетрах на паўночны захад ад Бортнікаў, а яе маці — варонежская расіянка. Да кастрычніцкага пе-

равароту Раўкоўскі Уладзімір, мой дзед, працаваў у ахове царскай сям'і ў групе данскіх казакоў. Восенню 1917 года ён, ратуючыся ад пераследу бальшавікоў, забраўшы з сабою жонку і дзяцей, вярнуўся на радзіму. Маці Валянціна жыла і выхоўвалася ў сяле Зялёная за мястэчкам Гарадзішча. Яна была энергічнай, з моцным характарам жанчынай, рабіла ўсё па-свойму, фактычна распараджалася Абрамчыкавай гаспадаркай, а бацьку Міхасю Аляксандравічу прыходзілася ёй падпарадкоўвацца. Гэта прыводзіла часцяком да непажаданых эмацыянальных сварак. Па натуры яна была, аднак, добразычлівым чалавекам. Нарадзіла шасцёра дзяцей: хлопцаў Уладзіміра, Мечыслава, Аляксандра, Мікалая, Міхася, і быў яшчэ адзін хлопчык, які падчас акупацыі памёр. Гаспадарыць мой бацька Міхась пачаў з дзіцячых гадоў, бо яму было наканавана стаць спадчыннікам гэтага хутара. Пасля вяселля мой бацька становіцца ўладальнікам самага багатага хутара на Галёніі. Па плошчы гэты хутар быў найбольшы ў бортніцкай Галёніі. Аб гэтым я пісаў у першай кнізе «Заблудныя».

Міхась з вялікай ахвотай узяўся за гаспадарку. Ён у перадваенныя гады пры дапамозе брата Мікалая, які працаваў у Баранавічах у камунальнай касе клеркам, набыў малатарню з конным прывадам, арфу, супольна з маім бацькам Васілём — конную жняярку і шмат якога іншага абсталявання.

Ён бачыў, што, каб жыць прыстойна, неабходна было пры растучай сям'і пабудаваць новы дом ці капітальна перабудаваць стары. Аднак тыя матэрыяльныя магчымасці не былі выкарыстаны з-за эмацыянальных спрэчак паміж Міхасём і жонкай Валянцінай.

Пачалася Другая сусветная вайна. 17 верасня нашую мясцовасць «вызвалілі» савецкія войскі, а ў кастрычніку бортніцкія камбеды сям'ю Абрамчыкаў раскулачылі і абавязалі плаціць кулацкі падатак, які ў 1940 годзе быў у дзесяць разоў большы за звычайны. Міхась яго выплаціў, а на вясну 1941 года сям'і не хапіла хлеба. Прыйшлося Міхасю пазычаць у сястры Надзі неабходную колькасць зерня, каб сям'я не галадала.

22 чэрвеня 1941 года нямецкія фашысты напалі на СССР. Пачалося хаатычнае адступленне савецкіх войскаў на ўсход. Пасля трагічных падзей у лясным масіве «Храмушы» ў адну з чэрвеньскіх начэй пастукалі ў дзверы двое раненых савецкіх афіцэраў. Валянціна толькі што задрамала, прачнулася, выйшла ў сені, спытала:

— Хто там?

— Пожалуйста, укажите нам дорогу на Минск. Мы раненые.

— Подождите, я зажгу лампу и открою дверь, — сказала Валянціна.

І праз нейкі час пры святле адчыніла дзверы. Убачыла двух савецкіх афіцэраў, якія, падтрымліваючы адзін аднаго, стаялі ля парога.

— Заходите в дом. Я вижу, вам необходима медицинская помощь. Вы сказали, что вам нужна дорога на Минск. А туда 130 километров. Куда же вы в таком состоянии дойдёте? Вчера днём шла группа раненых офицеров и отдыхали за рекой Змейкой на хуторе. Их поймали немцы и расстреляли, а наш сосед их похоронил. Тоже будет и с вами, если пойдёте.

— Так что же нам делать?

— У нас вам оставаться опасно. Вы, я вижу, по национальности русские. Вам в некотором роде повезло, я тоже русская, родом из Воронежа, я оставлю вас у нас на хуторе и постараюсь вас подлечить. А пока я вам сделаю перевязку и дам покушать.

Валянціна занавесіла шчыльна вокны і пачала рабіць перавязку ў сталовым пакоі. Нагрэла чыгун вады і праз гадзіну зрабіла перавязку. Пакарміла і знайшла ім месца, дзе яны адпачывалі і лячыліся. Настроіла ўсю сям'ю: старэйшага пакалення Аляксандра і Юлію, сярэдняга Міхася і дзяцей Валодзю, Мечыслава, каб яны нікому не расказвалі, што ў іхняй хаце жывуць савецкія афіцэры і лечацца. Супраць такога мерапрыемства выступілі Міхась і ягоныя бацькі, бо каб дазналіся нямецкія ўлады, што ў хаце Абрамчыкаў жывуць і лечацца савецкія афіцэры, дык ад іх усёй сям'і пагражала б смяротная кара. Аднак Валянціне ўдалося пераканаць сямейнікаў. Міхась і старэйшае пакаленне

пагадзіліся пры ўмове, што яна бярэ на сябе адказнасць за лячэнне і ўтрыманне параненых, калі немцам стане вядома, што гэта яе ініцыятыва.

Трэба аддаць належнае Валянціне, яна арганізавала справу так, што ніхто, покуль яны лячыліся, не ведаў, што ў хаце Абрамчыкаў хаваюць параненых савецкіх афіцэраў. І адбывалася гэта на адлегласці не больш як тры кіламетры ад нямецкага батальёна, які месціўся ў маёнтку Слізняў.

Лячыліся афіцэры дзесьці з паўгода, за гэты час устанавілі сувязь з партызанамі. Адтуль прыслалі сувязнога, той адвёў іх у партызанскі атрад. Валянціна, як і ўсе дарослыя, думала, што пагроза, якая вісела над імі, мінула, аднак сталася інакш. Немцы з вальнянскага батальёна загадзя адправілі ў партызанскі атрад свайго разведчыка, які, даведаўшыся ад прышлых афіцэраў, хто іх лячыў, паведаміў кіраўніцтву. К таму часу ў сям'і Міхася і Валянціны нарадзілася яшчэ тры хлопчыкі: Мікалай, Міхась і Яўген. Вясной 1943 года камандзір батальёна, атрымаўшы інфармацыю, адпраўляе ноччу групу салдат забіць Валянціну Абрамчык.

І вось ноччу ў дом Абрамчыкаў прыйшла група немцаў. На стук у дзверы муж Валянціны Міхась выйшаў у сені, спытаў:

— Хто?

— Адчыняйце, паліцыя.

— Пачакайце, я запалю лямпу.

Запаліў, і група немцаў і паліцаяў увайшла ў гасціны пакой, адзін з іх загадаў:

— Запрасіце сюды Валянціну Абрамчык.

У гэты час яна карміла свайго малодшага хлопчыка. Яна накінула халат, маленькага Яўгена ўзяла на рукі і выйшла ў гасцёўню. Старэйшы паліцай спытаў:

— Вы — Валянціна Абрамчык?

— Так, гэта я.

— Вы парушылі загад нямецкага камандавання. Падпольна вылечылі двух савецкіх афіцэраў, якія пайшлі ад вас у партызаны. За гэтае злачынства нямецкае камандаванне прыгаварыла вас да смяротнага пакарання. Пакіньце дзіця мужу, а мы з вамі выйдзем на вуліцу.

— Прашу вас, не забівайце мяне, я нічога злачыннага не зрабіла. Я вылечыла двух параненых чалавек. Бог за такі

ўчынак не карае, а наадварот, плаціць дабром. Вы ж — людзі і жывяце з Богам у душы. Дапамогу раненым салдатам ён лічыць не смяротным грахом, а наадварот, дабрачыннасцю. Малю вас, у мяне шасцёра малых дзяцей. У вас таксама ёсць свае маці. Ідзе вайна, вашы мацяркі чакаюць вас, каб вы вярнуліся жывымі. Не бярыце вялікі грэх на душу, бо за забойства Бог вас таксама пакарае. Пакіньце мне жыццё, каб хоць падгадаваць дзетак, — і яна загаласіла.

Тады два фашысты падхапілі Валянціну разам з хлопчыкам пад рукі, вывалаклі яе да калодзежа і пачалі біць шомпаламі і прыкладамі аўтаматаў па галаве. Адзін паліцай забраў дзіця, якое зайшлося ад плачу, і перадаў бацьку. Прабілі ёй чэрап. Вельмі моцна яе пакалечылі. Яна ўпала і страціла прытомнасць. Фашысты палічылі, што яна забіта, селі ў сваё аўто і паехалі. Міхась падышоў да Валянціны, выкруціў з калодзежа вядро вады і адліў яе вадой. Яна ачуняла. На руках аднёс яе ў хату. Там маці Юлія аказала нявестцы неабходную дапамогу.

Міхась быў поўны рашучасці ўратаваць Валянціну. Ён ведаў, што ў Калдычэве працуе высокакваліфікаваны доктар, немец, неўрапатолаг — адзіны, хто мог паставіць на ногі ягоную жонку. Ён не разгубіўся і, хуценька падрыхтаваўшы багатую аплату: два свіныя кумпякі, два вядры мёду і дзве скрынкі адборных яблыкаў, — пасля палудня запрог каня. Палажыў на воз параненую і ўсё падрыхтаванае. Шасцёра дзяцей і гаспадарку пакінуў на маці Юлію і бацьку Аляксандра і паехаў у Калдычэва. Знайшоў доктара, сказаў:

— Пан доктар, мая жонка пакалечана. Ледзь жывая. Вось вам мая плата, вылечыце яе.

Доктар не адмовіў. Праз нейкі час Міхась прыехаў у Калдычэва і забраў Валянціну дахаты. Тыя пабоі, якія нанеслі ёй фашысты, сказаліся на яе здароўі. Ёй усё пазасталае жыццё балела галава.

1944 год. У канцы чэрвеня прагналі фашыстаў. Да нас прыйшлі другія Саветы. Вайна набліжалася да канца.

## 32. Паездка Пятра Лебядзевіча ў Амерыку

Расказвае мая знаёмая Маргарыта Янковіч:

— На ўскрайку Зубраўскай пушчы ў пачатку дваццатага стагоддзя з сяла Дудкі ў сяло Матылі была прасватана за Пятра Лебядзевіча ў шаснаццаць гадоў ад нараджэння Наталля Шастак. Пётр ведаў, што, каб забяспечыць сваю сям'ю прыстойным жыццём і выбрацца з галечы, трэба паехаць кудысьці на заробкі. У той час прадпрымальныя маладыя сяляне адпраўляліся за акіян, у Амерыку. Уладкоўваліся на працу і праз некалькі гадоў вярталіся на радзіму. Куплялі зямлю, будавалі свой уласны хутар — жылі прыстойна. Аб гэтым марыў Пётр. Адразу ж пасля вяселля, параіўшыся з жонкай і бацькамі, пачаў збіраць грошы на дарогу. Праз год, калі ў яго нарадзілася дачка Кацярынка, неабходная сума грошай была амаль сабраная, а што бракавала на дарогу — дапоўніў бацька. Паехаў у Штаты, сям'ю пакінуў бацькам.

Папрацаваў за акіянам некалькі гадоў, сабраў значную суму грошай. Напярэдадні Першай сусветнай вайны едзе на радзіму з намерам здзейсніць сваю мару. Яго з нецярпеннем чакалі жонка Наталля з дачкой і бацькамі. Калі Пётр ехаў дахаты, то па дарозе ў карчме мястэчка Марцынконіса вырашыў расслабіцца. Паслаў нарочным паведамленне жонцы ў Матылі, што праз некалькі дзён прыедзе дахаты. Пра гэта дазналіся мясцовыя бандыты. Калі ехаў на нанятай пралётцы, то на яго недзе ў Зубраўскай пушчы напалі бандыты, абрабавалі і забілі. Каб схаваць сляды злачынства, ягоныя парэшткі недзе закапалі, ды так, што яны зніклі бясследна. Ягоная жонка Наталля прыслухоўвалася, што вось на вуліцы загрукоча фурманка, яе чалавек адчыніць дзверы і з'явіцца на парозе. Прайшло два дні, тры... тыдзень. А чаканая пралётка не паяўлялася. Наталля, як кажуць людзі, «праглядзела ўсе вочы і выплакала ўсе слёзы», але не дачакалася Пятра. Яна адчула, што з Пятром штосьці здарылася дрэннае. Падумала, што яе муж недзе прапаў, а тут якраз пачалася Першая сусветная вайна. Наталля ведала, што пры такой сусветнай бядзе — вайне ніхто не будзе займацца пошукамі прапалага, тым больш што нахлынула чарговае няшчасце — фронт Першай сусветнай вайны

рухаўся на ўсход. Дайшла чарга да высялення жыхароў сяла Матылі ў бежанства.

Тады царскія ўлады ў першую чаргу адпраўлялі на высяленне тых, хто меў добрых коней і воз, а хто быў бясконны, таго пакідалі на месцы. Лебядзевічам і суседзям Янковічам сяла Матылі царскія ўлады дазволілі застацца на месцы, бо ў цара бракавала сродкаў, каб адвезці ў бежанства за кошт дзяржавы.

## 33. Міхась Янковіч закахаўся ў Наталлю Лебядзевіч

Прайшло каля сямі гадоў. Скончыліся войны: Першая сусветная, грамадзянская, Саветаў з палякамі... Па Рыжскай дамове жыхары гэтай мясцовасці апынуліся ў Польшчы. Вярталіся бежанцы з Тамбоўскай губерні, тыя, хто адпакутаваў гэтыя цяжкія шэсць гадоў. Пачалі ўзводзіць амаль з нуля свае былыя котлішчы: дамы, зямлю, зарослую хмызам. Набывалі жывёлу, абжываліся. Значна прасцей было тым, хто гэтыя цяжкія гады вайны заставаўся на месцы.

Старэйшы сын Кастуся Янковіча Міхась аднойчы, вяртаючыся з лесу надвячоркам пасля цяжкай працы па пасадцы саджанцаў, сустрэў суседку Наталлю Лебядзевіч, прывітаўшыся, спытаў жартоўна:

— Наталя, як ты жывеш адна без мужа?

— Ды вось гаруем з Кацярынкай разам. Адна яна ў мяне ўцеха.

— Наталя, а чаму ж бы табе не выйсці замуж? Ты ж такая прыгожая маладзіца.

— Міхась, а каму ж я з дачкой патрэбна?

— Як каму? Я б і сам не супраць мець такую прыгожую жонку, хай сабе і з дачкой.

— Дык у чым справа, Міхась? Прыходзь да мяне ў сваты, калі я табе падабаюся, — ці то з жартам, ці ўсур’ёз адказала яна яму, — прабач, мне пара ісці дахаты, бо мяне чакае Кацярынка, — і пайшла.

Адказ Наталлі растрывожыў яго. Ён пачаў думаць, аднак не мог уцяміць: сказанае ёю было сапраўднай прапановай

ці жартам? І калі пасля вячэры лёг спаць, дык амаль усю ноч не мог заснуць, усё думаў. Яму даўно прыглянулася прыгожая маладзіца, суседка Наталля. Ён аб ёй марыў, а на іншых, маладзейшых дзяўчат і глядзець не хацеў.

Наступіла сенакосная пара. Міхасю належала ісці з бацькам на луг касіць сваю дзялку сенакосу, бо стаяла цёплае пагодлівае надвор'е. Бацька Міхася ведаў: калі не выкарыстаеш гэтыя спрыяльныя дні, дык можна страціць якасны корм, бо падгнілае сена не захоча есці быдла. Пасля вячэры сказаў: «Міхась, заўтра з усходам сонца мы з табою пойдзем на луг і, пакуль будзе на траве трымацца раса, скосім сваю дзялку. А жанчыны пасля выйдуць гурбою і разаб'юць пракосы, каб скошаная трава своечасова прасыхала.

Як толькі над небакраем пачало святлець, бацька падхапіўся. Вынес косы, пабудзіў сына, і яны пайшлі да снедання касіць на поплаў ля рэчкі Скарбянкі. Міхась ішоў і ўспамінаў учарашнюю сустрэчу з суседкай, тое, што яна яму сказала. Вырашаў, як яму аднесціся да сказанага ёю. Падумаў: а што, калі параіцца з бацькам? А можа, сапраўды ў бліжэйшы час пайсці ў сваты да Наталі ды стаць яе прымаком?

— Тата, як ты думаеш, ці не пара мне ажаніцца? Я знайшоў жанчыну, якая мне падабаецца. Гэта суседка Наталя.

І ён расказаў бацьку аб учарашняй сустрэчы.

Бацька Іван спачатку сказаў:

— Што ты, Міхась, ці ты здурэў, жаніцца з удавой, ды з дзіцём?! Ці ж табе не хапае дзевак?

На што Міхась адказаў:

— Тата, мне падабаецца суседка Наталя. Ведаю, дзевак у сяле шмат, а ў суседніх вёсках яшчэ больш, але ж мне запала ў душу прыгожая спрытная маладзіца, а іншыя мяне не цікавяць.

Бацька Міхася і раней заўважаў, што ягоны старэйшы сын неабыякавы да суседкі Наталлі Лебядзевіч. Заўсёды, калі яна ішла ля вокан іхняга дома ў краму гандляра Лейбы, Міхась цікаваў за ёю, аж пакуль яе можна было бачыць. Бацьку Івану, як мужчыне, таксама падабалася прыгожая, кемлівая, працавітая суседка. Яму, як і амаль большасці мясцовых мужчын, прыемна было пры сустрэчы з сімпатычнай

Наталляй ветліва з ёю раскланьвацца. Зразумеў сына, ведаў, што ягоны старэйшы сын Міхась па натуры задзірлівы, гарачы і ўпарты і яго не адгаворыш. Сказаў:

— Ну што ж, жаніся. А як жа мы будзем жыць? Наша сям'я павялічыцца на двух чалавек.

— Нічога, тата, я вырашыў: калі яна пагодзіцца выйсці за мяне замуж, то я пайду да яе ў прымы. І ў нашай хаце будзе слабадней на аднаго чалавека.

— А ці пагодзіцца яна на тваю прапанову? Можа, яна табе сказала гэта жартам?

— Тата, я паспрабую. Падумаю, каго ўзяць сватам. А калі атрымаю адмову, то што ж, такі мой лёс.

Сватаўство закончылася паспяхова. Наталля пагадзілася прыняць Міхася ў прымы, бо ўся надзея ў бацькоў Пятра была на сына, што ён стане гаспадаром і ў сваёй хаце яны спакойна будуць дажываць свой век. Пасля таго як Пётр прапаў, усе турботы па гаспадарцы леглі на плечы Наталлі. Яна, трэба ёй аддаць належнае, спраўлялася з усімі работамі не горш, чым іншыя мужчыны. Але ж ёй, маладой квітнеючай жанчыне, было без мужчыны вельмі цяжка. Калі яна сустрэла суседа Міхася і ён пацікавіўся яе жыццём, то яна, не задумваючыся, на поўным сур'ёзе сказала, каб ён прыходзіў да яе ў сваты — спадзявалася аблегчыць сваю жаноцкую долю.

У жніўні 1922 года яны абвянчаліся ў мясцовай прыходскай царкве. Міхась быў не схільны да цяжкай працы на сяле. Яго мала цікавілі сельскагаспадарчыя работы. Сям'і Міхася жылося цяжка і было б зусім дрэнна, каб не здольнасці Наталлі. Яна фактычна ўзваліла на свае жаночыя плечы ўсе клопаты не толькі па дому, але і па гаспадарцы, а да таго ж яшчэ і дапамагала мужу ў ягоных справах. У кемлівай Наталлі, пасля таго як яна ўзяла прымака, узнікалі думкі: «А ці не памылілася я, бо мне ж не стала лягчэй, калі ў маёй хаце з'явіўся мужчына, які не хоча быць ёй памочнікам. Яго не цікавіць цяжкая сялянская праца. Ён шукае іншы занятак». Але ж ужо нічога не зробіш. Што зроблена, то зроблена. Трэба самой весці гаспадарку так, як я вяла раней. З першых дзён яе другога замужжа яна спрабавала дабіцца ад Міхася, каб ён стаў галавой у іх га-

спадарцы, аднак ён катэгарычна ад гэтага ўхіліўся. І тады Наталля канчаткова зразумела, што памылілася ў сваім выбары прымака.

## 34. Міхась Янковіч становіцца членам КПЗБ

Пасля таго, як у ягонай сям'і нарадзілася дачка Марыя, Міхасю ўдалося зарабіць на пасадцы лесу ў Зубраўскай пушчы некалькі дзясяткаў злотых і ён купіў карову. Падкарміў яе, павёў на кірмаш у Забалаць, прадаў і атрымаў прыбытак. Гэта яго заахвоціла заняцца гандлем жывёлай. Аднак не заўсёды яму спадарожнічаў поспех. Часцей усяго ў ягоным гандлі былі пралікі. Аднойчы пасля няўдачы Міхась сустрэў у забалацкай ядальні (сталоўцы) субяседніка, які назваўся Іванам Серадой. Іван, паслухаўшы, як цяжка жывецца Міхасю Янковічу, паспачуваў яму. Сказаў:

— А ведаеш, што за мяжой у Саветах людзі атрымалі ўдосталь зямлі, жывуць там багата, дзеці вучацца на беларускай мове і, ўвогуле, там зараз райскае жыццё. Трэба нам і тут, у Польшчы, змагацца, каб палепшыць наш дастатак.

Даверлівы Міхась не здагадаўся, што Іван хлусіць. Міхась не ведаў, што Іван Серада быў завербаваны Саветамі ў якасці агітатара за савецкую ўладу спецагентам ДПУ (Дзяржаўнае палітычнае ўпраўленне) і заняў пасаду сакратара падпольнай партячэйкі КПЗБ у Забалаці.

— А як дабіцца гэтага? — спытаў Міхась.

— Знаеш што? Мы, я бачу, ужо падсілкаваліся, — сказаў, нахіліўшыся да вуха Міхася, Іван, — а то, я бачу, тут да нашых размоў праслухоўваецца вунь той пан, які сядзіць за мною, — і гучна дадаў: — Хадзем падыхаем свежым паветрам, бо тут так душна.

Разлічыўшыся з афіцыянтам, яны моўчкі пайшлі ў бліжэйшы лясок на ўскрайку мястэчка. Знайшлі там паваленае бурай дрэва, селі. Іван тлумачыў:

— Міхась, я табе раскажу пра вельмі сакрэтныя справы, і спадзяюся, што ты мяне не прадасі польскай паліцыі. Знаеш, палякі, захапіўшы наш край, пазбавілі нас, мясцовых жыхароў, шмат чаго. Баяцца, каб мы, тутэйшыя, не

даведаліся, як багата жывуць нашы браты ў Беларусі за кардонам, аб чым я табе коратка паведаміў.

Каб супрацьдзейнічаць рэжыму Пілсудскага, у нас створана Камуністычная партыя Заходняй Беларусі, скарочана — КПЗБ. Я — прадстаўнік гэтай партыі і спадзяюся, што і ты праз нейкі час таксама пазнаёмішся з нашымі задумамі, станеш членам нашай партыі, будзеш змагацца за лепшае жыццё ў нашым краі. У нас тут, у Забалаці, ўжо створана суполка КПЗБ. Мы думаем, і ў Матылях будзе такая суполка і ты станеш таксама членам нашай партыі.

Іван Серада быў ад прыроды добрым псіхолагам, здагадваўся, што Міхась — чалавек даверлівы і стане праз нейкі час камуністам, бо ён не схільны да цяжкай сялянскай працы.

— Іван, а ці магу я прыйсці да вас сюды, у Забалаць, і паслухаць, што вы там гаворыце?

— Міхась, сёння нядзеля. Запрашаю цябе, прыходзь, калі ласка, мы будзем праводзіць сваё паседжанне ў доме па вуліцы Віленскай, дом 17 а 20-й гадзіне вечара ў чацвер. Калі пастукаеш у дзверы, выйдзе гаспадар дома, прывітаешся і спытаеш: «Скажыце, ці тут жыве ляснік»? Ён скажа: «Праходзьце, калі ласка, вяльможны, мы вас чакаем» і прывядзе цябе да нас у пакой, дзе мы будзем засядаць.

Хутка бяжыць час. Здаецца, зусім нядаўна Міхась пазнаёміўся з Іванам Серадой, а ўжо заўтра чацвер.

«Трэба схадзіць на сход у Забалаць, пазнаёміцца з сябрамі КПЗБ, даведацца аб іх намерах, ці варта да іх далучацца», — думаў Міхась.

Напрасткі пайшоў да Забалаці, праз паўтары гадзіны быў ужо ля дома па Віленскай, 17. Пастукаў у дзверы. Выйшаў гаспадар дома, правёў яго ў пакой, дзе сядзела некалькі незнаёмых чалавек. Насупраць іх за сталом сядзеў на месцы старшыні Іван Серада. Як толькі Міхась пераступіў парог пакоя, Іван падняўся і зрабіў некалькі крокаў яму насустрач, прывітаўся, сказаў: «Таварышы, да нас прыйшоў Міхась Янковіч з вёскі Матылі з намерам пазнаёміцца з праграмай КПЗБ». Запрасіў Міхася сесці, паслухаць кіраўніка палітасветы забалацкай суполкі Яўгена Цымбалюка аб палітычным становішчы.

Міхась усеўся побач з Іванам, пачаў слухаць. Усё, што гаварыў Яўген, падабалася Міхасю, бо той умеў красамоўна распісваць, як цудоўна жывуць нашыя браты за кардонам у Саветах. Той, аднак, ні словам не сказаў пра тое, што ў сувязі з арганізацыяй калгасаў скарацілася вытворчасць прадуктаў харчавання, сяляне пачалі жыць галадневата, горш, чым раней, пры цары. Нічога не было сказана ў ягонай прамове і пра тое, што зямля была фактычна нацыяналізаваная — адабраная ў сялян без усялякага выкупу. Карацей кажучы, усё красамоўства Цымбалюка было ў цэлым ні чым іншым, як самай сапраўднай лухтой. Малаадукаваны Міхась быў рады, што пачутае супадала з тым, што ён чуў па Менскаму радыё, і вырашыў стаць членам КПЗБ.

І калі Цымбалюк скончыў, то Іван Серада сказаў: «Прапаную: у бліжэйшы час у вёсцы Матылі арганізаваць сход сялян, жадаючых уступіць у КПЗБ. Азнаёміць іх з праграмай і статутам нашай партыі, падрыхтаваць да ўступлення кандыдатамі ў члены партыі, заснаваць там суполку нашай партыі, прыняўшы іх у члены КПЗБ. Прасіць Міхася Янковіча дапамагчы нашаму прадстаўніку знайсці месца ў Матылях для правядзення таемнага сходу». Прапанова Івана падахвоціла Міхася заняцца новай справай. Атрымаўшы ўсе інструкцыі ад Івана Серады, Міхась, задаволены сваім паходам у Забалаць, позна вечарам вярнуўся дахаты. Дзеці спалі. Наталля ніяк не магла заснуць. Трывожна драмала. А калі Міхась бразнуў клямкай, падхапілася, пайшла яму насустрач:

— Міхась, дзе ты быў? Дзеці ўжо паснулі. Марыська мяне пытала, ці скора прыйдзе татка. Не дачакаўшыся, заснула. Кацярына адчувала маю трывогу і заснула значна пазней чым Марыся. Я згатавала табе вячэру. Нябось прагаладаўся. Хадзем я цябе пакармлю.

Наталля хутка дастала з печы чыгунок з тушанай маладой бульбай, наклала цэлую місу апетытнай бульбы з свінымі скваркамі, наліла кубак кіслага малака. Ён пачаў з апетытам есці, бо добра прагаладаўся. Еў мочкі. Думаў, ці мае ён права расказаць сваёй жонцы пра тое, чым сёння займаўся і якое заданне атрымаў ад Івана Серады. Вырашыў маўчаць. І ў той жа час, не хочучы хлусіць жонцы, сказаў:

— Ведаеш, Наталля, калі я быў у нядзелю на кірмашы ў Забалацці, то пазнаёміўся там з адным чалавекам, які мне расказаў шмат цікавага, аб чым я табе не маю права пакуль расказваць, а махляваць проста не хачу. Магу адно сказаць — у недалёкай будучыні я табе раскажу, а зараз не пытай мяне. Хадзем лепей спаць, позні час.

Наталля заўважыла:

— Глядзі, Міхась, каб не ўліп у якую-небудзь непрыемную справу.

І яны пайшлі адпачываць. У наступны дзень Міхась задумаўся, як яму лепш выканаць тое даручэнне ад Івана Серады. Перш за ўсё трэба было падумаць, як яму правесці сход згодна з рэкамендацыямі Івана Серады. Неабходна запрасіць надзейных людзей, непрыхільных да польскай улады. Абышоў усіх надзейных, не ўсе пагадзіліся з ягонымі прапановамі. Аднадумцаў набралася пяць чалавек. Дагаварыліся сход правесці ў прылазніку Фёдара Саковіча.

У суботу ранкам да Міхася завітаў Фёдар Цымбалюк, і яны накіраваліся ў лазню, захапіўшы па бярозаваму веніку і ручніку, кавалку гаспадарчага мыла.

Прыйшлі. Іх там чакалі астатнія ўдзельнікі сходу. Лазня падрыхтавана. Гаспадар прапанаваў спярша памыцца, а пасля правесці сход. Што і зрабілі. Праз гадзіну сабраліся пры стале прылазніка. Вядучым сходу па прапанове Міхася Янковіча зацвердзілі Фёдара Цымбалюка. А сакратаром сходу прапанавалі Зміцера Саковіча, які падчас службы ў царскім войску быў штабным пісарам. Ініцыятыву правядзення сходу ўзяў у свае рукі прадстаўнік забалацкай суполкі, расказаў прысутным, хто ён такі:

— Галоўная мая роля сёння ў тым, каб арганізаваць партыйную ячэйку ў вашым сяле. Дзеля гэтага, згодна з партстатутам, патрэбна выбраць не менш як трох чалавек з ліку прысутных. Падрыхтаваць іх да ўступлення кандыдатамі ў партыю, калі яны праявяць сябе годна ў грамадскай працы.

Цымбалюк прапанаваў падаць заявы кандыдатамі ў члены партыі Міхасю Янковічу, Зміцеру Саковічу і Хведару Янковічу і сёння напісаць заяву кожнаму з просьбай прыняць іх кандыдатамі КПЗБ, бо яны праявілі сябе свядомымі ў арганізацыі сходу, выбару месца сустрэчы і напісання

пратакола. Астатнім: Івану Саковічу і Юрыю Янковічу — ён прапанаваў узяць прынесеныя ім улёткі і распаўсюдзіць сярод тых, хто ў будучыні могуць быць рэкамендаваныя як кандыдаты. Напрыканцы арганізацыйных мерапрыемстваў з прамовай выступіў Цымбалюк, расказаў аб шчаслівым, заможным жыцці сялян у Савецкім Саюзе. Растлумачыў, што з пабудовай агульных гаспадарак знікла беспрацоўе, свой выступ скончыў словамі Сталіна:

— Жыццё ў калгасах стала заможным, жыць стала весялей.

Заклікаў прысутных змагацца за такое ж жыццё і ў нас.

Па прапанове Зміцера Саковіча вырашылі наступны сход дзеля захавання яго ў таямніцы правесці ў ягоным прылазніку бліжэйшай суботай, каб прыняць кандыдатамі ў члены партыі падрыхтаваных, а астатнім падаць заяву.

Сход скончаны. Цымбалюк прасіў застацца тым, хто сабраўся напісаць заяву. Госць з Забалаці ўзяў тры заявы і пайшоў пешшу дахаты. Па дарозе вырашыў, што ён сам напіша ўсім тром рэкамендацыі, каб на будучым сходзе прыняць іх кандыдатамі ў партыю.

У наступную суботу Міхась Янковіч і ягоныя сябры былі абраныя кандыдатамі ў члены КПЗБ, а яшчэ праз некалькі месяцаў сталі членамі партыі і стварылі ў сяле Матылі сваю партсуполку.

Партыец Міхась аддаваўся палітычнай працы цалкам: ён слухаў падпольна радыё з Менска і верыў усяму, што чуў. Атрымаў у суполцы лістоўкі, прасіў жонку Наталлю, каб яна раскідвала іх па хвойніку, па полі, з тым разлікам, каб людзі знаходзілі іх і чыталі.

У 1925 тым годзе ў сям'і Янковічаў нарадзіўся хлапец, яго ахрысцілі ў царкве і назвалі Аляксандрам.

Міхасёва дачка Марыя ў 1928 годзе мела пяць гадоў, калі яе старэйшую сястру Кацярыну аддалі замуж за Пятра Саковіча. У 1930 годзе Марыя паступіла ў пачатковую школу ў Матылях і закончыла яе ў 1934 годзе. На канікулах хадзіла ў лес з мамай, збірала ягады, грыбы, назбіранае прадавалі на базары ў Забалаці. З бацькамі Марыя садзіла лес, калі была свабодная ад школьных заняткаў. Яна вельмі любіла спяваць і ў вольны час, і пры працы вядомыя беларускія

песні. Яе пачула пані Гэлена Ясінская, жонка мясцовага ляснічага, і ўпадабала жвавую пявунню Марыю. Яе песні пані Гэлене спадабаліся настолькі, што, калі Марыя скончыла чатыры класы паўшэхнай школы, прапанавала бацькам, каб яны аддалі ёй Марыю ў прыслугі. Бацькі пагадзіліся, аддалі Марыю ў сям'ю ляснічага прыслугоўваць пані Гэлене, вядома, за адпаведную плату. Пані ляснічыха палюбіла Марыю, асабліва яе спевы. Бывала, калі Марыя прасавала бялізну, пані Гэлена падыходзіла да яе і казала:

— О маё любімае дзіця. Дай мне прас, я буду прасаваць, а ты садзіся і спявай.

Марыя працавала ў ляснічага да 1939 года, а калі першага верасня пачалася Другая сусветная вайна, то сям'я ляснічага з'ехала на сваю малую радзіму, а Марыя вярнулася да бацькоў.

## 35. Марыя Янковіч вучыцца на трактарыстку

— 1939 год, другая палова верасня. У нашу мясцовасць прышлі Саветы, — расказвае мая знаёмая Маргарыта Янковіч. — У той час наша вёска Матылі належала да Васілішкаўскага раёна, Гарадзенскай вобласці.

Мой дзед, бацька маёй маці, Міхась Канстанцінавіч Янковіч, пры паляках свята верыў савецкай уладзе. Усіх знаёмых агітаваў, бо слухаў падпольнае савецкае радыё і спрыяў таму, каб у наш край прыйшла савецкая ўлада. Дзед быў упэўнены, што пры Саветах людзі зажывуць вельмі добра, усё будуць мець, будуць багатыя, бо быў заблудным і ў трыццатых гадах уступіў у падпольную КПЗБ.

Як прыйшлі Саветы, дык бацька пачаў адкрыта супрацоўнічаць з імі. Аднойчы вечарам прыйшоў дахаты з якогасьці паседжання, дачцэ Марыі сказаў:

— Паедзеш вучыцца на трактарыстку ў Мінскую вобласць.

Мама адразу ў слёзы, бо яна ж ніколі нідзе не была, а пра трактар дык зусім не ведала, што гэта такое. Хочаш ці не хочаш, але з нашай вёскі паехалі чатыры чалавекі вучыцца на трактарыстаў-прычэпшчыкаў. Сярод іх былі Янковічы: Вікенцій і Марыя, мая мама, і Саковічы: Захар

і Надзея. Камандзіравалі іх у Смілавічы, што за Менскам. Там была якаясьці вучэльня ці то тэхнікум, дзе іх вучылі. Камандзіраваных спачатку пасялілі ў інтэрнат, а праз нейкі час адправілі на прыватныя кватэры да мясцовых жыхароў. Мама з сяброўкай папалі на кватэру да жанчыны, якая жыла з дачкою.

Цяжка Марыі было вучыцца, таму што, па-першае, яна на радзіме вучылася ў польскай школе, а па-другое, не ведала рускай мовы. Мама казала, што вельмі цяжка было пераходзіць на рускую мову, бо яна закончыла чатыры класы польскай школы. Да таго ж было галадна. Прыбылых курсантаў з былой Польшчы забяспечвалі за дзяржаўны кошт, у тым ліку і харчаваннем. Частавалі пустым, без тлушчу крупяным супам, невялікім кавалкам чорнага хлеба і гарбатай. І уся яда, і так тры разы на дзень. Больш нічога не давалі. Вось гэта адно, а па-другое, нельга было напісаць бацькам, каб прыслалі пасылку, таму што тры месяцы ім не дазвалялася пасылаць лісты. Прайшло тры месяцы, Марыя паведамляе, што ёй няма чаго есці, што яны галадаюць. А бацька ў адказ напісаў ёй: «Ты мяне зводзіш у зман, глядзі, каб я такога больш не чуў, ты падпала пад уплыў варожай прапаганды. Відавочна, хтосьці цябе навучыў так напісаць. Глядзі мне, аб гэтым больш не паведамляй». Не паверыў бацька Міхась дачцэ, бо верыў хлуслівай прапагандзе савецкага радыё. Быў упэўнены, што тамтэйшыя людзі жывуць багата. Праз тры месяцы, пры настойлівым напаміне маёй бабулі свайму мужу аб тым, што дачка галадае, прыслалі пасылку: хатняй каўбасы, часнаку, цыбулі. А ў брата і маёй сястры былі больш заможныя сем'і, дык яны ў пасылку палажылі кумпяка, паляндвіцы. Там з атрыманнем пасылкі было незвычайнае свята, сапраўдны баль. Усё, што было ў пасылцы, мы так размеркавалі, каб нам хапіла да канца вучобы, бо ўладныя паштавікі казалі, каб больш пасылак не пасылаць — забараняецца.

У Смілавічах нічога не было. У крамах былі пустыя паліцы. Калі ў сваёй гаспадыні, дзе мы жылі, прасілі цыбуліну ці галовачку часнаку, то гаспадыня казала:

— Дзяўчаты, нам самім няма чаго есці.

Мой старэйшы сябра Мікалай, які паходзіць са Смалявічаў Менскай вобласці, удзельнік Другой сусветнай вайны, успамінае:

— У даваенныя часы пасля арганізацыі калгасаў мясцовыя калгаснікі пачалі жыць галаднавата.

Па прапанове камітэта камсамола і прафсаюзнай арганізацыі вучылішча, з нагоды прыбыцця групы курсантаў з Заходняй Беларусі дырэктар вучылішча вырашыў наладзіць вечар сустрэчы з мясцовымі студэнтамі. Перад сустрэчай дырэктар Фёдар Сяргееў звярнуўся ў райкам партыі па дазвол правесці такое мерапрыемства. Там яму прапанавалі не спяшацца з гэтым. Першы сакратар райкама сказаў:

— Спачатку даручыце выхавацелям у кожнай групе сабраць сход навучэнцаў, а мы па графіку прышлём у кожную групу інструктара Майсея Раўшэнбаха.

Гэты Майсей Раўшэнбах прыходзіў і расказваў:

— У сувязі з арганізацыяй перабудовы нашай сельскай гаспадаркі на сацыялістычныя рэйкі ворагі савецкай улады робяць усё, каб перашкодзіць будаўніцтву калгасаў. Партыя, урад і нашыя доблесныя НКУСаўцы ўважліва сочаць за падкопамі ворагаў сацыялістычнага будаўніцтва і іх выкрываюць. Таму мы, прысутныя на сустрэчы, павінны быць свядомымі, улічваць злыя намеры нашых ворагаў. Мне стала вядома, што ў вашым вучылішчы адбудзецца сустрэча з курсантамі, якія прыехалі да нас з былой Польшчы. Я не выключаю, што і сярод іх могуць быць засланыя да нас нядобразычліўцы нашага будаўніцтва. Яны пры сустрэчы, магчыма, будуць гаварыць вам аб тым, што жыццё ў іх багацейшае, чым тут у нас. Не верце гэтаму, таму што, магчыма, іхняя разведка падрыхтавала іх так гаварыць, каб узвесці паклёп на нашае сацыялістычнае будаўніцтва.

Пасля сакратар райкама параіў таварышу Сяргееву правесці ў бліжнюю суботу сход-сустрэчу. У прэзідыум сходу планаваў запрасіць абавязкова прадстаўніка заходнікаў і дадаў: «Абавязкова падрыхтуйце ягоны выступ».

Прыбылым заходнікам не выпадала раней выступаць перад такой вялікай колькасцю людзей. Таму яны не ведалі, што ім трэба сказаць. Да таго ж яны вучыліся ў польскай школе, а ў сям'і яны гаварылі на мясцовым дыялекце бе-

ларускай мовы, таму складана ім было штосьці талковае сказаць. Сакратар партыйнай арганізацыі вучылішча Сяргей Дубавіцкі ўзяў на сябе адказнасць пагутарыць з імі, каб кагосьці з іх падрыхтаваць выступіць у адказ пасля ўступнай прамовы дырэктара вучылішча. Паразмаўляўшы з заходнікамі, ён выбраў курсанта Віталя Саковіча.

Сакратар даведаўся, што Віталь ад прыроды надзелены аратарскімі здольнасцямі А гэта азначае, што ён можа смела сказаць тое, што яму будзе прапанавана сакратаром у сучаснай палітычнай абстаноўцы. Віталь пагадзіўся. Сакратар вучылішча Сяргей Дубавіцкі запрасіў яго ў свой кабінет. Працаваў з ім да той пары, покуль ён не засвоіў патрэбную прамову на памяць.

Цікавым у падрыхтоўцы да канцэрту быў падбор песень, з якімі збіралася выступіць Марыя. Яна па просьбе мастацкага кіраўніка на рэпетыцыі праспявала некалькі любімых песняў па-беларуску і адну на польскай мове. У тым ліку: «Pada deszczyk, pada» (Ідзе дожджык, ідзе), «Люблю наш край, старонку гэту» на словы К. Буйло, «Чырвона каліна», песню пра прымака і «Мой міленькі захварэў, кісялёчку захацеў» — песні з беларускага фальклору. Праслухаўшы ўважліва гэтыя песні, адказны за канцэрт сакратар парткама вучылішча тав. Дубавіцкі сказаў:

— Марыя, як цудоўна вы спяваеце свае любімыя песні, які ў вас багаты голас. З майго пункту гледжання, вам трэба вучыцца не на трактарыстку, а на спявачку. Але гэта не я рашаю. А на канцэрце, я мяркую, вы выканаеце песні беларускага фальклору. Яны больш мне спадабаліся. Калі лічыць іх у вашай паслядоўнасці, дык гэта трэцяя і пятая, а калі папросяць вас выканаць штосьці яшчэ на біс, то можаце выканаць любую з тых фальклорных песень, жартоўных, напрыклад, пра прымака. Дзеля якаснага выканання песні на біс вам спатрэбіцца партнёр. Я думаю, што лепш за ўсё на выкананне ролі прымака падыдзе Ян Хвашчынскі, наш мясцовы навучэнец, якога мы сёння таксама слухалі як саліста рускай песні «Кацюша». З нашым баяністам вы названыя творы адрэпеціруеце. І я мяркую, канцэрт будзе мець поспех. А што тычыцца песні, якую вы выканалі на польскай мове, то я думаю, яе не варта спяваць — аўдыторыя нічога

не зразумее, бо бальшыня не ведае польскай мовы. Я папрашу мастацкага кіраўніка запрасіць мяне на заключную рэпетыцыю. Поспехаў вам.

Сакратар партыйнай суполкі вучылішча Яўген Дубавіцкі ішоў дахаты і думаў: «Добра, што мне парткам даручыў падбор песень канцэрту. А што было б, каб падбор песень даручылі цвердалобаму дырэктару вучылішча, дык ён, праслухаўшы другую патрыятычную песню Марыі «Люблю наш край», палічыў бы яе нацыяналістычнай, а выканаўцу ворагам сацыялістычнага будаўніцтва ці ворагам народа, падасланым з былой Польшчы. Гэта магло быць пагрозай яе жыццю».

Адбылася апошняя рэпетыцыя, на якой прысутнічаў Яўген Дубавіцкі. Ён праслухаў усю праграму і быў задаволены — яго прапановы былі парткамам ухвалены на чарговым паседжанні і было рэкамендавана члену парткама — дырэктару вучылішча ў бліжэйшую суботу прызначыць сход-сустрэчу.

Вечарам клуб вучылішча быў запоўнены курсантамі. Усе прыйшлі па-святочнаму апранутыя, а Марыя апранула сваю ядвабную сукенку. Мясцовыя дзяўчаты акружылі яе і цікавіліся, з якога матэрыялу пашыта такая прыгожая сукенка. Яны ў сваім жыцці не сустракалі такога прыгожага матэрыялу.

На прыступкі прэзідыума сустрэчы падняўся сакратар парткама таварыш Дубавіцкі. Адкрываючы сход, прапанаваў выбраць шаноўны прэзідыум на чале з першым сакратаром прэзідыума Цэнтральнага Камітэта КПСС тав. Сталіным.

Пад бурныя апладысменты аднадушна зацвярджаецца гэтая прапанова.

У рабочы прэзідыум прапанаваў запрасіць: дырэктара вучылішча Фёдара Сяргеева, прадстаўніка райкама партыі таварыша Раўшэнбаха, сакратароў камсамольскай і прафсаюзнай арганізацыі таварышаў адпаведна Чурылава і Енку і курсанта — заходніка Віталія Саковіча. З зала папрасіў слова па працэдурных пытаннях тав. Сяргееў:

— Прапаную ў прэзідыум уключыць Сяргея Дубавіцкага як вядучага нашага сходу.

Галасавалі за склад рабочага прэзідыума аднагалосна. Вядучы сходу прапанаваў вылучаным заняць свае месцы за

сталом. Стол абавязкова быў пакрыты чырвонай матэрыяй. Такі парадак пачатку сходу існаваў да той пары, пакуль быў жывы кіраўнік таталітарызму. Пасля смерці Сталіна шаноўны прэзідыум больш не выбіраўся, а калі і выбіраўся, то без указання прозвішча генеральнага сакратара, астатнія працэдуры ў асноўным захаваліся.

Тав. Дубавіцкі даў слова тав. Сяргееву. Ён у сваёй прамове прывітаў прыбылых у вучылішча навучэнцаў з былой Польшчы. Пажадаў ім паспяхова набыць неабходную спецыяльнасць. Напомніў, у якіх складаных умовах адбываецца перабудова сельскай гаспадаркі. А пасля слова атрымаў прадстаўнік курсантаў-заходнікаў Віталь Сакові́ч. Ён падзякаваў партыі і ўраду рэспублікі за прадстаўленую навучэнцам з былой Польшчы магчымасць авалодаць такой неабходнай спецыяльнасцю, як трактарыст-прычэпшчык. Запэўніў партыю і ўрад, што наша моладзь апраўдае іх надзеі. Закончаны прамовы.

Пачаўся канцэрт песняй хвалой Сталіну «Кантата о Сталине» — абавязковы рытуал усхвалення правадыра. Пасля былі песні гераічнага плана «Кацюша», «Три танкиста», «На границе тучи ходят хмуро…», «Дан приказ ему на запад, ей — в другую сторону» і яўрэйская маладзёжная песня «На рыбалке у реки тянут сети рыбаки». І толькі пасля гэтага вядучы канцэрту аб’явіў, што зараз перад вамі выступіць курсантка Марыя Янковіч, якая прыехала з Заходняй Беларусі, і выканае дзве песні беларускага фальклору ў суправаджэнні баяна. Калі яна закончыла іх, то ўзнік шквал апладысментаў і выкрыкаў: «Біс!», «Брава!». Так, што Марыі давялося праспяваць песню пра прымака разам з Янам Хвашчынскім, як і прадбачыў сакратар парткама. І пасля гэтай песні моладзь доўга не адпускала Марыю са сцэны.

Канцэрт закончаны. Вядучы аб’явіў дзесяціхвілінны перапынак. Курсанты — хлопцы і дзяўчаты — абступілі з усіх бакоў Марыю і пыталі яе:

— Марыя, як табе ўдалося так цудоўна падрыхтавацца? Ты, мусіць, у сябе на радзіме часта выступаеш з канцэртамі?

— Дзякуй вам за добрую ацэнку маіх песняў. Я на радзіме многа спявала пры пасадцы лесу, на сенажаці, пры жніве. На сцэне ж я ніколі самастойна не спявала.

Пасля перапынку пачаліся танцы. Марыі пасля канцэрту не прышлося доўга стаяць самотнай. Як толькі прагучаў вальс, да яе смела падышоў Ян Хвашчынскі. Яны закружыліся ў танцы. Марыя мела прыродны талент не толькі спявачкі, але і выдатна танцавала. Яе партнёр быў зачараваны яе спевамі і ўменнем лёгка і прыгожа танцаваць. Увесь вечар Ян не адпускаў яе ад сябе. Як толькі пачыналі гучаць акорды чарговага танца на баяне, ён быў ля Марыі. Нікому не дазволіў з ёю патанцаваць. Відавочна таму, што быў яе партнёрам па спеву песні «Прымак».

Падчас віражу вальса ён спытаў:

— Марыя, можна я цябе пасля танцаў правяду дадому?

— Правядзі.

Была ранняя вясна. Мясцовы ліставы лес з левага боку шашы пачынаў распускацца, і ягоныя маладзенькія лісточкі выпраменьвалі духмяны водар. Дыхалася з задавальненнем.

Марыя і Янак ішлі пасля канцэрту спачатку моўчкі. Марыя не вытрывала і заўважыла:

— Янак, ці адчуваеш, як лёгка дыхаецца тут каля гэтых пасадак у параўнанні з тым паветрам, якім мы дыхалі падчас канцэрта?

— Так, Марыя, я не толькі адчуваю, але і ўспамінаю, як лёгка дыхаецца ў лесе на маёй радзіме. Непадалёку ад маёй вёскі ёсць даволі вялікі лес, дык у гэтую пару там дыхаецца яшчэ лепш, чым тут, у гэтым мястэчку.

— Янак, я хацела запытаць у цябе. Нядаўна пайшла я ў прадуктовую краму, каб купіць што-небудзь паесці, і заўважыла, што там пустыя паліцы, а нас у сталоўцы кормяць вельмі дрэнна. У той жа час мне на пошце паведамілі, што нам, прыбылым з Заходняй Беларусі, не дазваляецца пісаць лістоў дадому на працягу трох месяцаў пасля нашага сюды прыезду. Мы фактычна недаядаем. Я хацела напісаць ліст бацькам, каб яны выслалі нам пасылку. Чаму аб гэтым пісаць забаронена?

— Марыя, я на тваё пытанне не магу табе нічога сказаць, таму што я не ведаю адказу. Давай лепей пагаворым аб іншым. Прашу цябе, не настойвай. Я хачу расказаць табе аб сваіх бацьках. Мае бацькі па веравызнанні католікі. Працуюць у калгасе, былыя серадняки. Раней наведвалі

касцёл. Маці і мяне прывучала хадзіць у касцёл і казаць пацеры. Цяпер касцёл зачынілі, бо па Леніну рэлігія — гэта опіум для народа. Натуральна цяпер мы ў касцёл не ходзім. Я адслужыў у войску і ўладкаваўся на вучобу, калі закончу тэхнікум, буду працаваць механізатарам. Вось коратка такая мая біяграфія. Марыя, я ўжо ва ўзросце. Думаю, што праз год закончу тэхнікум і пачну працаваць. А цяпер я хачу сказаць, што ты мне падабаешся не толькі як выдатная пявуння, але і як разумная самастойная дзяўчына. Я ў цябе закахаўся, прапаную табе выйсці за мяне замуж і чакаю з нецярпеннем твайго рашэння.

— Янак, ведаеш, я выхоўвалася ў іншай краіне і згадзіцца на тваю прапанову не магу, бо мы выхаваныя ў розных сістэмах, ды і замуж мне ранавата — маю толькі сямнаццаць гадоў. Мне ты таксама падабаешся, але ж утварыць сям'ю зараз было б неразумным, бо ў нас няма сродкаў для жыцця. Я цяпер тут жыву галаднавата, да таго ж мы яшчэ не скончылі нашую вучобу. Мне, вядома, вельмі прыемна было б мець такога мужа, як ты. Давай вырашым так: не будзем спяшацца. Набудзем спачатку спецыяльнасці. Будзем абменьвацца лістамі, і калі ўсё будзе добра, тады і пажэнімся.

На гэтым яны і развіталіся.

Вучоба ў Смілавічах закончылася. Марыя з задавальненнем вярнулася дзесьці ў сярэдзіне саракавога года дахаты з пасведчаннем, што яна трактарыстка-прычэпшчыца. Вярнулася, а калгаса ў той час у іх яшчэ не было, але былі машынна-трактарныя станцыі (МТС). Яны павінны былі абслугоўваць саўгасы, створаныя на нацыяналізаваных савецкай уладай землях былых буйных землеўласнікаў. Вёску Глушні пры Саветах зрабілі цэнтрам саўгаса. Пасля заканчэння курсаў маю маму накіравалі туды працаваць прычэпшчыцай, а пасля трактарысткай.

І калі сяляне вёскі Глушні першы раз убачылі трактар, то людзі старэйшага веку, гадоў пад шэсцьдзясят-семдзесят, казалі:

— Дзяўчынка, злазь з гэтага каня. У Бібліі напісана, што настане час і нейкая нячыстая сіла будзе ездзіць на жалезным кані, антыхрыст на жалезнай печы будзе ездзіць. Дык вось, гэтая нячыстая сіла прыйшла — трактар гэты.

— Нядаўна, — працягвае Маргарыта, — я была на радзіме і сустрэла там чалавека, якому зараз больш як дзевяноста гадоў. Дык калі я расказала, хто я такая, і сказала, адкуль я родам і чыя я дачка, то ён сказаў, што мая мама працавала ў яго брыгадзе на трактары.

А вось як расказвала мама пра сваю працу: «Я — маладая дзяўчына, мне тады было поўных сямнаццаць гадоў, пайшоў васямнаццаты. Саджуся на гусенічны трактар НАЦІ. Мне было вельмі цяжка. Ніхто трактар не дапамагаў рамантаваць. Сама ўсё выпраўляла, калі штосьці псавалася».

Я ўяўляю, як было цяжка ёй, маладой дзяўчыне, якой прыродай наканавана займацца іншымі, жаноцкімі справамі. А яе пасадзілі на недасканалую машыну і абавязалі араць зямлю. Гэтая праца была цяжкай нават мужчыне, а жанчыне невыносна цяжкай. Таму ёй уся гэта праца абрыдла, яна кляла ўсё на свеце. А што было рабіць — нідзе болей грошай не заробіш, трэба было працаваць, а калі ты не хочаш працаваць, дык бальшавіцкая ўлада залічвала цябе ў сабатажнікі, аўтаматычна па савецкіх законах лічыла цябе ворагам народа, пасля чаго судзіла і адпраўляла ў ГУЛАГ.

Яна спачатку працавала ў вёсцы Глушні прычэпшчыцай, бо ёй як малавопытнай трактар не даверылі. Уся ў мазуце, пыле. Ледзь адмыецца, калі прыйдзе дахаты. Адпрацавала. Атрымала першую палучку, сто рублёў. Яна ж маладая, няма ў што прыстойна абуцца. Ходзіць у паношаных туфлях, камбінезоне, прапахлым нафтапрадуктамі, і думае: «Пайду я ды што-небудзь куплю сабе за гэтыя грошы, ахвота ж мне на танцы схадзіць. Мне падабаецца быць сярод моладзі, цікава з імі быць на танцах. А не маю нічога прыстойнага, каб апранууцца. Мне ж хочацца падабацца хлопцам. А дзе ж я магу з моладдзю сустрэцца, як не на танцах? Пайсці ў той вопратцы, у якой я зараз працую, не магу, бо каму ж я магу спадабацца, калі ад мяне за кіламетр чуваць пах саляркі і мазуты? А што тады пра мяне падумаюць равеснікі, хіба што тое, што Янковічава Марыся ненармальная, бо прыйшла ў нашу кампанію ў такім непрыстойным выглядзе».

Атрымаўшы грошы, яна прыходзіць дахаты, і тут сустракае яе бацька і, замест таго каб парадавацца першаму заробку дачкі, купіць ёй неабходнае, кажа:

— Марыя, ты атрымала палучку. Трэба падпісацца на пазыку, дзяржаве гэтыя грошы больш патрэбныя. Ёй неабходна мацаваць эканоміку.

Мама пачала плакаць і прыгаворваць:

— Ты ж бачыш, што мне няма чаго абуць, хаджу ў старых зношаных туфлях. Я ж маладая дзяўчына, мне неабходна прыстойна адзецца, каб паказацца сярод равеснікаў!

— Не, ты павінна падпісацца на пазыку! — сказаў ён рашуча.

— Не аддам! — не менш рашуча абвясціла яна.

Тады бацька пакаціў яе на ложак і адабраў увесь заробак. Зрабіў «патрыятычны» ўчынак, дапамог савецкай уладзе «мацаваць» эканоміку.

А тое, што яго родная дачка не мела ў што прыстойна апрануцца, яго не цікавіла. Вось якая высокая «свядомасць» была ў камуніста Міхаіла Канстанцінавіча Янковіча.

Пазней маму перавялі трактарысткай у саўгас вёскі Гурнофіль, дзе яна і працавала да пачатку вайны 1941 года.

Раніцай 22 чэрвеня Марыя і яе сяброўка працавалі на трактары. Яны пачулі, што германцы напалі на СССР без абвяшчэння вайны, і не ведалі, што ім рабіць, чакалі распараджэння кіраўніцтва саўгаса. Аднак ніхто нічога не казаў. Калі заўважылі, што іх кіраўнікі збіраюцца ўцякаць на ўсход — пакуюць чамаданы, дык і яны з сяброўкай вырашылі кінуць усё, узяць неабходнае, ісці на радзіму. Дзеля гэтага ім неабходна было пераадолець не менш як трыццаць кіламетраў. Немцы ў першы дзень вайны акупавалі нашую мясцовасць, амаль не сустрэўшы супраціву савецкіх войск. Марыя з сяброўкай вырашылі пайсці пешшу ў Матылі. Куды пойдзеш, як не на радзіму?

Выйшлі. Ідуць па дарозе на Матылі і праз нейкі час чуюць гул калоны невядомых машын, які даносіўся з заходняга напрамку. Каб не нарвацца на непрыемнасці, хутка пералезлі праз кювет і схаваліся ў кустах на ўзбочыне. Праз хмызняк цікуюць, як набліжаецца калона нямецкіх войск. Наперадзе калоны едзе браніраваная машына з белымі крыжамі. На ёй сядзяць жаўнеры з аўтаматамі і гарланяць якуюсьці незнаёмую бравурную маршавую песню. Бачаць, як за

браневікам у калоне едуць матацыклісты, па трох чалавек у кожным матацыкле, у касках, з аўтаматамі наперавес, а за імі жаўнеры на веласіпедах з вінтоўкамі за плячамі. Сядзяць і моляцца: «Святы Божа, святы моцны, памілуй і зберажы нас, каб яны не затрымаліся і не сутыкнуліся з намі». Прагаворваюць гэтыя словы, пакуль тыя едуць. І калі немцы зніклі за гарызонтам, то яны падняліся і з аглядкай пайшлі. Надвячоркам, калі стала шарэць, у нейкай вёсцы папрасіліся ў незнаёмай жанчыны пераначаваць. Яна пацікавілася, хто яны такія і куды яны ідуць у гэты трывожны час. Жанчына спачувальна аднеслася да іх. Накарміла хлебам з малаком і паклала спаць.

У канцы другога дня, калі сонца хілілася да гарызонту, дабраліся дахаты. І вось яны дома. Сваё пасведчанне трактарысткі мама схавала недзе пад бэльку, ці то ў хаце, ці ў адрыне.

Прайшоў нейкі час пасля вайны, і спатрэбіўся гэты дакумент, але яна яго не знайшла. Ад яе пенсійная камісія запатрабавала згубленае пасведчанне.

Балазе знайшліся людзі, якія пасведчылі, што мая мама скончыла ў Смілавічах курсы трактарыстак у перадваенныя часы і працавала паўтара года да пачатку першага дня вайны па спецыяльнасці. Ім члены камісіі паверылі.

Мой дзед Міхась Янковіч быў камуністам. У саракавым годзе, дзесьці ці ў ліпені, мо і ў жніўні — мне мама казала, што хіба жыта жалі, як яго судзілі Саветы ў раённым цэнтры Васілішкі. Мама расказвала, што дзед быў справядлівы чалавек. Ён увесь час змагаўся за праўду, хацеў, каб будавалі савецкую ўладу без абману. Змагаўся за гэта, і вось хтосьці яму паскардзіўся, што ў сельсавеце адбываюцца якіясьці махінацыі і робяць іх сельсаветчыкі. Ён пайшоў туды і кажа:

— Што ж вы робіце? Вы ж абманваеце савецкую ўладу. Так нельга рабіць!

А тыя зачынілі дзверы, адлупцавалі яго, а потым напісалі заяву ў раённы НКУС, што ён да іх прыйшоў біцца і абзываў іх па ўсякаму. Праз нейкі час да яго прыехаў міліцыянт, забраў яго і адвёз у пастарунак у Васілішкі. Там яго трымалі толькі два дні, а на трэці судзілі без усякага следства і без

адваката. І нават адзін чалавек, які выпадкова трапіў да нас у нашую хату, расказваў:

— Быў у Васілішках і выпадкова папаў на суд, дзе судзілі нейкага чалавека. Відаць было, што гэты чалавек не вінаваты. Прысудзілі яму адзін год турмы. У апошнім слове ён устаў і кажа: «Пагібаю за савецкую ўласць!»

Дзе сядзеў у турме мой дзед, невядома, але ж, безумоўна, у Беларусі. Пачалася вайна. Нам, ягоным блізкім, нават невядома, што з ім здарылася, бо знік ён бясследна. Пасля вайны я пыталася ў мамы:

— Чаму не маглі дазнацца, што здарылася з дзедам?

Мама адказала, што быў такі час. Усе баяліся нават заікнуцца, бо ён лічыўся ворагам савецкай улады. Існаваўшая атмасфера ўсеагульнага страху паралізавала волю маіх блізкіх.

## 36. Жыццё жыхароў у Матылях падчас акупацыі

1941 год. У сяле Матылі ўсталяваўся нямецкі фашысцкі рэжым. Была прызначана акупантамі кіруючая адміністрацыя. Праз нейкі час немцы аддалі загад мабілізаваць моладзь сяла ў Нямеччыну. Стала вядома, што будуць забіраць на работы маладых нежанатых хлопцаў і дзяўчат. Таму многія маладыя пачалі спешна жаніцца, каб пазбегнуць вывазу ў Германію. Тады за Яўхімавага Яўгена Саковіча сасваталі Марыю Янковіч. Вяселле адбылося восенню таго ж года. Вянчаліся ў мясцовай царкве. Тым самым гэтая пара пазбегла вывазу на прымусовыя работы. Марыя з мужам Яўгенам жылі і працавалі на сваім уласным кавалку зямлі ва ўмовах акупацыйнага рэжыму. Днём імі кіравала нямецкая адміністрацыя, а ноччу часцяком наведвалі партызаны.

У Зубраўскай пушчы папалі ў акружэнне шмат савецкіх войскаў. Там яны і засталіся. Іх камандзіры кудысьці зніклі, а з імі знікла вайсковае забеспячэнне. Ім нічога не заставалася на першых парах, як туляцца па тых лясах ды балотах. Пакуль было цёпла, прасілі мясцовых жыхароў, каб іх пакармілі. Іх стан быў вельмі цяжкі. Заставалася адно: ісці да мясцовых сялян і прасіцца да іх на жытло і працу,

каб выжыць. Невялікай колькасці салдат удавалася так уладкавацца, што яны станавіліся памочнікамі тых сем'яў, дзе была такая патрэба. Аднак прытуліць такую масу салдат мясцовыя жыхары не маглі, і схаваць ад акупацыйнай нямецкай адміністрацыі тым болей. Сярод гэтых вайскоўцаў былі і падрыхтаваныя камандзіры, палітрукі. Яны заняліся арганізацыяй партызанскіх атрадаў восенню 1941 года. У Зубраўскай пушчы бадай упершыню ў Беларусі былі самыя лепшыя ўмовы для такой дзейнасці: лес і непраходныя балоты. А побач былі вялікія вёскі, дзе шмат было моладзі. Камандзіры разумелі, што без сувязі з мясцовымі жыхарамі ім цяжка будзе весці змаганне з такім падступным ворагам.

## 37. Вёску Матылі ўпершыню наведалі партызаны

Вось што здарылася з братам Марыі, Аляксандрам. Ён з 1925 года нараджэння. Яму толькі споўнілася шаснаццаць гадкоў, калі ў Матылі прыйшлі немцы. Калі добра сцямнела, прыходзяць партызаны, стукаюць у дзверы, кажуць:

— Адчыняйце, партызаны!

Хочаш ці не хочаш, а адчыніць мусіш таму, што прышлі ўзброеныя людзі. Не скажаш ім: «Не адчыню!», бо яны мелі зброю і маглі ўчыніць, што ім уздумаецца, і тваю сям'ю ніхто не абароніць ад шалу ці помсты незнаёмых узброеных людзей.

Марыя з мужам Яўгенам Саковічам жылі ў хаце Наталлі Янковіч, бо ў бацькі Яўхіма Саковіча была вялікая сям'я.

Партызаны бачаць, што перад імі малады хлопец, і пытаюць яго:

— А колькі табе гадоў?

— Паночку, яму ж споўнілася толькі шаснаццаць гадкоў, — сказала яго маці, — ён жа яшчэ дзіця.

— Які я табе, бабуля, паночак! Усе паны зніклі ў трыццаць дзявятым годзе, а цяпер мы ўсе таварышы. Пара ўжо гэта запомніць!

І вылаяўся непрыстойна.

Звяртаючыся да шаснаццацігадовага Аляксандра Янковіча, камісар сказаў:

— Нічога. Нам такія, як ты, патрэбны, возьмем цябе ў партызаны. Спярша будзеш правадніком. А пасля навучым цябе страляць, і будзеш ваяваць. Калі адмовішся, дык мы палічым цябе дэзерцірам, а за гэта, сам ведаеш, можам расстраляць. Збірайся!

Што рабіць? Некалькі хвілін думае, прыходзіць да высновы, што жыццё даражэй, і кажа:

— Ну што ж, маці, збірай мяне. Раз так, пайду ў партызаны.

А што гэта значыць — стаць партызанам? На першых парах юнак не разумее, што яму прыйдзецца адмовіцца ад усяго прывычнага, абыходзіцца без клопатаў аб ім маці, старэйшай сястры, адысці, па сутнасці, ад усяго, што было да гэтага часу. Так падлетак, сын Міхася і Наталлі Янковічаў Аляксандр стаў партызанам. Сын былога камуніста, члена КПЗБ і адначасна «ворага савецкага народа» Міхася Янковіча, якога ў саракавым годзе па хлуслівым даносе абвінавацілі і засудзілі Саветы як «ворага народа», пасадзілі ў турму на адзін год, а на пачатку вайны хіба што расстралялі. Пачалася вайна, а бацька з турмы не вярнуўся. Нашчадкі не ведаюць што з ім здарылася. Уявіце сабе, што адчуваў сын «ворага народа» Аляксандр Янковіч у партызанскім атрадзе, прымушаны ўзяцца за зброю і ваяваць за савецкую ўладу, якая па хлуслівым даносе сельсаветчыкаў пазбавіла жыцця ягонага бацьку.

Першыя два гады нямецкай акупацыі, калі фронт быў ад нас далёка, — расказвае Маргарыта Янковіч, — праходзілі мірна. Нашы гаспадаркі рэдка наведваліся акупантамі. Усё змянілася ў 1943 год і ў першую палову 1944 года.

## 38. Марыя Саковіч ратуе брата Аляксандра

Другую палову восені 1941 года партызаны прасядзелі ў навакольных лясах. Пачаліся халады, наступала зіма.

У той час там кругом былі балоты. Адразу за балотамі пачыналіся кусты і лес. У пачатку лета 1942 года Марыя пайшла палоць лён на сваю дзялку. Там якраз каля гэтых

кустоў быў надзел сям'і Яўхіма Саковіча. Марыя поле і раптам чуе глухі з кустоў голас:

— Марыся! Марыся!

Ціхенька так. Яна аглянулася — нідзе нікога няма. Зноў поле. Нейкі страх апанаваў яе. Ізноў поле, але ўважліва прыслухоўваецца. І зноў чуе:

— Марыська! Марыська!

А потым бачыць, хтосьці паўзе па разоры з кустоў і набліжаецца да яе, а галавы не падымае. І гэта ён зрабіў знарок, каб ніхто яго не бачыў. Падпоўз да Марысі. Яна бачыць: гэта ж яе брат, партызан Аляксандр. А той ляжыць у разоры, плача і кажа:

— Марыська, паглядзі на мяне. Я ўвесь пакрыты каростай, вашывы. Ратуй, сястрычка, калі ты не ўратуеш, то мяне кароста і гэтыя вошы з'ядуць. Усё на мне адзенне спарахнела. Ты мне прынясі вады памыцца і пераапрануцца.

У Марысі ад страху затрэсліся рукі, аднак праз некалькі хвілін яна супакоілася і кажа:

— Ты адпаўзі назад у кусты, схавайся там і пацікуй за мной. Я зараз схаджу ў хату. Раскажу маме, і мы штосьці прыдумаем, каб табе дапамагчы. Чакай мяне.

Яна паднялася. Аглянулася. Нічога падазронага не ўбачыла. Пастаяла некалькі хвілін. Паглядзела, як Саша дапоўз да кустоў, і толькі тады пайшла ў хату да мамы. Расказала ёй усё. Нагрэлі вялікі чыгун вады. У мамы быў аб'ёмны збан, налілі туды кіпеню, накрылі яго хусткай, каб ніхто не бачыў, Марыся ўзяла адзенне, якое тут жа ў хаце знайшлося, — яшчэ бацькава — і ўсё астатняе і пайшла ў тыя кусты, калі пачало цямнець. Там яго памыла, потым вымазала ўсяго газай, пастрыгла валасы, адзела чыстае. Пакарміла. Сказала:

— Ты праз некалькі дзён прыйдзі сюды, я цябе яшчэ змажу газай, бо адзін раз табе будзе мала.

Некалькі разоў ён прыходзіў на гэтае месца ўпотай, і яна змазвала яго газай, дзякуючы чаму ён пазбавіўся ад гэтых напасцяў.

## 39. Па даносе немцы акружылі вёску Матылі

Першага кастрычніка 1943 года Марыя нарадзіла дачку. Неўзабаве хтосьці з мясцовых падказаў немцам, што ў Матылях партызаны. І тут жа вёску акружылі немцы. Жыхары, тыя, хто мог, паўцякалі ў лес, а Марыя з малым дзіцяткам і з мамай Наталляй вырашылі застацца. У Марыі былі цяжкія роды. Вельмі шмат крыві страціла. Яна сказала так:

— Я нікуды не пайду. Калі паміраць, так разам са сваім дзіцём. І куды ж я пайду? Гэта ж такі холад. Ужо канец кастрычніка. Так я загублю сваё дзіця.

Вядома, што яна інакш учыніць не магла. А тут ужо і немцы ідуць, заходзяць у кожную хату. Уваходзяць з перакладчыкам. Адразу пытаюць на польскай мове:

— Дзе партызаны?

Марыся кажа:

— Не, пане, тут у нас партызанаў няма.

Стаіць Марыся ля ложка, а побач калысачка, а ў ёй дзіцятка. Нямецкі афіцэр падыходзіць і пытае праз перакладчыка:

— А хто гэтая пані?

— Яна мая дачка, — адказвае Наталля, — нарадзіла дзіцятка. Страціла шмат крыві. Няма чым яго карміць.

Немец пытае:

— А што, малака няма?

— Не, няма, — адказала маці.

— А цукар ёсць?

— Пане, — кажа бабуля, — а дзе той цукар?

— А чым будзеце карміць дзіця?

— Не ведаю, — кажа бабуля, — як дзіця будзе жыць.

Тады афіцэр падняў покрыва, якім было накрытае дзіця, паглядзеў і кажа праз перакладчыка:

— Скажы матцы, што ў нас тут кухня ёсць. Каб яна заўтра прыйшла да кухара. Ён дасць цукру, каб гэтае дзіця было чым карміць.

Наталля спалохалася і кажа:

— А як я пайду да немца? Я не разумею па-нямецку. Як я з ім магу паразумецца?

Перакладчык адказвае:

— Прыходзьце. Там будуць перакладчыкі з польскай на нямецкую.

Немец, адыходзячы да дзвярэй, папярэдзіў:

— Глядзі, маці, каб абавязкова прыйшла!

Назаўтра Наталля пайшла да той нямецкай кухні, звярнулася да перакладчыка, сказала, што нямецкі афіцэр прыслаў яе на кухню па цукар. І тады кухар адбіў вялікі кавалак цукру і даў ёй. Яна палажыла яго ў палатняную торбачку і прынесла дахаты. Сталі румянак запарваць, хлеб жаваць і цукар дабаўляць. Хлеб жованы з цукрам і румянак былі соскай дзіцяці. А потым ужо дамовіліся на вёсцы з малаком, сталі яго ўжываць. Вось так выжыла першая дачка Марыі, якую ахрысцілі Таццянай.

## 40. Лёс Аляксандра Янковіча

Да 1944 года Аляксандр Янковіч быў у партызанах. А калі немцаў прагналі, то яго мабілізавалі на вайну, і ваяваў ён да канца вайны.

У 1948 годзе закончыў курсы шафёраў і дэмабілізаваўся ў Гародні, дзе пачаў працаваць шафёрам на тытунёвай фабрыцы. Там жа пазнаёміўся з дзяўчынай з Рослаўля Смаленскай вобласці. Яна пасля вайны разам са сваімі роднымі пераехала ў Гарадзенскую вобласць, ратуючыся ад голаду, а ў канцы саракавых гадоў жыла і працавала ў Гародні. Дзесьці ў 1950-м яны распісаліся. У 1955 годзе маладая сям’я Янковічаў з двума сынамі — на гэтым настаяла жонка Аня — пераехала ў Рослаўль на пастаяннае месца жыхарства. Аляксандр працаваў там шафёрам на масласырзаводзе. Праз нейкі час стаў пенсіянерам. Сыны і жонка настойвалі на тым, каб бацька з’ездзіў на радзіму ў Гародню і атрымаў пасведчанне аб сваім удзеле ў ваенныя гады ў партызанах. Яму гэта не хацелася рабіць, бо быў сілком, пад пагрозай расстрэлу, забраны ў 16 гадкоў у партызаны. Сын былога камуніста, члена КПЗБ і адначасна «ворага савецкага народа» Міхася Янковіча не хацеў расказваць нашчадкам пра сваё гераічнае партызанскае мінулае і не хацеў яго ўспамінаць. Ягоныя сыны пераконвалі яго, што трэба

знайсці дакументы аб ягоных партызанскіх заслугах, каб атрымаць льготную пенсію. І нарэшце пад прымусам сыноў і жонкі ён здаўся і ўсе ж такі здабыў неабходныя паперкі аб сваёй партызанскай дзейнасці. Скончыў свой зямны шлях у Рослаўлі на радзіме жонкі Ані, пражыўшы 67 гадоў.

## 41. Уцёкі Пятра Башко ад вайны

У 1995 годзе наш хор «Бацькаўшчына» едзе ў мястэчка Жыровічы з канцэртам духоўнай музыкі. Мне пашанцавала сядзець у аўтобусе разам з харыстам басовай партыі, цудоўным расказчыкам Пятром Сцяпанавічам Башко. Ён расказваў аб сваіх уцёках ад вайны. Пачаў ён з таго, што, калі пачалася Другая сусветная вайна, малады польскі інжынер варшаўскага завода авіяцыйных рухавікоў Пётр Башко другога верасня 1939 года пешшу рушыў з Варшавы на радзіму сваёй маці ў Наваградак. Ён сказаў нам: «Каб апісаць мае ўцёкі на радзіму ад бамбардзіровак немцамі Варшавы, неабходны талент нашага Васіля Быкава».

Прайшло шмат часу з той пары. Пётр Сцяпанавіч памёр праз два гады. Аб ягоным пахаванні я даволі падрабязна напісаў у кнізе «Гучыць наш хор».

2006 год, сустракаю сына Пятра Бажко Арыса. Ён мне даў шмат новай інфармацыі аб сваім усебакова адораным бацьку.

Карыстаючыся назбіраным, я напісаў наступнае.

Бацька Пятра Сцяпан Башко нарадзіўся ў мястэчку Парэчча былой Гарадзенскай губерні і амаль усё жыццё працаваў на тамашняй чыгуначнай станцыі на розных службовых пасадах, нейкі час нават стрэлачнікам. Быў жанаты з дзяўчынай шляхецкага роду Машчонскіх Дар'яй Сільвестраўнай Герэйка. Яе дзед — шляхціц з-пад Наваградка.

Дар'я Сільвестраўна нарадзіла 13 дзяцей. Дзясятым з іх быў Пётр. Ён нарадзіўся 5 жніўня 1915 года падчас Першай сусветнай вайны. Неўзабаве фронт наблізіўся да мястэчка Парэчча. Шматлікая сям'я Башко вымушана была, па загаду царскіх уладаў, паехаць у бежанства. Гэтай сям'і была да-

дзена магчымасць паехаць у высяленне цягнікам па льгоце, як сям'і чыгуначніка. Захапіўшы з сабою ўсё неабходнае, сям'я Башко прыбыла ў Санкт-Пецярбург і пасялілася ў Гатчыне. Там усю вайну Сцяпан працаваў на чыгуначнай станцыі. Вярнуліся на радзіму ў 1921 годзе, калі Пятру споўнілася шэсць гадоў. У гэтым годзе бацькі аддалі Петруся ў пачатковую школу мястэчка Парэчча, сем класаў польскай пачатковай школы закончыў на выдатна ў 1928 годзе.

Летам таго ж года Сцяпан адвёз сына ў Вільню, дзе Пятрусь пачаў вучыцца ў тэхнічным чыгуначным вучылішчы. Скончыў вучылішча, вытрымаў уступныя экзамены ў вышэйшую чыгуначную школу Вільні, але там не вучыўся. Даведаўся, што ў Варшаве ёсць вышэйшая тэхнічная чыгуначная школа, і паехаў туды, балазе там была замужам ягоная сястра за варшавянінам і пры іх ён мог знайсці прыстанішча. Вытрымлівае там паўторна ўступныя экзамены і вучыцца ў вышэйшай чыгуначнай школе Варшавы.

Паспяхова скончыў гэтую школу ў 1936 годзе, атрымаў дыплом інжынера вышэйшай кваліфікацыі. Доўга не мог уладкавацца на працу таму, што тады ў Польшчы было значнае беспрацоўе. Аднак калі ён прыйшоў на авіяпрадпрыемства Варшавы ў пошуках работы, то там яму прапанавалі прайсці свайго роду іспыт — растлумачыць складаны тэхнічны рысунак. Ён адказаў на ўсе складаныя пытанні. Кіраўнікі завода зразумелі, што знайшлі патрэбнага ім чалавека, і ўладкавалі яго на працу інжынера ў аддзел авіяцыйных рухавікоў, дзе ён даслужыўся да пасады галоўнага тэхнічнага рэферэнта.

У свабодны ад працы час Пётр вучыўся ў Варшаўскім дзяржаўным інстытуце тэатральнага мастацтва (Państwowy instytut sztuki teatralnej w Warszawie) па класе сцэнічнага майстэрства прафесара Аляксандра Зельвяровіча. Мала таго, ён паступіў і ў платную школу малярства. Працаваў і вучыўся да 1939 года.

З пачаткам Другой сусветнай вайны ён пешшу адправіўся на радзіму. Праз два тыдні дабраўся да Івацэвічаў і затрымаўся на нейкі час у знаёмых. Пакінуў частку свайго багажу ў іх. Пайшоў на чыгуначную станцыю мястэчка, захапіўшы з сабою саквояж з самым неабходным. На чыгуначнай станцыі ўбачыў нейкі састаў, які накіроўваўся

на ўсход, на Баранавічы–Стоўбцы, і ў начальніка саставу папрасіўся пад’ехаць да Стоўбцаў. Той ветліва запрасіў яго ў вагон. Калі ён сеў і састаў рушыў, то ўцяміў, што папаў у пастку, бо ў гэтым саставе нкусаўцы везлі арыштаваных польскіх афіцэраў, і яго далучылі да іх. Гэта ён зразумеў, калі састаў на нейкіх прыпынках затрымліваўся і ён спрабаваў выйсці: яго не выпускалі. Так ён ехаў да станцыі Стоўбцы. На прыпынку польскія афіцэры ўзбунтаваліся, запатрабавалі, каб іх выпусцілі ў прыбіральню. Пачалі крычаць:

— Выпусціце нас або расстраляйце! Мы не быдла, а людзі! Не можам болей цярпець!

У гэты момант да саставу наблізіўся натоўп мясцовых людзей, якія выкрыквалі галосна прозвішчы сваіх родных служылых у польскай арміі, якія зараз маглі аказацца ў гэтым саставе. Прышлых набралася каля сотні чалавек. Тады начальнік саставу бачыць, што справа — дрэнь: палонныя ў адчаі, гатовыя пайсці на крайнія меры. Начальнік саставу прымае рашэнне: дазволіць палонным выйсці ў прыбіральню — і дае каманду ахоўнікам выстраіцца ланцугом уздоўж чыгуначнага саставу і палонным афіцэрам выйсці з вагонаў.

З палоннымі выйшаў і Пётр Сцяпанавіч, прадбачліва захапіўшы саквояж. У адрозненне ад афіцэраў Пётр быў у цывільнай вопратцы. На ім быў белы плашч. Пётр падышоў да бліжэйшага ахоўніка, спытаў:

— Господин начальник, разрешите мне сходить в тот киоск и купить вам и мне по булочке?

— Разговаривать мне с вами не положено… Идите!

Пётр падышоў да незнаёмай жанчыны, паставіў ля яе свой саквояж і кіўком галавы даў ёй зразумець, каб яна ўзяла ягоны саквояж, а сам купіў у шапіку дзве булкі, і вярнуся да ахоўніка. Працягнуў яму булку. Пачуў:

— Не положено.

Але булку ўзяў, і палажыў у кішэнь. А Пётр стаў побач з ім і са смакам уплятаў сваю порцыю, бо амаль суткі нічога не еў. Калі паступіла каманда: «По вагонам садись!», ахоўнікі груба пачалі запіхваць афіцэраў у вагоны. Адзін ахоўнік адштурхнуў Пятра ў грудзі да натоўпу прышлых цывільных,

палічыўшы яго адным з іх. Пётр падаўся ў натоўп. Знайшоў жанчыну з сваім саквояжам. Яна яго запрасіла да сябе ў сваю хату. Пакарміла. Ён ёй шчодра аддзячыў грашыма. Гаспадыня яму дазволіла пераначаваць у адрыне на сене. Пётр коратка ёй расказаў аб сваім вандроўніцтве з Варшавы ў Наваградак. Расказаў пра тое, што яму яшчэ неабходна дабрацца да Наваградка, а гэта ж не менш як пяцьдзясят кіламетраў. Пры гэтай размове прысутнічалі хлопцы-кватаранты гаспадыні і чулі ўсе расказы Пятра.

Перад тым як пайсці Пятру спаць, гэтая жанчына яго папярэдзіла:

— Будзьце ўважлівы! Я выпадкова пачула, што хлопцы, якія будуць з вамі спаць у адрыне, збіраюцца вас забіць і абрабаваць, як будзеце ісці па наваградскай дарозе.

Леглі спаць трое хлопцаў, а на ўскрайку ўладкаваўся Пётр, і праз некалькі хвілін знарок пачаў ціха храпці, каб бандыты падумалі, што ён спіць, бо ён хацеў пачуць, аб чым яны будуць гаварыць. Адзін з іх, відаць верхавод, ледзь чутно сказаў:

— Але ж хутка ён заснуў. Відаць, дужа замарыўся гэты багаценькі. Давайце, браточкі, стрэнем яго за паваротам на Мір, там, дзе канчаецца лес, і зацягнем у лес, а цяпер спаць!

Стала ціха… Пётр працягваў храпці да тых пор, пакуль бандыты не заснулі. Як толькі яны паснулі, Пётр паціху падняўся, узяў свой саквояж, выйшаў з адрыны, прычыніў дзверы. Прыслухаўся. Цішыня. Толькі конікі парушалі яе сваім стракатаннем…

Хутка прайшоў падворак, паціху прычыніў веснічкі, пакінуў гэты падазроны дом. Ноч была прахалоднай і месячнай — другая палова верасня, і ён, спяшаючыся, пайшоў па дарозе, якая вяла на мост праз Нёман. Яму раней не раз даводзілася быць у Стоўбцах, таму ён добра арыентаваўся. Пакрочыў вуліцай на мост. Мінуў яго. Ішоў напрамкам на Баранавічы некалькі кіламетраў і, не даходзячы да павароту на шашу, якая вядзе ў Мір, павярнуў направа, пайшоў па полі, дзе на паўночным небакраі быў ледзь бачны лес скрозь начную смугу, якая ўзнікла паблізу Нёмана.

Пётр — глыбока веруючы хрысціянін. Заўсёды, калі былі спрыяльныя моманты, наведваў каталіцкую царкву.

І вось, калі ён уцёк ад бандытаў — адарваўся ад іх, і каб усе ягоныя планы ўдаліся — пачаў маліцца на сваёй мове, звяртаючыся да Бога малітвай «Ойча наш», беларускі тэкст якой ён запомніў яшчэ ў Вільні:

— Ойча наш, каторы ёсць у небе. Святіся імя Тваё, прыйдзі валадарства Тваё, будзь воля Твая, як на небе, так і на зямлі. Хлеба нашага штодзённага дай нам сёння. І адпусці нам грахі нашы, як і мы адпускаем вінаватым нашым. І не ўводзь нас у спакусу, але збаў нас ад злога.

Падчас вучобы ў тэхнічным вучылішчы Вільні ён часцяком па нядзельках хадзіў у касцёл Святога Мікалая, дзе на беларускай мове адпраўляў імшу вядомы ксёндз Адам Станкевіч. У Пятра была выдатная памяць. Яму было дастаткова праслухаць разы два малітву — і ён ужо яе памятаў. Таму, калі ён адпраўляўся пешшу другога верасня на радзіму, ці калі клаўся спаць, або калі набліжаўся да Стоўбцаў, седзячы ў кутку вагона на падлозе, абавязкова звяртаўся ў думках да Бога з гэтай малітвай. А цяпер, ідучы спехам да лесу, змест малітвы паўтараў некалькі разоў. На ўскрайку затрымаўся, агледзеўся. Убачыў сцежку, якая ішла ў патрэбным яму кірунку, і амаль подбегам пайшоў. Сцежка, ён быў упэўнены, прывядзе да патрэбнай яму шашы. Яму як мага хутчэй трэба было пераадолець тое месца, якое намецілі бандыты. У Міры, ён меркаваў, яму ўдасца папасці ў больш небяспечнае месца. А пакуль, ідучы спехам па сцежцы, падумаў, што ён будзе рабіць, калі бандыты ўсё-такі стрэнуць яго ў згаданым імі месцы.

Пятро ў свой час, будучы студэнтам, браў урокі па боксу і мог у любых складаных абставінах пастаяць за сябе. Таму вырашыў: калі бандытам усё-такі ўдасца стрэць яго, то ён прыменіць сваё ўмельства. І тады невядома, хто каго пераможа...

Лес быў невялікі, і неўзабаве ён убачыў скрозь дрэвы светлую паласу дарогі. Затрымаўся. Некалькі хвілін стаяў і ўважліва вакол аглядаўся, прыслухоўваючыся. Нічога падазронага не заўважыў. Была яшчэ ноч. Нават птушкі, і тыя яшчэ спалі. Пасля смела выйшаў на дарогу і, аглядваючыся, пакрочыў да Міра. Ішоў хутка і даволі доўга. Калі на паўночна-ўсходнім небакраі пачало віднець, убачыў вежы

Мірскага замка. Супакоіўся — быў упэўнены, што небяспека, на гэты раз мінула... Падыходзячы да мястэчка, стрэў мужчыну, які гнаў статак кароў на пашу, прыпыніўся, спытаў: «Скажы мне, добры чалавек, як мне знайсці ў мястэчку дом майго сябра Фёдара Ката?» Пастух прыпыніўся, уважліва паглядзеў на незнаёмага і расказаў, як знайсці патрэбны дом. Петр падзякаваў і няспешна пайшоў па мястэчку. Знайшоў патрэбны дом, перад ім была лаўка. Запіхнуў свой саквояж пад лаўку з разлікам, што, калі ён задрэмле і хто-небудзь паквапіцца на ягоную маёмасць, то ён гэта адчуе і прачнецца. Сеў і толькі цяпер адчуў стомленасць. Яго змарыў сон, і ён заснуў.

Прайшоў нейкі час. Пятро адчуў, што нехта яго тузае за рукаў. Адчыніў вочы і ўбачыў, што яго пабудзіў патруль Савецкай Арміі. Старшы спытаў:

— Гражданин, почему вы спите на улице?

— Товарищ начальник, я приехал из Столбцов к своему другу Фёдору Коту, который проживает в этом доме. Но еще очень рано. Я не хотел никого будить, а сел на эту скамью, чтобы подождать, и нечаянно заснул.

— Кто вы такой и где вы живёте? Ваши документы.

— Я Пётр Степанович Башко. Работал в семилетней польской школе местечка Столбцы учителем рисования и ввиду того, что занятия в школе ещё не начались по известным причинам, решил навестить своего друга, с которым мы вместе учились. Какие могут быть документы? У нас еще не установилась твёрдая власть. Я могу показать свой польский паспорт. Советского паспорта, по известным вам причинам, нет.

Пакуль ішла размова Пятра з патрулём, ішоў час. Суседзі пачалі выходзіць з дамоў. Выйшла на парог дома гаспадыня дома, дзе затрымаўся Пётр. Ён звярнуўся да яе:

— Добры дзень шаноўная, скажыце мне, ці не памыляюся я, што ў гэтым доме жыве Фёдар Кот?

— А вы хто такі?

— Я — Пётр Башко. Сябра Фёдара.

— Раз так, прашу прабачыць мне — заходзьце ў хату. Я Фёдара зараз паклічу.

І пайшла.

— Пётр Степанович, мы ещё с вами пока не разобрались. Берите свой багаж, и мы пройдём в комендатуру и там разберёмся, выясним, кто вы такой.

У гэты момант на ганку паявіўся Фёдар Кот і спрасоння гаворыць:

— А каго ж гэта нячыстая носіць у такую рань? Дык гэта ж, здаецца, Пеця Башко!

Яны цёпла прывіталіся. І Пётр пачаў гаварыць па-руску:

— Думаю, что начальник патруля будет любезен и разрешит мне мой саквояж оставить в твоём доме, а я с ним пойду, по его требованию, в комендатуру. А адтуль, — звяртаючыся па-беларуску, — прыйду да вас, як толькі патруль разбярэцца з маімі дакументамі і адпусціць мяне.

Камандзір патрульнай каманды дазволіў Пятру пакінуць у Фёдара ягоны багаж. Патруль складаўся з камандзіра і двух чырвонаармейцаў. Камандзір загадаў аднаму з іх адвесці Пятра ў камендатуру, яна размяшчалася ў былым польскім паліцэйскім участку ў цэнтры Міра, а сам з другім чырвонаармейцам пайшоў патруляваць.

Хвілін праз пятнаццаць Пётр быў у камендатуры. Баец адрапартаваў прысутнаму дзяжурнаму лейтэнанту, што ён «по приказанию своего командира доставил задержанного, который спал на скамейке, и его следует допросить».

Пётр следчаму расказаў падрабязна тое, што яго прывёз рамізнік са Стоўбцаў, пакінуў ля дома яго сябрука Фёдара Ката і паехаў назад дахаты. І дадаў:

— Выехалі са Стоўбцаў у прыцемках. Ехалі хутка і прыехалі яшчэ як пачынала на ўсходзе святлець. У такую рань я лічыў непрыстойным будзіць сябра, а вырашыў пасядзець на лаўцы насупраць дома, покуль хтосьці выйдзе з хаты, і нечакана заснуў.

І далей расказаў, хто ён такі, дзе жыве і дзе працаваў да прыходу савецкіх войск, і паказаў свой польскі пашпарт. Следчы паглядзеў і спытаў:

— Скажите, а не могли бы вы мне всё это рассказать на русском языке? А то я, откровенно говоря, ни хрена не понял.

— Слушайте, — сказаў Пётр, — выехал я на нанятом извозчике затемно из местечка Столбцы. Ехали быстро. Приехали в Мир к дому знакомого Фёдора Кота, когда светало. Извозчик получил свои деньги и уехал домой. Я считал неприличным стучать в дверь, чтобы меня впустили в дом. Сел на скамейку напротив дома и ожидал, когда кто-то выйдет из дома на улицу, и нечаянно уснул.

У гэты момант у камендатуру прывялі хлопца, які на любыя пытанні адказваў на польскай мове, а прысутны лейтэнант нічога не разумеў і звярнуўся да Пятра:

— Пётр Степанович, помогите мне понять, что говорит этот мальчишка?

На пытанне, хто яго бацька і кім ён працуе, хлопчык па-польску адказаў:

— Moj ojciec gajowy, pracuje w lesie*.

Хлопчыка адпусцілі. А калі б Пётр Сцяпанавіч патлумачыў як трэба, то лёс хлопчыка і ягонай сям’і склаўся б трагічна. Таму, што следчыя органы НКУС шукалі польскіх гаёвых (леснікоў), каб вывезці іх як ворагаў народа на пасяленне.

Пасля такой «дапамогі» Пятра адпусцілі, і ён вярнуўся ў дом Фёдара. Там яго чакалі. Пётр коратка расказаў ім аб сваіх прыгодах і папрасіў Фёдара, каб ён даў яму магчымасць прывесці сябе ў парадак і адпачыць, бо ён ідзе з Варшавы і яму патрэбна як мага хутчэй дабрацца да Наваградка, бо там у Пятра было шмат блізкіх родных па яго маці.

Фёдар выканаў пры дапамозе сваёй маці ўсе просьбы. Пятра накармілі і палажылі адпачываць. Як толькі ён прытуліў галаву да падушкі дык імгненна моцна заснуў. Спаў доўга. А перад тым як прачнуцца, бачыў сон: за ім гналіся бандыты, і калі яны яго наганялі — прачнуўся. Падумаў: як добра, што гэта толькі ў сне.

Падняўся, калі сонца пачало хіліцца да захаду. Гэта заўважыў Фёдар, падышоў да яго:

— Добры вечар, Пятрусь! Што, добра выспаўся? Пасля столькіх амаль бяссонных начэй?

— Так, Федзя, я ўпершыню за два тыдні паспаў па-людску, — пачаў падрабязна расказваць аб сваім вымуша-

---

* Мой бацька — ляснік, працуе ў лесе (*пол*.).

ным падарожжы Пётр, — мае прыгоды пакуль не скончаныя. Трэба збірацца і ісці далей.

— Што ты кажаш? Наперадзе ж ноч. А ты будзеш ісці і чакаць, што цябе падсцеражэ якая-небудзь небяспека. Я лічу, што табе трэба ў нас пераначаваць. Хопіць табе напрошвацца на начныя прыгоды. Зараз, пакуль не ўсталявалася цвёрдая ўлада, пачалі правіць баль бандыты. Яны шукаюць лёгкай спажывы. Ты ў гэтым толькі што пераканаўся. Табе Бог дапамог пазбавіцца ад гэтай бяды. Ці варта і далей рызыкаваць?

— Але ж я не магу непакоіць вас. Я і так шмат клопатаў прынёс вам…

— Пеця, прабач мне, але мы з мамай вырашылі: ты будзеш начаваць у нас. А заўтра мы разам падумаем, як табе дабірацца да Наваградка. Спяшацца табе туды не варта і рызыкоўна. Тым больш, што мама, пакуль ты адпачываў, падрыхтавала нам пачастунак. Хадзем на кухню, апаласніся, і мы сядзем за стол, нам ёсць аб чым пагутарыць.

— Ну што ж, раз вы так вырашылі, я падпарадкоўваюся.

І, калі ў гасцінай сеў за стол, сказаў:

— Раз так, то я хачу ўнесці сваю долю затрат грашыма, бо зараз у сувязі са зменай улады наступаюць новыя часы, і хто ведае, як багата мы будзем жыць пры новай, савецкай уладзе? — І ён паклаў на стол значную суму польскіх злотых, балазе, яны покуль былі ў абарачэнні. — Гэтыя грошы вам трэба як мага хутчэй выкарыстаць, покуль яны чагосьці вартыя. Можа так стацца, што польская валюта ўмомант страціць сваю вартасць, таму, спадарыня Марыя, не беражыце гэтыя грошы, а як мага хутчэй патрацьце на свае патрэбы. Я, калі працаваў, атрымліваў даволі шмат грошай, таму і мне трэба таксама задумацца як у будучым гэтую валюту абмяняць на савецкую. Прашу вас, спадарыня Марыя, без пярэчанняў прыняць гэтыя грошы, — рашуча заявіў Пётр.

Стол быў багата сервіраваны. Там было ўсё неабходнае, і нават манаполька і віно. Мужчынам Марыя прапанавала наліць па кілішку гарэлкі, а сабе наліла віна. Фёдар устаў, падняў келіх, сказаў:

— Хачу выпіць за майго лепшага сябра, нашага госця Пятра. І пажадаю яму як мага хутчэй паспяхова скончыць сваё падарожжа і ўладкаваць усе свае справы ў новай, на гэты раз беларускай савецкай дзяржаве.

Пачастункі і размовы працягваліся да позняй ночы.

Раніцай наступнага дня Пётр папрасіў:

— Федзя, ці магу я папрасіць цябе наняць рамізніка да Карэлічаў? Там я знайду каго-небудзь знаёмага. А адтуль на другім экіпажы даеду да Наваградка.

— Пеця, у чым рэч? Я толькі што хацеў прапанаваць табе наняць фаэтон, аднак ты мяне апярэдзіў. Я думаў каго з лепшых рамізнікаў наняць, каб цябе адвезці. Гэтае пытанне мы хутка вырашым. Больш таго, я хачу правесці цябе да Карэлічаў, балазе рамізнік будзе, скарэй за ўсё, вяртацца з Карэлічаў у Мір і прывязе мяне дахаты.

— Дзякуй Федзя, я з тваёй прапановай згодзен. Так і зробім. Я думаю, што мы рушым як мага раней, прыблізна а дзясятай гадзіне.

— Добра, зараз пайду замоўлю фурманку, — сказаў Федзя.

Роўна ў дзесяць пад’ехаў рамізнік. Пеця развітаўся са спн. Марыяй. Шчыра падзякаваў за цёплы прыём і багаты пачастунак. Уладкаваліся на экіпажы і рушылі напрамкам на Карэлічы.

Усю дарогу Пётр і Фёдар вялі цікавыя размовы пра свае мінулыя гады. І час хутка прабягаў. Апоўдні яны прыехалі да Карэлічаў і затрымаліся ля хаты сямейства Кіта ў Агародніках — на ўскрайку Карэлічаў.

Фёдар цёпла развітаўся з Пятром, пажадаў яму ўдала дабрацца да Наваградка, папрасіў Пятра не забываць ягоны дом у Міры і паехаў назад.

Пётр падышоў да брамы дома, адчыніў веснічкі і пастукаў у дзверы. На гэты стук выйшаў пажылы прыстойна апрануты мужчына і запытаў па-руску:

— Кто вы такой и что вам нужно?

— Я — Башко Пётр Степанович. Иду из Варшавы в Новогрудок к своей родне со второго сентября. Здесь, если я не ошибаюсь, живёт мой знакомый Борис Владимирович Кит. Могу ли я с ним увидеться?

— Извините меня. Пройдите в дом. Там нам проще будет разговаривать.

Мужчына адчыніў дзверы і запрасіў Пятра ў дом.

— Свой саквояж можаце пакінуць у прыходні, — мужчына перайшоў на беларускую мову, — і праходзьце, Пётр Сцяпанавіч, у гасцёўню.

Там Пётр сеў на прапанаванае яму месца.

— Барыса вы зараз не ўбачыце, бо ён стала жыве і працуе ў Вільні, а зараз дзе ён знаходзіцца, я і сам не ведаю. Спадзяюся, што ў сувязі з апошнімі падзеямі ён можа прыехаць да нас. Завуць мяне Уладзімірам. Цяпер вы, Пётр, здагадаліся, што я — ягоны бацька. І называйце мяне па-беларуску спадар Уладзімір, так нам будзе прасцей паразумецца. Спадар Пётр, цяпер прадоўжце размову больш падрабязна пра сябе.

Пётр коратка расказаў аб сваім паходзе і дадаў:

— Мяне ўстрывожыла ў маіх прыгодах тое, як жорстка абыходзілася савецкая ахова з польскімі палоннымі афіцэрамі, тым больш, як мне расказаў адзін з афіцэраў, што іх арыштавалі без бою, бо быў загад польскага камандавання не аказваць супраціву савецкім войскам.

Пасля знаёмства Уладзімір Кіт пазнаёміў Пятра з сваімі блізкімі і папрасіў жонку арганізаваць абедзенны стол, балазе быў час палуднаваць. За сталом Пётр Сцяпанавіч коратка расказаў прысутным аб сваіх уцёках ад вайны і скончыў тым, што яму застаўся апошні шлях да гэтай мэты, якую ён паставіў у Варшаве раніцай другога верасня, — як мага хутчэй дабрацца да Наваградка, да радні.

— У сувязі з гэтым я хачу, — звярнуўся да Уладзіміра Кіта Пётр, — параіцца з вамі: як мне наняць экіпаж, які б мяне адвёз у Навагрaдак?

Асеннія дні сталі значна карацейшымі, і сп. Уладзімір параіў начаваць у іх доме, бо праз дзве гадзіны ўжо пачне цямнець і наўрад ці хтосьці пагодзіцца адвезці яго ў такую пару. Пятру нічога не заставалася, як пагадзіцца начаваць у доме Кіта.

Ранкам наступнага дня сп. Уладзімір дамовіўся з сваім суседам, які займаўся такімі паслугамі, і гэты сусед за чатыры

гадзіны без асаблівых прыгод даставіў Пятра па ўказаным адрасе.

У Наваградку Пётр сустрэўся з сваімі роднымі, якія пераехалі са станцыі Парэчча ў Навагрaдак да сваёй радні, таму што пры наступленні немцаў яны сталі пагарэльцамі.

## 42. Злачынствы бальшавікоў супраць жаўнераў Андэрса

— На Гарадзеншчыне, у вёсцы Марцінаўцы, непадалёку ад мястэчка Лунна Скідзельскага раёна 22 жніўня 1905 года ў беднай сялянскай сям'і нарадзіўся мой тата — Язэп (Іосіф, Ёзік) Якімавіч Жукевіч, — пачала свой расповед мая знаёмая Марыя Жукевіч. — У час Першай сусветнай вайны дзед з сям'ёй царскімі войскамі быў выселены ў бежанства, дзе жыццё было не салодкім. Пасялілі іх у сяло Дзмітраўку Ардатаўскага павета Ніжагародскай губерні.

Пракарміць сям'ю з шасці чалавек было не проста — тата і старэйшы брат Алесь, каб выжыць у бежанстве, вымушаны былі хадзіць па сёлах жабраваць. Мясцовыя жыхары адносіліся да іх са спачуваннем і заўсёды дзяліліся сваімі небагатымі спажыткамі. У сяле Дзмітраўцы тата закончыў тры класы рускай школы і на той час быў даволі адукаваным. У 1918 годзе вярнуліся на радзіму ў Марцінаўцы. Было вялікім шчасцем, што хата іх захавалася цэлай, але была зусім пустая. У гэты час яшчэ нарадзіўся адзін брат бацькі. Хата была маленькая, і трэба было думаць, дзе будуць жыць чатыры сыны і дачка. Каб будаваць новую хату, патрэбны быў кавалак зямлі. А на той вузенькай палосцы, якою валодаў дзед, не было месца, каб пабудаваць другую хату.

У пачатку дваццатых гадоў людзям прапаноўвалі пераходзіць на хутарную сістэму. І тым, хто быў згодны перасяліцца з вёскі на хутар, давалі зямлю ў адным кавалку. Згадзіліся выехаць з вёскі, купілі стары барак у пана і пабудавалі хату на два канцы. Дрэва барака было прасмоленае, моцнае, хаця барак да гэтага часу меў сто гадоў. У 1924 годзе сям'я пераехала на хутар у пусты дом, дзе

былі толькі дзверы, вокны і печ. У гэтым годзе памёр дзед Якім, здароўе яго было падарвана непасільнай працай. Але дзякуючы працавітасці маіх дзядзькоў хата і гаспадарка прыводзіліся ў належны стан.

З 1928 па 1929 год тата праходзіў тэрміновую службу ў польскім войску ў г. Брэсце, а пасля ў Кракаве. Вярнуўшыся з войска, трэба было вырашыць, як жыць далей, бо зямлі было мала. І таму нехта з чатырох братоў вымушаны быў набыць спецыяльнасць, не звязаную з зямлёй.

Дзядзькі Алесь і Віктар засталіся на гаспадарцы. Кастусь вучыўся на сталяра. Тата вучыўся шавецкай справе ў жыда ў мястэчку Лунна і жыў у іх сям'і. Работы было многа. За вучобу і яду не плаціў. Майстар да вучня ставіўся з павагай, не зневажаў. І тата стаў вельмі добрым майстрам, рабіў прыгожыя туфлі, чаравікі, боты. Абутак яго вырабу быў акуратны і моцны. Працы ў яго было шмат. Хадзіў па вёсках і жыў у таго, каму рабіў абутак. Але час ішоў, і трэба было падумаць пра стварэнне сваёй сям'і. У 1934 годзе дваццацідзевяцігадовы Язэп Жукевіч ажаніўся і пасяліўся разам з усёй вялікай сям'ёй на хутары. Дзядзька быў жанаты і меў дачку, з імі жыла разам і цешча. Цётка Люда выйшла замуж. І калі ў 1937 годзе нарадзілася я, то ў хаце жыло восем чалавек. Усе размяшчаліся ў адным канцы дома, бо другі быў недабудаваны і ў ім стаялі свінні. Сталі будаваць другі дом у вёсцы для нас і дзядзькі Віктара. Дом пабудавалі, але туды не пераехалі. З пачатку жніўня 1939 года тату забралі ў якасці рэзервіста ў Польскае войска. Але ўжо 29 верасня пад Брэстам Савецкая Армія ўзяла ў палон многа польскіх салдатаў, у асноўным беларусаў. І мой тата апынуўся ў лагеры для ваеннапалонных спачатку ў Дубне (на Украіне), затым у Роўне, Днепрапятроўску, Старабельску. Працавалі ў шахтах, дабывалі вугаль у вадзе па пояс. Палонным давялося прайсці праз многія выпрабаванні. Кармілі іх вельмі дрэнна. Былі выпадкі, калі за бохан хлеба забівалі адзін аднаго. Усе былі вельмі змучаныя, ледзь хадзілі.

У тыя часы польскія генералы Андэрс, Сікорскі, Вішнеўскі і іншыя, знаходзячыся на Захадзе, прапанавалі краінам антыгітлераўскай кааліцыі Вялікабрытаніі, Францыі і іншым,

якія ваявалі з фашызмам, сфарміраваць з польскіх палонных у СССР армію і выкарыстаць яе на Заходнім фронце разам з войскамі кааліцыі. Гэтая прапанова была ўзгоднена з СССР і падтрымана. Таму ў 1942 годзе ў Старабельск прыехалі польскія генералы Вішнеўскі і Сікорскі, якія мелі паўнамоцтвы для фармавання такой арміі. Ды было адно «але»: у такую армію па дамове бралі толькі палякаў. Таму Язэп Жукевіч і шмат іншых польскіх палонных, сапраўдных беларусаў-ліцвінаў, свядома назваліся палякамі, хаця на самай справе ў душы яны заставаліся ліцвінамі. Польскія генералы дэталёва не ўнікалі, хто яны такія па нацыянальнасці. Дык вось беларус, былы польскі жаўнер, Язэп Жукевіч, савецкі палонны, запісваецца палякам, і яго гэтыя генералы залічваюць жаўнерам арміі Андэрса, каб на Заходнім фронце ён ваяваў з фашызмам як польскі вайсковец, а не паміраў з голаду і здзекаў як савецкі палонны. Застанься ён у гэтых шахтах, то наўрад ці выжыў бы.

Усіх, хто запісаўся ў Польскую армію, адправілі на станцыю Янгіюль, а адтуль знямоглых былых вязняў адправілі ва Узбекістан на кароткі адпачынак. З Узбекістана праз Краснаводск, Іран, Ірак, Палесціну, Егіпет перавезлі іх на Бліжні Усход, а затым у італьянскі порт Тарэнта. Па дарозе яны наведалі святыя мясціны Іерусаліма.

У Італіі служылі ў Другім польскім корпусе. Тата быў шараговым.

Удзельнічаў у вялікай бітве пад Монтэ-Касіна, адкуль вярнуліся жывымі нямногія. Язэп быў кантужаны. У іншых бітвах быў паранены ў галаву і нагу, хварэў на малярыю і іншыя інфекцыйныя хваробы.

У 1945 годзе Другі польскі корпус быў пераведзены з Італіі ў Англію. Былыя вайскоўцы Другога польскага корпуса жылі ў казармах і працавалі.

У 1947 годзе ім прапанавалі ехаць у Канаду альбо вяртацца дадому. Ехаць у СССР не раілі, гаварылі, што яны не паспеюць заехаць на Радзіму, як іх вывезуць у Сібір.

Так яно і здарылася. Многія, у асноўным нежанатыя, паехалі ў Канаду і там нядрэнна пражылі. Тата вярнуўся ў родную вёску, бо вельмі хацеў пабачыць сыночка, якому

павінна было быць сем гадоў, ён нарадзіўся пасля прызыву таты ў войска на вайну. Ён не ведаў, што Дзіма памёр у 1946 годзе ад менінгіту.

Тата вярнуўся не з пустымі рукамі. Прывёз падарункі мне і маме: залатыя ланцужкі з крыжыкамі, шмат цукерак і шакаладак, якіх я ніколі не бачыла, суконныя белыя коўдры, ровар з трыма хуткасцямі. Але самым важкім падарункам быў нябескі суконны халат, з якога, калі я скончыла дзесяць класаў і паехала вучыцца ў Гародню, мне пашылі паліто.

Тата працаваў у калгасе. У хаце ён рамантаваў абутак, за што яму плацілі невялікія грошы. У калгасе, акрамя працадзён, нічога не плацілі.

І вось у 1948 годзе тых, хто вярнуўся з Англіі, а іх было шмат у нашай мясцовасці, пачалі вывозіць у Сібір. Прыязджалі нкусаўцы на фурманках, забіралі сем'і з невялікімі пажыткамі і вывозілі невядома куды. Казалі тады: «Хапун забраў».

Вызывалі тату некалькі разоў у НКУС у Скідаль. Мы чакалі гэтага страшнага хапуна і, як маглі, рыхтаваліся да яго. Сушылі сухары з хлеба і ўпакоўвалі ў брызентавыя мяшкі. Шылі цёплае адзенне. Ведалі, што ў Сібіры холадна. А чуткі прыходзілі з розных сёлаў. Былых жаўнераў Андэрса вывозілі з іх сем'ямі. Я не хадзіла ў школу.

І вось аднойчы летам 1948 года да нас прыехалі нкусаўцы. Многа сваякоў, аднавяскоўцаў прыйшло з намі развітацца. Людзі стаялі на вуліцы і плакалі. Прыехаўшыя аб нечым доўга размаўлялі з татам і сказалі, што нас не вывезуць з-за заслугаў сям'і. У часы нямецкай акупацыі наша сям'я шмат дапамагала партызанам.

І гэта быў наш паратунак ад вывазу. Так мы засталіся ў сваёй вёсцы. Я пайшла ў школу. Бацькі працавалі ў калгасе. Нарадзіліся яшчэ дзве дзяўчынкі і два хлопчыкі. Жыць было цяжка, але не галадалі, бульбачка заўсёды была.

У 1957 годзе захварэў тата, у яго адняліся ногі. На працу хадзіць не мог. Хадзіў спачатку з куляй, а потым на мыліцах. Праз пару гадоў далі яму інваліднасць другой групы, а затым і першай. Пенсія была маленькая, бо працоўнага стажу не было. Жыццё стала вельмі цяжкім. Тата — хворы,

дзеці — малыя. Нават хлеба не было ў хаце. Але добра жыць ці дрэнна, а час бяжыць. Дзеці выраслі, сталі дапамагаць бацькам. Матэрыяльна жылі не дрэнна. Але маральна тата вельмі перажываў за тое, што яго не прызнавалі ўдзельнікам Вялікай Айчыннай вайны, а лічылі ворагам народа. У 1984 годзе памёр старэйшы сын Міша, што вельмі адбілася на татавым здароўі. У 1992 годзе начальнік аб'яднання польскіх кабатантаў (ветэранаў) Гродзенскай вобласці Апалоні Валінскі адшукаў тату, дапамог атрымаць замежную інвалідную каляску, даў некалькі долараў. Вялікай дапамогі гэтае аб'яднанне аказаць не магло. Але тата быў вельмі задаволены і тым, што пра яго ўспомнілі.

У Польшчы салдаты арміі Андэрса прызнаныя ўдзельнікамі вайны. У нас жа такая пастанова была прынята значна пазней. Мы не адзін раз звярталіся ў аблваенкамат. І толькі ў красавіку 1994 года тата атрымаў пасведчанне ўдзельніка ВАВ. Ён узрадаваўся, што нарэшце прызналі яго заслугі. Ён жа ваяваў супраць фашыстаў і меў нават узнагароды: Зорку за вайну 1939–1945 гадоў, Зорку Італіі, Памятны крыж Монтэ-Касіна, Памятную адзнаку КДР.

Але вельмі шкада, што радасць яго была нядоўгай. 8 чэрвеня 1994 года мой тата памёр. На пахаванні было многа людзей. Прысутнічаў і Апалоні Валінскі. Было сказана вельмі многа добрых слоў. Тата быў добрым чалавекам, дарадцам. Яго ўсе любілі, дарослыя і дзеці. Нягледзячы на тое, што амаль сорак гадоў не хадзіў, ведаў усе навіны, што адбываліся ў краіне і ў свеце. Ён чытаў газеты, кніжкі, слухаў радыё і глядзеў тэлевізар. І калі прыходзілі ў хату сваякі ці суседзі, яны цікавіліся ў яго навінамі. Тата дакладна ўсё падрабязна расказваў. Прайшло больш за пятнаццаць гадоў з таго часу, як ён пакінуў гэты свет, а і цяпер сярод нас вітае ягоная душа. Мы ўспамінаем пра яго гераічны ўдзел у сусветна вядомай бітве ў траўні 1944 года за Монтэ-Касіна ў Італіі.

Праз месяц пасля смерці бацькі памерла і наша мама. Яна таксама хварэла і без яго не змагла жыць. У іх засталося восем унукаў і пяць праўнукаў. Усе яны ведаюць пра гераічнае жыццё свайго дзядулі — былога ўдзельніка такой вядомай ва ўсім свеце бітвы. Часта ўспамінаюць пра дзядулю і бабулю.

У 2005 годзе было сто гадоў з дня нараджэння таты. Мы ўсёй вялікай сям’ёй (больш за дваццаць чалавек) і з блізкімі сваімі маліліся ў царкве за супакой ягонай душы. Наведалі яго магілу. Заехалі ў вёску, пасядзелі каля хаты, у якой жылі бацькі, пагаварылі, успомнілі былое.

Мне падаецца, што тых герояў, якім пасля раненняў удалося перамагчы ў бітве пад Монтэ-Касіна, неабходна лічыць героямі і тых краін, дзе яны нарадзіліся.

Частка 4

# КАЛГАС

## 1. У канцы чэрвеня 1944-га...

У канцы чэрвеня 1944-га я атрымаў пасведчанне аб заканчэнні Вальнянскай сямігодкі. Праз тыдзень дайшоў да нашай мясцовасці савецка-нямецкі фронт Другой сусветнай вайны.

Пакуль ішла вайна, было бачна, што праз нейкі час фашысцкая Германія будзе разбіта сумеснымі сіламі двух франтоў: савецкім Усходнім і фронтам амерыкана-англійскай кааліцыі на захадзе. Да нас прыйшлі савецкія войскі, а немцы адступілі на захад. Гэта азначала, што ў наш край вярнулася Чырвоная Армія, а з ёю савецкая ўлада і тыя «новаўвядзенні», якія мы ўбачылі з 17 верасня 1939 года аж да 22 чэрвеня 1941 года. А бачылі мы шмат чаго адмоўнага і не зразумелага нам у палітыцы савецкай улады. Прышлыя Саветы пачалі спяваць інтэрнацыянал: «Весь мир насилья мы разрушим до основанья, а затем мы наш, мы новый мир построим — кто был ничем, тот станет всем». Пачалася вайна супроць капіталістаў як у горадзе, так і ў сяле. Раптам з'явілася шмат ворагаў народа. Іх пачалі арыштоўваць, судзіць і садзіць у турму, расстрэльваць у Курапатах і ў шматлікіх іншых месцах.

Бальшавікі лічылі: калі да ўлады прыйдуць пралетарыі, то яны змогуць лёгка пабудаваць такую дзяржаву. І яна стане самай справядлівай. Аднак яны пралічыліся, бо сустрэлі небывалы супраціў не толькі багатых людзей, каторыя мелі вялікія ўладныя паўнамоцтвы. Такімі людзьмі былі дэпутаты

нацыянальнага сходу лютаўскай рэвалюцыі ў Пецярбургу. Каб захапіць уладу, Ленін сакрэтна атрымаў шэсцьдзясят мільёнаў залатых нямецкіх марак ад кайзераўскай Германіі. І яму за гэтыя грошы ўдалося ў кастрычніку 1917 года незаконна арыштаваць часовы ўрад Керанскага і захапіць у кастрычніку ўладу ў Расіі. Пры гэтым калі нацыянальны сход лютаўскай рэвалюцыі арганізаваў дэманстрацыю супраць незаконных дзеянняў бальшавікоў, то яна была бальшавікамі расстраляна. Аб гэтым напісаў Аляксандр Мікалаевіч Якаўлеў, член палітбюро ЦК КПСС, у сваёй кнізе «Сумерки» ў канцы 90-х гадоў мінулага стагоддзя.

Ленін зразумеў: утрымаць у Расіі сваю ўладу яны змогуць толькі тэрорам і падманам. Пачалася грамадзянская вайна. Гэтым падзеям прысвечана шмат мемуарнай літаратуры. У дваццатых гадах амаль канчаткова закончаная грамадзянская вайна былой царскай імперыі.

Узнікла бальшавіцкая імперыя, якая значна скарацілася ў параўнанні з царскай. Узніклі незалежныя рэспублікі: польская Рэч Паспалітая, Літоўская, Латвійская, Эстонская, Фінляндская і іншыя незалежныя рэспублікі.

У 1922 годзе быў створаны СССР — бальшавіцкі Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Беларусь і Украіна ў 1921 годзе былі па Рыжскай дамове падзелены на дзве часткі. Усходняя частка далучана да СССР, а заходняя ўвайшла ў склад Польшчы, яе назвалі Усходнія Крэсы.

## 2. Бальшавіцкія планы аб пабудове камунізму на сяле

Бальшавікі, захапіўшы ўладу ў Расіі, вырашылі, што яны самыя разумныя і, кіруючыся вучэннем Маркса, пачалі здзяйсняць ягоныя планы на практыцы. Да Леніна ў Крэмль прыходзілі сяляне, так званыя «хадакі», і цікавіліся ў яго, як яны будуць жыць пры ягонай уладзе. Ленін тлумачыў ім азы ідэалогіі Маркса, сказаў, што мы павінны здзейсніць задумы гэтага чалавека, а менавіта пабудаваць самыя справядлівыя гаспадаркі на сяле — камуны. У той жа час Ленін, безумоўна, ведаў, што ў дзевятнаццатым стагоддзі

ў некаторых абшчынах заходніх дзяржаў, такіх, як Англія, Францыя і Швейцарыя, спрабавалі пабудаваць камуны па Марксу. У эксперыментальных гаспадарках абагульнялася зямля ўсіх сялян абшчыны, жывёлы, пабудовы, і нават дзенідзе жылыя дамы, выгадаваная прадукцыя і ўсё астатняе. У выніку колькасць атрыманай прадукцыі значна паменшылася і камуны былі распушчаны. Аднак калі да Леніна прыходзілі малапісьменныя «хадакі», дык ён не тлумачыў ім аб адмоўным вопыце будаўніцтва камун на Захадзе і не забараніў будаваць такія камуны ў Расіі. Ён, відавочна, лічыў, што, магчыма, тамашнія камунары штосьці рабілі не так. І раіў сялянам правесці ўласны вопыт пабудовы такіх камун. Аднак з цягам часу і ў Расіі гэты вопыт даў адмоўны вынік — панізіліся ўраджаі збожжавых. Пачаўся голад — камуны распаліся. Ленін упэўніўся, што і ў нас камуны — штучнае ўтварэнне, няжыццястойкае, і ў апошнія гады свайго жыцця ўводзіць НЭП — новую эканамічную палітыку — па-сучаснаму, рыначную эканоміку. На рынках паявіліся розныя тавары і прадукты. Голад знік.

Пасля смерці Ульянава-Леніна першым сакратаром ВКПБ выбіраюць Восіпа Джугашвілі, які, прыйшоўшы на змену Леніну, атрымаў неабмежаваныя ўладныя паўнамоцтвы і «наступіў на тыя ж граблі». Сталін пачаў у межах СССР будаваць тыя ж камуны — калгасы. І тут жа пачаўся не проста голад, а ў некаторых мясцовасцях галадамор.

Сталін, не зважаючы на нізкую ўраджайнасць у калгасах-камунах, сваёй палітыкай загнаў сельскую гаспадарку ў такую адсталасць, што былая сельская гаспадарка царскай Расіі аказалася больш прагрэсіўнай, бо карміла хлебам сябе і ўсіх тых, хто меў патрэбу ў хлебе. У трыццатых гадах сярэдняя ўраджайнасць па краіне вагалася ад шасці да дванаццаці цэнтнераў з гектара. А дзяржаўныя абавязковыя пастаўкі новага ўражаю заставаліся тым ж. Пры нізкіх уражаях калгасы ў першую чаргу разлічваліся абавязковымі пастаўкамі з дзяржавай, засыпалі семянны фонд і ў апошнюю чаргу аплачвалі працадні калгаснікам. Пры нізкай ураджайнасці на абавязковыя хлебапастаўкі дзяржава забірала амаль увесь ураджай, а калгаснікам нічога не заставалася на працадні.

З пабудовай калгасаў валавы збор збожжа рэзка ўпаў — вытворцам хлеба прышлося галадаць.

## 3. Пасля вайны пагарэльца Васіля прымаюць у калгас

Бортніцкія сяляне бачылі, што пагарэлец Васіль Амялішка ўмее дасягаць выдатных паказчыкаў і ў паляводстве, і ў жывёлагадоўлі, і ў пчалаводстве, і ў іншых галінах аграрнай вытворчасці, а меў поспех Васіль Амялішка таму, што быў адукаваным. Аб яго адукаванасці я расказваў раней, у першай і другой частках кнігі «Заблудныя».

Забягаючы наперад, прывяду такі факт: закончылася вайна. У Бортніках па настаянню райвыканкама ўзнавіў сваю дзейнасць калгас «Сталінскі шлях». Сваю працу ён пачаў пад кіраўніцтвам Алеся Шчэрбы па мянушцы Тадэўчык зімой 1940/41 года. А пасля вайны недзе з 1949 узнавіў сваю дзейнасць пад кіраўніцтвам старшыні Козіна, а пасля Міхайлоўскага.

Падчас адступлення фашыстаў у чэрвені 1944 года згарэлі ўсе гаспадарчыя пабудовы Васіля. Цудам захаваўся дом, які на вокладцы гэтай кнігі. Пабудаваны ў пачатку дзевятнаццатага стагоддзя, застрахаваны ў 1827 годзе. Перажыў дзве сусветныя войны. Вядомы не толькі таму, што там жылі памешчыкі Слізні, але і таму, што там нарадзіўся відны скульптар Рафал Слізень.

*«Прафесіянал Рафал Слізень (1804–1881). Нарадзіўся ён у маёнтку Бортнікі Наваградскага павета Мінскай губерні ў сям'і памешчыка...* — аб гэтым напісана ў трэцім томе «Гісторыі беларускага мастацтва. Канец XVIII — пачатак XX стагоддзя». Мінск: Навука і тэхніка, 1989, — *пачатковую мастацкую адукацыю атрымаў у Полацкай езуіцкай акадэміі, дзе страсна захапіўся выяўленчым мастацтвам... З 1820 г. вучыўся на юрыдычным факультэце Віленскага ўніверсітэта і вучыўся выяўленчаму мастацтву ў К. Ельскага...*

*У 1830 годзе Рафал Слізень пасяліўся ў сваім маёнтку (Вольна) на Міншчыне і працаваў там амаль усё жыццё. Там ён стварыў у 1830-х некалькі дзясяткаў скульптур родных, блізкіх, знаёмых, суседзяў. Вядомы ён як аўтар медальёнаў і барэльефаў перадавых дзеячаў культуры свайго часу — Генрыха Ржавускага, Яўстафія і Канстанціна Тышкевічаў, Міхала Ромера, Эдварда Адзінца, Тамаша Зана і іншых. Па*

*мастацкіх якасцях гэта былі дасканалыя творы, у іх адчуваюцца ўпэўненая рука і тонкі мастацкі густ».*

Па неафіцыйных звестках, значная частка гэтых мастацкіх твораў захоўваецца музеямі Пецярбурга.

Васілю Амялішку пасля вайны не пацвердзілі кулацкае званне. Яго як пагарэльца ў 1949 годзе прынялі ў калгас і назначылі брыгадзірам. Падчас брыгадзірства яму ўдалося вырасціць багаты ўраджай ільну. Стаяла пытанне аб узнагародзе брыгадзіра Васіля Амялішкі. Аднак калі пры знаёмстве з яго біяграфіяй даведаліся, што ён да вайны лічыўся кулаком, тады рашэнне аб узнагародзе было адменена. Бацька гаварыў, што нашай сям'і ўдалося падчас страшнай вайны выжыць — дапамагла глыбокая вера Амялішак у Бога.

З пабудовай калгаса сяляне пачалі жыць галаднавата, бо ўвесь хлеб забірала дзяжава на пракорм дзяржаўнага апарата і тых структураў, якія яго падтрымлівалі. Людзі бачылі, што бальшавікі памыліліся. Спадзяваліся, што з адмоўнага вопыту пабудовы калгасаў будуць зроблены пасля вайны належныя высновы. Але сваіх памылак бальшавікі не хацелі бачыць. І яны пайшлі па шляху, указанаму Сталіным: існуюць ворагі, і яны шкодзяць будаўніцтву калгасаў, адсюль выснова, што іх належыць выявіць і ліквідаваць.

Сталі іх шукаць і рэпрэсіраваць. У той час можна было бачыць, як міліцыянт у адкрытую вёў «ворага народа», а ў руцэ трымаў наган напагатове, і гнаў яго ў турму толькі за тое, што гэты чалавек выказаў адкрыта нязгоду з палітыкай бальшавікоў. Гэта я бачыў у Баранавічах неаднаразова ў сорак чацвёртым годзе, калі ішоў у школу праз пераезд, дзе зараз пабудаваны вялікі пераезна-пешаходны мост поруч з Палескім чыгуначным вакзалам. Гэта было тады, калі вайна рухалася на захад. Да канца вайны заставалася ўжо каля аднаго года. У ліпені 1944 года да нас вярнулася савецкая ўлада. А з ёю вярнуліся тыя змены, якія ўводзіліся на тэрыторыі Усходніх Крэсаў былой Польшчы, пачынаючы з кастрычніка 1939 года. Вярнулася савецкая адміністрацыя. Пасля вайны савецкае радыё пералічвала тыя перавагі сацыялістычнай сістэмы, якія прывялі да перамогі ў вайне над Гітлерам. Адна з прычын перамогі, хлусліва сцвярджала радыё, — СССР перамог гітлераўскую Германію дзякуючы калгаснай сістэме. А раз так, то рабілася выснова: неабходна

сельскую гаспадарку былой Заходняй Беларусі пераводзіць на сацыялістычны лад — будаваць калгасы. У сувязі з гэтым стыхійна пачалося перасяленне сялян з сяла ў гарады, і больш за ўсё — моладзі. Вайна заканчвалася. Нямецкія самалёты калі-нікалі бамбілі Баранавічы. А калі Мікалай і я пакінулі Бортнікі і перабраліся ў гарады (я ў Баранавічы, а Мікалай у Брэст), вайсковы фронт пасунуўся на захад, і з першага верасня 1944 года немцы болей Баранавіч не бамбардзіравалі. З прыходам другіх Саветаў пачаўся прызыў нашых ваеннаабавязаных на вайну. Навабранцам прыйшлося яе заканчваць. Мой старэйшы брат Мікалай восенню таго ж года паступіў у чыгуначны тэхнікум г. Брэста.

Асабістыя планы маёй будучыні, спланаваныя бацькамі пры Польшчы, з прыходам другіх Саветаў адмяняліся. Бацька зразумеў, што найлепш будзе працягваць вучыцца Мішу ў сярэдняй школе, і адвёз мяне ў Баранавіцкую сярэднюю чыгуначную школу ў восьмы клас. Школа была непадалёку ад чыгуначнай пасажырскай станцыі Палеская. Там працаваў настаўнікам фізікі брат бацькі Лаўрэнцій Андрэевіч Амялішка. Я з ім жыў разам, і кожны год на новай кватэры. У Бортніках з бацькамі жыла сястра Соня. Вучылася ў пачатковай бортніцкай школе і памагала бацькам на гаспадарцы.

У Вальнянскай сямігодцы падчас фашысцкай акупацыі я не атрымаў грунтоўных ведаў па многіх дысцыплінах, таму што ішла вайна — не было сталага школьнага памяшкання, адсутнічалі падручнікі — карысталіся савецкімі з выразанымі партрэтамі пралетарскіх правадыроў, не хапала сшыткаў, не было ўстаноў, якія рыхтавалі настаўнікаў. У восьмым класе сярэдняй школы Баранавіч прыйшлося амаль з нуля авалодваць не толькі рускай мовай, але і іншымі патрэбнымі ў восьмым класе дысцыплінамі. Спачатку мая вучоба была нездавальняючай. Ставілася пытанне на педсавеце Баранавіцкай школы аб маёй непадрыхтаванасці да вучобы ў восьмым класе. Аднак паступова мая вучоба пачала выпраўляцца, пасля таго як я стаў старанна выконваць дамашнія заданні і засвойваць недапрацаванае ў мінулым. Аднак па выніках мае вучобы за восьмы клас атрымаў пераэкзаменоўку па алгебры на восень. Летам падчас канікулаў, на хутары Бортнікі вывучаў алгебру і

дапамагаў бацькам па гаспадарцы. Увосень экзамен па алгебры паспяхова здаў і стаў вучыцца ў дзявятым класе. А ў 1947 годзе паспяхова закончыў дзесяцігодку.

## 4. Раскулачванне сям'і Міхася Абрамчыка

Гаспадарку майго дзядзькі Міхася Абрамчыка лічылі кулацкай, і ў калгас яго не прымалі. Налажылі на яго кулацкі падатак такі, што ён яго не мог выплаціць. Сям'ю Абрамчыкаў рыхтавалі на вываз. Тады Валянціна Абрамчык — жонка Міхася Абрамчыка — паехала ў Ленінград шукаць справядлівасці. Прыехала да брата Уладзіміра Раўкоўскага, які працаваў следчым, і расказала яму аб сваёй бядзе. Раўкоўскі едзе ў Баранавічы і вывучае асабістую справу сям'і Міхася Абрамчыка па дакументах. А адтуль накіроўваюцца ў Гарадзішчанскі раён, дзе членам райвыканкама даказвае, што ў кулака Міхася Абрамчыка маецца дзесяць гектараў ворнай зямлі і дзесяць членаў сям'і. Дык які ж Міхась Абрамчык кулак, калі на аднаго едака прыходзіцца адзін гектар ворнай зямлі, а па-другое, у гаспадарцы не было парабкаў? Самі члены сям'і Абрамчыкаў пры дапамозе набытых коннай малацілкі з прывадам, коннай жняяркі і іншых тэхнічных навінак спраўляліся са сваімі гаспадарчымі работамі.

І рашэнне камбедаў аб раскулачванні сям'і Абрамчыкаў было адменена. Валянціна Абрамчык абараніла сваю сям'ю ад больш цяжкіх выпрабаванняў — вывазу ў Казахстан. Пасля сям'ю Абрамчыкаў прынялі ў калгас.

У калгасе Абрамчыкам жылося вельмі цяжка, таму што падчас раскулачвання іхняй гаспадаркі Міхась Абрамчык стараўся выплаціць кулацкі падатак, які быў у дзесяць разоў большы за звычайны. Так што калі з яго гаспадаркі было знята кулацтва, дык у яго сусеках было пуста — зерне было адвезена дзяржаве. А сям'я была вялікая, яе трэба было чымсьці карміць.

## 5. Аб жыцці ў калгасе расказвае Аляксандр Абрамчык

— Нашую сям'ю пасля ўсіх пакут прызналі нармальнай — знялі кулацтва і ўрэшце прынялі ў калгас. А ў калгасе таксама патрэбна жыць і выжываць. Бацька Міхась Аляксандравіч меў у сваёй гаспадарцы малацілку і жняярку і шмат чаго іншага. Любіў тэхніку — быў даволі кваліфікаваным спецыялістам. Калі нашу сям'ю прынялі ў калгас, дык спачатку мой бацька пайшоў працаваць у МТС, якая існавала ў сяле Арабаўшчына. Гэта на адлегласці васьмі кіламетраў ад нашай хаты. І пачаў працаваць там трактарыстам. Прыязджаў на шпорным двухкалёсным трактары ў бортніцкі калгас і апрацоўваў гэтым трактарам зямлю. Працаваць на шпорным трактары было вельмі цяжка, таму што кожны дзень пасля работы трэба было мяняць укладышы паддона картэра. А дзеля гэтага патрэбна было залазіць пад трактар, адкручваць некалькі гаек, на жывот апускаць картэр і мяняць укладышы ў калянвале. А пасля прыкручваць картэр на месца. Мяняць укладышы — работа не з лёгкіх. А пасля перайшоў працаваць на гусенічныя трактары. Працаваць было вельмі цяжка, таму што да Арабаўшчыны трэба дабірацца пешшу — штодзённа на дарогу траціць каля трох гадзін. Таму праз нейкі час бацька перайшоў на працу ў свой калгас. Працаваў на розных работах. У яго была мэта пабудаваць новы дом, бо стары дом патрабаваў неадкладнага капітальнага рамонту. Каб пабудаваць новы дом, бацька па вярбоўцы едзе ў Карэлію і працуе на працягу некалькіх зім, зарабляе пяцьдзясят кубоў лесу і цягнікам прывозіць заробленае ў Баранавічы, а з Баранавічаў у Бортнікі. І сам будуе свой дом.

## 6. Аб падзеях 1940–1941 гадоў расказвае Міхась Паўлавіч Амялішка

Перасяляліся Амялішкі з Вольна ў Стаецкае ўрочышча Калюга, бо мой дзед Андрэй Фаміч Амялішка купіў там у асаднікаў Дамагалаў два хутары, з агульнай плошчай 21 гектар. Дзед гэтыя два хутары раздзяліў на тры часткі. Сем гектараў з сядзібай паўночнага боку з усімі гаспадарчымі забудовамі выдзеліў дзядзьку Давыду з жонкай і сынамі Уладзімірам і Вячаславам. Другая сядзіба з такімі ж забудовамі і з чатырнаццаццю гектарамі зямлі была выдзелена сям'і майго бацькі Паўла і Лаўрэнцію Андрэевічу. (Лаўрэнцій у трыццатыя гады скончыў Слонімскую настаўніцкую гімназію. Працаваў ля Маладзечна настаўнікам пачатковай польскай школы.) Такім чынам, тром сынам Паўлу, Давыду і Лаўрэнцію была падзелена зямля пароўну. Часова дзед Андрэй Лаўрынавыя сем гектараў запісаў на сваё імя. А апрацоўвала іх сям'я Паўла, бо Лаўрэнцій працаваў настаўнікам ля Маладзечна. Хутары дзед набыў за прададзеныя вальнянскія надзелы і за грошы, якія збірала сям'я Пракопчыкаў шмат гадоў. Набыў іх за некалькі гадоў да Другой сусветнай вайны.

Хутары ў Калюзе былі выдатнымі збудаваннямі, можна сказаць, сучасныя фермерскія гаспадаркі, дзе былі дабротныя дамы для жылля і хлявы для жывёлы, з паграбамі для агародніны і садавіны і гумнамі для сена і збажыны. Ля дамоў былі багатыя яблыневыя сады з рознымі гатункамі яблык. Па перыметру панадворак быў абсаджаны рознымі гатункамі чарэшняў. Мы, дзеці Васілёвы, наведвалі дзядулю з бабуляй і сваіх дзядзькоў звычайна ў пачатку чэрвеня. Ласаваліся спелымі вельмі смачнымі, бурштынавага колеру і гаркаватымі чырвонымі чарэшнямі.

Запомнілася мне, што іх дрэвы былі вельмі высокімі. Трудна было да ягад дабірацца. Аднак мы хутка імі наталяліся.

Гэтыя гаспадаркі дапамаглі пабудаваць палякі сем'ям сваіх салдат, якія ваявалі ў грамадзянскай вайне супраць бальшавікоў.

Некаторыя былыя гаспадары-асаднікі здагадваліся, што рана ці позна Саветы захопяць нашую мясцовасць, і таму

вырашылі перад вайной прадаць свае хутары і паехаць на захад Польшчы.

Яны не памыліліся. З імі, а таксама з іх нашчадкамі мы, удзельнікі хору «Бацькаўшчына», сустракаліся ў Вроцлаве 2005 годзе. Пасля канцэрту духоўнай музыкі падыходзілі да нас і шчыра нам дзякавалі за тое, што мы ім напомнілі сваімі спевамі іхнюю радзіму, мову — наталілі тое, чаго ім не хапала. Пераехаўшы на захад Польшчы з Усходніх Крэсаў, яны там захавалі свае жыцці, а туга па тых мясцінах, дзе яны нарадзіліся, засталася. А тыя асаднікі, якія заставаліся на месцы, зімой 1939/40 года былі сем'ямі вывезены па загаду Сталіна разам з сем'ямі гаёвых у пустыні Сярэдняй Азіі, і на шэсцьдзясят працэнтаў яны загінулі ад голаду і холаду. Выжыўшыя ў пасляваенны час вярнуліся ў Польшчу.

Мае бацькі, каб пазбегнуць прымусовага вывазу, — працягвае Міхась Паўлавіч, — кінулі сваю раскулачаную гаспадарку і паехалі на Украіну. А вярнуліся пры Хрушчове. У Калюзе ўсё было разрабавана. Застаўся жылы дом, які бацька перанёс у вёску Вольна. Гэты дом захоўваецца і зараз. Я яго выкарыстоўваю як лецішча. Несправядлівага прысуду маім бацькам удалося пазбегнуць. А я ў той час вучыўся ў політэхнічным інстытуце г. Львова. І мне ніхто не напамінаў аб тым, што я — сын кулака.

Вось што рыхтавала савецкая ўлада сям'і ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, які абараніў нас ад фашысцкай навалы. Выжыўшыя ў пустыні Казахстана асаднікі і былыя гаёвыя вярнуліся пасля вайны ў Польшчу ці ў іншыя краіны Заходняй Еўропы.

А што выгадаў мой дзед Андрэй Фаміч з сынамі, калі ў наш край прыйшлі Саветы? Яны таксама страцілі ўсё. Праўда, жыцці іх захаваліся, маёмасць, зямлю і гаспадарчыя пабудовы Саветы бязвыплатна адабралі. Іх падманам прымусілі «добраахвотна» падаць заяву ў калгас-камуну. Ім прыйшлося перажыць і голад, і холад, і нават дзе-нідзе галадамор. І гэта працягвалася да тых пор, пакуль не зразумелі, што трэба адмовіцца ад калгасаў, а прасцей за ўсё вярнуцца да фермерскіх гаспадарак з прыватнай формай вядзення сельскагаспадарчай вытворчасці. Зрабіць тое, што было прапанавана ў пачатку дваццатага стагоддзя сенатарам

Сталыпіным і праверана на практыцы. Аб гэтым напісаў А. Н. Якаўлеў у дзевяностыя гады ў сваёй кнізе «Сумерки».

Многія беларусы-каталікі ў савецка-польскую вайну ваявалі супраць бальшавікоў на баку палякаў і ў 1919 годзе атрымалі перамогу над Саветамі. Ім, былым салдатам, Пілсудскі дапамог за кошт дзяржавы атрымаць добрыя кавалкі зямлі і пабудаваць сучасныя фермы — выканаў сваё абяцанне тым людзям, якія добраахвотна ішлі на вайну супраць бальшавікоў і перамаглі. Іх назвалі асаднікамі. У той жа час бальшавікі таксама абяцалі сялянам аддаць памешчыцкую зямлю, а рабочым — фабрыкі і заводы, і да сённяшняга дня не выканалі сваёй абяцанкі.

Дамагалы прадбачылі, што калі бальшавікі акупіруюць наш край, то Сталін усім асаднікам не даруе ягоную паразу ў вайне 1919 года. Таму некаторыя асаднікі прадавалі свае гаспадаркі і ехалі з грашыма на захад Польшчы. У вайне супроць палякаў галоўнакамандуючым Савецкай Арміі быў Восіп Джугашвілі — Сталін. Ён атрымаў паразу. Усходнія Крэсы (Заходняя Украіна і Заходняя Беларусь) па Рыжскай дамове 1921 года адышлі да Польшчы. Сталін па сваёй натуры быў помслівым — не мог забыць сваю паразу ў той вайне. І калі яго выбралі першым сакратаром ВКПБ, ён у сакрэтнай змове з Гітлерам аддаў загад захапіць Усходнія Крэсы 17 верасня 1939 года.

Калі прышлі да нас бальшавікі, яны не разбіраліся, чыя гэта зямля ў бацькі, і налічылі, што ў яго чатырнаццаць гектараў ворнай зямлі. І старшыня стаецкіх камбедаў сказаў:

— Калі не ўступіш у калгас, то будзеш кулаком, і мы цябе вывезем у Сібір.

Бацьку нічога не заставалася як падаць заяву ў калгас, што ён і зрабіў вясной 1941 года. І тады калгаснік Павал здаў у калгас і зямлю, і жывёлу, і тэхніку. За зямлю ні капейкі не заплацілі.

Па закону зямля была купленая і лічылася прыватнай уласнасцю. І калі ў 1945 годзе бацька вярнуўся з вайны, дык ён пайшоў на агульны сход, дзе яму прапанавалі стаць старшынёй калгаса. Адзін з стаецкіх актывістаў сказаў:

— Да вайны Павал Амялішка быў калгаснікам. У 1944 годзе пакліканы ў Чырвоную Армію і з баямі ўдзельнічаў у Берлінскай аперацыі. Дэмабілізаваны ў 1945 годзе. Мае дзяржаўныя ўзнагароды. З тых пор працуе на сваім хутары. Умее вырошчваць багатыя ўраджаі, мае поспехі ў жывёлагадоўлі. Прапаную выбраць Паўла Амялішку старшынёй стаецкага калгаса.

Слова ўзяў Павал. Сказаў:

— Дзякую за такую ганаровую прапанову. Аднак я мушу сказаць, што адна справа — вырошчваць добрыя ўраджаі ў маёй цяперашняй гаспадарцы, а другая — у стаецкім калгасе, бо яны непараўнальныя па памерах. Каб кіраваць такой гаспадаркай, трэба мець не чатыры класы польскай школы, а спецыяльную падрыхтоўку. Я лічу, што тое, што вы мне прапануеце, будзе мне не па маіх сілах. І таму я ад гэтай прапановы адмаўляюся.

І падаў заяву аб тым, што ён выходзіць з калгаса. Пайшоў дахаты, а старшынёй калгаса выбралі беззямельнага селяніна. Прысвоілі Паўлу назву «кулак». Налажылі на яго дзесяцікратна павялічаны падатак. Сказалі:

— Калі не выканаеш падатак, вывезем на пасяленне.

У пачатку пяцідзясятага года сям'ю Паўла пачалі раскулачваць стаецкія актывісты. Калі бацька зразумеў, што яго сям'ю вывезуць, паехаў туды, дзе была замужам жончына сястра, а я працягваў вучыцца ў Львоўскім політэхнічным інстытуце. А калі інстытут закончыў, паехаў па разнарадцы працаваць на Урал. І выйшаў па ўзросту з камсамола, мяне выклікалі ў КДБ і прапанавалі перайсці да іх на працу. Абяцалі адразу даць кватэру, павялічыць у два разы зарплату. Сказалі:

— Мы дасканала вывучылі вашу біяграфію, зразумелі, што вы нам падыходзіце. Вы ж у інстытуце былі сакратаром камсамольскай арганізацыі. Інстытут закончылі з чырвоным дыпломам. І калі вы пагодзіцеся ў нас служыць, мы мінём званне старэйшага лейтэнанта, прысвоім вам адразу званне капітана.

Я ім адказаў:

— Я не дзеля гэтага вучыўся па выбранай спецыяльнасці столькі гадоў, каб яе памяняць на іншую. Мне зараз па-

трэбна атрыманыя веды падмацаваць на практыцы і стаць кваліфікаваным спецыялістам у набытай тэарэтычнай падрыхтоўцы. Мяне ніколі не прыцягвала прапануемая вамі праца. Я ніколі аб ёй не марыў. І каб мне падабалася ваша работа, я б выбраў яе даўно. Мяне не цікавіць павелічэнне воінскага звання і павялічаная аплата. А кватэру я і так атрымаю, калі атрымаю адпаведныя практычныя навыкі. Гэтую маю жыццёвую пазіцыю падтрымлівае мая жонка. Ёй падабаецца выбраная мною спецыяльнасць.

Пасля ў КДБ запрасілі Алёну Восіпаўну — маю жонку і спыталі:

— Вы працуеце настаўніцай, дык чаму вы супраць таго, каб ваш муж працаваў у нас?

— Навошта яму мяняць спецыяльнасць? Яго вучылі шмат гадоў, і ён любіць сваю спецыяльнасць. Я лічу, што мяняць яму спецыяльнасць не патрэбна.

— Як вы можаце працаваць у школе, калі вы не патрыёт сваёй радзімы?

— Я патрыёт сваёй радзімы. Калі радзіму патрэбна будзе абараняць, дык ён пойдзе яе абараняць, а ў такіх абставінах ён добра працуе і хай працуе і ўдасканальвае сваю спецыяльнасць. Мірны час — і мы працуем па сваіх прызваннях, так навошта яму мяняць сваю спецыяльнасць?

## 7. Летам 1956 года ідзём у адведкі да майго дзеда Андрэя

Летнім чэрвеньскім пагодным днём 1956 года я, мая жонка Ліля, дачка Галіна і Дзмітрый Гусеў (бацька маёй жонкі) па маёй прапанове пайшлі пешшу ў засценак Калюгу непадалёк ад вялікай вёскі Стайкі. Я, асістэнт Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута, падчас адпачынку гасцяваў са сваімі блізкімі ў бацькоў у вёсцы Бортнікі Баранавіцкага раёна і вырашыў наведаць дзеда. Я хацеў пазнаёміць майго цесця з маім дзедам Андрэем Амялішкам. Жыў ён у пяцідзясятыя гады дваццатага стагоддзя на сваім хутары адзін. Бабуля Ксенія нядаўна памерла. А сын Павал, ягоны апякун, са сваёй жонкай з’ехаў, каб пазбегнуць арышту і вывазу на перасяленне як кулак. Гэта была мая апошняя сустрэча на

ягоным хутары Калюзе. Ад таго наведвання захаваўся нават фотаздымак.

Быў трывожны час. Пачыналася кампанія раскулачвання гаспадаркі майго дзядзькі Паўла і дзеда Андрэя Фаміча. Пасля нашага наведвання дачка дзеда Аляксандра, мая цётка, забрала бацьку ў вёску Вольна, а актывісты вёскі Стайкі разрабавалі хутар дзеда.

Дзядзю Паўла ведамству Цанавы не ўдалося вывезці на новае пасяленне, бо Павал з жонкай з’ехаў на Украіну.

## 8. Аб гэтым раскулачванні дзядзі Паўла раскажам асобна

Дзядзя Павал нават па бальшавіцкіх мерках не быў кулаком. Яго гаспадарка была заможная, аднак ён наёмнай рабочай сілы не выкарыстоўваў. Яму прысвоілі назву кулак і за тое, што ён адмовіўся ад прапановы ўзначаліць калгас — па-першае, а па-другое, што ён падаў заяву аб выхадзе з калгаса. І з’ехаў у невядомае месца разам з жонкай.

У наступныя дні да іх прыходзілі неаднаразова стаецкія актывісты, пачалі раскулачваць— забіраць дабро, нажытае нялёгкай працай. Прышлі забіраць бабуліну карміліцу карову. І калі бабуля Ксенія пыталася абараніцца ад гэтага нахабства, то актывіст Шэвель выцяў яе ў твар. Добра што дзядзі Паўла не было дома, інакш бы была бойка, бо сын не сцярпеў бы такой абразы маці і яго б тут жа арыштавалі. І ўсё скончылася б сапраўднай трагедыяй.

Пасля гэтага, каб супакоіцца, бабуля вырашыла пайсці ў лес. Лес быў прыблізна паўтара кіламетра. Для маладога такая адлегласць нязначная. А калі табе далёка за 80 — гэта не блізка, тым больш калі зусім нядаўна цябе так абразілі. Таму, калі яна ішла, у яе галаве паўставала тое мардабойства, якое прышлося выцерпець ёй ад маладога стаецкага актывіста. Яна ішла як п’яная. Калі дабралася да лесу, то ёй захацелася сесці на пянёчак і падыхаць лясным паветрам. І зноў яна ўспомніла, як яе пасля нанесенага ўдару гэты нелюдзень пачаў лаяць ўсялякімі сучаснымі брыдкімі словамі, пачутымі ім ад прышлых «вызваліцеляў» з Усходу. Ад гэтага ёй станавілася ўсё горш. Яна ўстала і, хістаючыся,

пайшла, прамаўляючы шэптам словы малітвы «Ойча наш». Забылася, чаго прыйшла ў лес. Стала прасіць Бога, каб ён абараніў яе сына Паўла ад несправядлівасці, хлусні і прысвоенай яму назвы «кулак». Адчувала, што ёй ніхто, акрамя Бога, не можа дапамагчы. Ёй станавілася ўсё цяжэй. Яна не разумела дзе знаходзіцца, прамаўляла:

— Святы Божа, святы несмяротны, памілуй майго сыночка, майго апекуна Паўла ад той бяды, якую ўзвялі людзі, якія незаконна прышлі на нашу зямлю з Усходу, каб знішчыць нас, рукамі нашых тутэйшых вылюдкаў актывістаў.

Так яна хадзіла па незнаёмым цяпер ёй лесе і прасіла дапамогі ў Бога, каб ён абараніў яе сына, які трапіў у бяду. І заблудзілася. Села на пянёк, паставіла поруч кошык і ў бяспамяцтве паўтарала адну і тую ж просьбу, звяртаючыся да Бога.

Пасля таго як актывісты скончылі сваю справу раскулачвання, унукі з суседняга хутара, дзеці яе сына Давыда Уладзімір і Вячаслаў, успомнілі: дзе ж наша бабуля? Хтосьці падказаў, што бачыў, як яна ўзяла лазовы кош і пайшла ў напрамку лесу. Пачаліся пошукі. Арганізавала іх нявестка Жэня — жонка Давыда. На пошукі адправіліся ўнукі. Знайшлі яе на паляне. Яна сядзела на пяньку і прамаўляла адны і тыя ж словы: «Святы Божа, святы несмяротны...» Не пазнала тых, хто яе знайшоў. Прывялі яе дахаты. Яна пасля гэтага здарэння пражыла пару дзён і памерла. Пахавалі яе пад плач яе дзяцей, унукаў і суседзяў на вальнянскіх могілках. А яе апякун у той час схаваўся ад міліцыі і не ўдзельнічаў у пахаванні маці. Відаць, гэтаму дапамагло ахвярнае маленне маёй бабулі Ксеніі. Яе малітвы не прапалі дарма — дзядзя Павал пасля смерці Сталіна праз нейкі час вярнуўся з жонкай Марыяй на радзіму. Перавёз свой дом у Вольна, і жылі там.

Раскулачванне дзядзі Паўла нейкім чынам кранула і мяне, калі я вучыўся ў Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце. Вясной 1948 года мяне запрасіў да сябе ў кабінет дырэктар інстытута сп. Няхай, спытаў:

— Студэнт Амялішка, скажы, ты сын кулака?

— Не, бацька не лічыцца кулаком.

— А хто такі Павал Амялішка?

— Гэта мой дзядзя, — адказаў я.

У той час, а было гэта вясной 1948 года, толькі што пачалася кампанія па арганізацыі калгасаў і дзеля гэтага планавалася вывезці разам з бацькамі і іх дзяцей — студэнтаў інстытута, каб паскорыць «добраахвотную» пабудову калгасаў. Высяленнем кулакоў займалася ведамства Л. Берыі. А яго памочнікам быў бандыт Цанава. Ягонае ведамства выдала распараджэнне дырэктару Няхаю праверыць, ці вучацца ў ягоным інстытуце дзеці кулакоў; калі пачнецца вываз кулакоў на пасяленне, то неабходна далучыць да іх дзяцей.

## 9. Падзеі падчас выбараў у Вярхоўны Савет СССР зімой 1948 года

У суботу напярэдадні выбараў 1948 г. у Вярхоўны Савет СССР я паехаў да сваіх бацькоў у Бортнікі, каб запасціся харчамі на нядзелю. У той зімовы час у нашу хату заехаў перад абедам сакратар Вальнянскага сельсавета. Мае бацькі запрасілі яго паабедаць разам з намі. Перад гэтым ён штосьці нёс з сабою ў мяшку і паставіў мяшок на ўскрайку печы. Паабедалі. Сакратар узяў свой мяшок і паехаў у Вальнянскі сельсавет. Выбарчая камісія пералічыла бюлетэні і знайшла, што колькасць бюлетэняў меншая, чым указана ў суправаджальным дакуменце. Узнікла пытанне: куды зніклі недастаючыя бюлетэні? Старшыня камісіі паведаміў аб прапажы бюлетэняў старшыні сельсавета. З прапажай бюлетэняў даручана разабрацца тэрмінова органам НКУС. У Вольна прыбыў следчы, які запрасіў сакратара сельсавета і спытаў яго:

— Вы везлі бюлетэні ў мяшку з раённага цэнтра і кудынебудзь па дарозе заязджалі?

— Так, заязджаў. Па дарозе ў Бортнікі да селяніна Васіля Амялішкі. І там мяне гаспадар запрасіў на абед, бо сям’я якраз сабралася абедаць. Я пакінуў воз на панадворку, а бюлетэні з мяшком узяў з сабою, паставіў мяшок на ўскрайку рускай печы і ўвесь час за ім наглядаў. Пасля абеду я падняўся, падзякаваў за абед. Узяў мяшок з печы і паехаў у Вольна. Бюлетэні перадаў старшыні выбарчай камісіі.

— А чы паведамлялі вы гаспадару Васілю Амялішку аб змесціве мяшка?

— Не, я аб змесціве мяшка нічога нікому не гаварыў.

— Скажыце, а хто прысутнічаў на абедзе?

— Гаспадар і гаспадыня, дачка і сын — студэнт Баранавіцкага настаўніцкага інстытута, — адказаў сакратар Вальнянскага сельсавета.

Следчы спытаў:

— А куды ж зніклі бюлетэні? Ці не мог студэнт іх украсці?

— Не, я лічу, што гэты студэнт не мог залезці ў мяшок, бо я не спускаў з мяшка вачэй.

— Я упэўнены, што гэта зрабіў студэнт, — сказаў следчы лейтэнант, — студэнты на такія справы здольныя. Збірайцеся, паедзем у Гарадзішча і захопім з сабою студэнта і яго бацьку — павязём усіх вас на допыт, — сказаў следчы.

Мабілізавалі саўгасную палутарку і прыехалі да нас. Загадалі нам хутка збірацца, мне і бацьку: паедзем у раённы цэнтр для высвятлення прапажы бюлетэняў.

Мяне, сакратара і бацьку пасадзілі ў кузаў на драўляную лаўку палутаркі, і праз паўгадзіны машына спынілася ў райцэнтры насупраць памяшкання аддзела міліцыі. Нас запрасілі ў прыёмную і казалі пачакаць. А палутарка вярнулася ў Вольна.

Першымі на допыт запрасілі вальнянскага сакратара і сакратарку райвыканкама, якая выдавала бюлетэні. Спярша яе спыталі, чым яна займалася падчас фашысцкай акупацыі. Што яна адказала па гэтаму пытанню, мяне мала цікавіла, таму і з цягам часу забылася. А вось наступнае пытанне запомнілася.

— Скажыце, Яўгенія Сямёнаўна, чаму камусьці спатрэбілася ўкрасці некалькі соцень бюлетэняў і з якой мэтай гэта зроблена?

— Я мяркую, што ў нас многае робіцца не так, як трэба, — сказала Марыя Сямёнаўна, — а трэба, калі знойдзена аплошнасць, пастарацца яе ліквідаваць і не даводзіць да таго, як гаворыць народная прымаўка: не рабіце з мухі слана, бо гэты слон будзе нам дорага каштаваць. А я маю на ўвазе тую справу, якую мы зараз вырашаем пры вашай, таварыш лейтэнант, дапамозе. Гэтая справа ўжо вырашана. Бюлетэні я знайшла. Мне пазванілі толькі што гадзіну таму з

вёскі Вольна знаёмыя і сказалі, што следчыя пачалі шукаць прапаўшыя бюлетэні. Я хуценька ўзяла тую пачку, з якой я вальнянскаму сакратару ўчора адлічвала, і пралічыла, што там ёсць тая колькасць, бюлетэняў, якія мы шукаем. Бюлетэні знойдзены. І я іх зараз выдам вальнянскаму сакратару.

Мне як падазронаму следчы прыпыніў папутную машыну і любезна адправіў у Баранавічы на галасаванне.

Майму бацьку і сакратару Вальнянскага сельсавета прыйшлося ісці пешшу дахаты ў снежную завею, пераадольваючы кожнаму больш як па дзесяць кіламетраў.

А колькі ж каштаваў гэты «слон»? Але ж гэтага ніхто не падлічваў.

## 10. Да нас завітаў старшыня Гарадзішчанскага райкама

Летам 1948 года я жыў разам з бацькамі на хутары ў сваіх бацькоў і дапамагаў ім на сваёй гаспадарцы. Калгаса ў нас пакуль не было. Пачалося жніво жыта. Паступіў загад з Вальнянскага сельсавета першы ўраджай адвесці дзяржаве ў якасці абавязковай пастаўкі.

Бацька запрог каня. Палажыў некалькі мяхоў жыта на воз і павёз у бліжэйшы прыёмны пункт прыёму на станцыю Пагарэльцы. І раніцай наступнага дня вярнуўся дахаты. Не паспеў распрэгчы каня, як на наш панадворак завітаў старшыня Гарадзішчанскага райвыканкама і спытаў у бацькі:

— А чаму гэта ты не збіраешся везці абавязковую пастаўку дзяржаве?

Пры гэтым прысутнічалі я і мой стрыечны брат Аляксандр Заўялаў, які прыехаў да нас з Масквы ў госці.

Пачуўшы пытанне старшыні, я сказаў:

— Мой бацька толькі што прыехаў з Пагарэльцаў, дзе ён стаяў у чарзе ўсю ноч. Здаваў дзяржаве першы ўраджай жыта і толькі што прыехаў, каб паснедаць, пакарміць каня і адпачыць.

— А ты хто такі?

— А гэта мой сын, — адказаў мой бацька.

— А чаму гэта твой сын умешваецца ў нашу размову? — спытаў старшыня.

— Дазвольце мне сказаць, — пачаў гаварыць мой стрыечны брат Заўялаў, — я лічу, што Міхась правільна абараніў бацьку, бо трэба паважаць, таварыш старшыня, чалавека, які ўсю ноч без адпачынку стаяў у чарзе, каб здаць зерне дзяржаве.

— А вы хто такі? Вашы дакументы?

Аляксандр паказаў старшыні свае дакументы. Старшыня праверыў іх і палажыў у кішэнь, сказаў:

— А па дакументы прыйдзеш у райвыканкам мястэчка Гарадзішча, калі ты такі разумны, — і пайшоў з панадворка.

Праз пару дзён Аляксандр быў вымушаны паехаць у Гарадзішча, дакладней, пайсці пешшу, а гэта адзінаццаць кіламетраў у адзін бок. Прыйшоў у прыёмную старшыні райвыканкама і сказаў сакратарцы:

— Я прыйшоў да старшыні райвыканкама па сваіх дакументы, якія ён у мяне ў Бортніках адабраў.

І назваў сваё імя і прозвішча. Сакратарка пайшла да старшыні. І тут жа яго запрасіла ў кабінет. Ён пераступіў парог і спытаў:

— Ці можна зайсці да вас?

— Ах, гэта масквіч, Аляксандр Заўялаў, які прыехаў у госці ў Бортнікі і перашкаджаў мне выконваць мае службовыя паўнамоцтвы па пастаўцы зерня дзяржаве.

— Прабачце. Па-першае, прыехаў у госці не да вас, таварыш старшыня, а па-другое, я сутыкнуўся з вашым сапраўдным хамствам у адносінах да сваіх сялян, у прыватнасці да мужа маёй цёткі Надзеі, які толькі што прыехаў і распрагаў каня, каб яго пакарміць і самому адпачыць пасля ўсяночнага стаяння ў чарзе, каб здаць некалькі мяхоў жыта. Вы пачалі яго лаяць, не разабраўшыся па сутнасці справы. І ў той час, калі мы са стрыечным братам Мішам растлумачылі вашу памылку, дык вы палічылі, што я перашкодзіў вам выконваць вашы абавязкі. Узялі мае дакументы. І раілі мне прыйсці да вас, каб мяне пакараць. Што ж, таварыш старшыня, страшная вайна закончылася каля трох гадоў назад, а вы дзейнічаеце партызанскімі метадамі: што хачу, тое і варачу. Перш чым пакараць чалавека, трэба

разабрацца. А вы забылі аб гэтым залатым правіле, якое ніхто не адмяняў.

— Хопіць, таварыш Заўялаў, мяне вучыць, — сказаў старшыня райкама, — гэта не твае функцыі, а мае. Забірай свае дакументы, і каб я цябе больш у нас не бачыў!

Аляксандр узяў дакументы і пайшоў у Бортнікі.

## 11. Трагічны лёс майго дзядзі Давыда

Калі трэцяга сына дзеда Андрэя хрысцілі ў вальнянскай царкве, то, кіруючыся Бібліяй, яму выбралі імя Давыд. Яго сям'я ў 30-я гады пасялілася ў засценку Калюга на поўначы ад хутара дзеда і Паўла. Жыў ён там разам з жонкай Жэняй і двума сынамі Уладзімірам і Вячаславам.

У тыя пасляваенныя часы дзядзя Давыд вымушаны быў працаваць у Баранавічах на чыгунцы, а я вучыўся ў Баранавіцкай чыгуначнай сярэдняй школе № 1. Мы з дзядзем Давыдам па суботах наведвалі сваіх родных — запасаліся на тыдзень харчамі. Бліжэйшы цягніковы прыпынак Крошын ад бацькоўскага дома ў Бортніках быў на адлегласці адзінаццаці кіламетраў, а дзядзі Давыду на пяць кіламетраў было бліжэй да свайго дома. І калі мы ішлі дахаты, то часта на дарозе за вёскай Стайкі нас затрымлівалі «ястрабкі». Адводзілі ў бліжэйшую хату дзеля высвятлення нашых асоб і адпускалі. Мы пасля ішлі на хутар дзядзі, дзе нас чакаў багаты пачастунак, які нам гатавала цёця Жэня, укладвала нас спаць.

Трагічны выпадак напаткаў дзядзю Давыда. Ягоныя знаёмыя запрасілі яго на вяселле ў вёску, яна была непадалёк ад ст. Пагарэльцы. У панядзелак, пасля вяселля, ён ішоў на станцыю, каб цягніком даехаць на працу ў Баранавічы, і яго збіў цягнік. Ён папаў у шпіталь і праз некалькі дзён памёр. Яго пахавалі на вальнянскіх могілках побач з ягонымі бацькамі. У цёткі Жэні на руках засталіся два сыны. Старэйшы, Уладзімір, набыў спецыяльнасць слесара, пачаў працаваць у Баранавічах, а малодшы, Вячаслаў, скончыў з залатым медалём школу ў вёсцы Стайкі, паступіў у Ленінградскі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту. Працаваў па спецыяльнасці ў Казахстане, г. Алма-Ата.

Меў сям'ю. Атрымаў добрую пасаду. Калі Казахстан стаў незалежным, то Вячаслаў трагічна загінуў пры загадкавых абставінах. Там ён і пахаваны. Цёця Жэня жыла апошнім часам з сынам Уладзімірам у Баранавічах. Калі я апошні раз быў на кватэры Уладзіміра, нявестка адвяла мяне ў пакой цёці Жэні, але яна настолькі пастарэла, што мяне не прызнала. Некалькі гадоў таму Уладзімір захварэў і памёр. Засталася з роду Давыда дачка Уладзіміра. Сын Уладзіміра Андрэй, былы лётчык, загінуў падчас аварыі самалёта больш як дзесяць гадоў таму.

## 12. Самы малодшы сын Андрэя Амялішкі Лаўрэнцій

Самым адукаваным у сям'і Андрэя і Ксеніі быў малодшы сын Лаўрэнцій. Яму бацькі, браты і сёстры дапамагалі вучыцца ў настаўніцкай семінарыі горада Слоніма, якую ён скончыў у пачатку трыццатых гадоў. Працаваў настаўнікам польскай пачатковай школы дзесьці ля горада Маладзечна.

Мы, дзеці Васіля, заўсёды былі рады, калі да нас прыязджаў дзядзька Лаўрын. Ягоны прыезд нам здаваўся святам. Ён прывозіў нам незвычайныя падарункі. Расказваў дужа цікавыя гісторыі са свайго школьнага жыцця. Працаваў ён у сельскай школе і вельмі цёпла расказваў аб тых людзях, у якіх кватараваў. Калі Усходнія Крэсы былі акупаваныя Саветамі, Лаўрэнцій перакваліфікаваўся і пачаў вучыць дзяцей па-беларуску і па-руску. Так ён працаваў да 1941 года. Падчас нямецкай акупацыі працягваў вучыць дзяцей на тым жа месцы. У 1943 годзе да Лаўрэнція завіталі партызаны і настойліва прапанавалі яму пайсці ў партызаны. Ён абяцаў падумаць, бо з ходу такія пытанні не вырашаюцца. Партызаны пагадзіліся і сказалі яму ва ўльтыматыўнай форме:

— Даём вам тыдзень часу на зборы і прыйдзем па вас.

Прапанова яму не спадабалася. Каб уратаваць сваё жыццё, прымае рашэнне: кінуць сваю працу ў Маладзечанскай вобласці і ў гэты ваенны час перабрацца бліжэй да сваёй радзімы ў Баранавіцкую вобласць. На таварняках даехаў да Менска, а адтуль прыехаў у Баранавічы.

Уладкаваўся ў адной са школ настаўнікам і працаваў да 1944 года. Час быў ваенны. Лаўрэнцій Андрэевіч не хацеў сябе запляміць супрацоўніцтвам з немцамі і таксама не хацеў звязваць свой лёс з партызанамі. Ён па сваёй прыродзе быў выдатным настаўнікам-выхавацелем. Разважаў, што ўлазіць у палітычныя справы непатрэбна і небяспечна. Ягоная прадбачлівасць спраўдзілася тады, калі ён пачаў з восені 1944 года настаўнічаць у першай сярэдняй чыгуначнай школе г. Баранавічы, якая была пабудавана пры палякаах недалёка ад чыгуначнай Палескай станцыі. Яго ў той час неаднаразова запрашалі ў НКУС, каб высветліць чым ён займаўся падчас акупацыі. І не толькі яго — усіх настаўнікаў, хто працаваў у беларускіх школах у часы нямецкай акупацыі. У выніку гэтых размоў часцяком адбываліся арышты тых настаўнікаў, калі нкусаўцы атрымлівалі на іх кампрамат. Напрыклад, выкладчыка матэматыкі, высокакваліфікаванага спецыяліста Галубовіча арыштавалі па даносу былога вучня за тое, што Галубовіч, будучы настаўнікам той школы, дзе ён працаваў у часы акупацыі, караў вучняў шляхам ужывання фізічнай сілы. І Галубовіча судзілі без ніякага следства і адваката, адправілі ў ГУЛАГ. І гэта адбывалася тады, калі ў пасляваенныя часы катастрафічна бракавала настаўнікаў з высокай фізіка-матэматычнай падрыхтоўкай. Прыярытэт аддаваўся ідэалагічна-палітычнаму выхаванню. Гэтым наносіўся ўрон высокакваліфікаванай матэматычнай падрыхтоўцы вучняў. На працу часцяком прыходзілі выпадковыя, непадрыхтаваныя асобы. Заняткі прыходзілася весці настаўнікам, якія не мелі вышэйшай адукацыі.

Лаўрэнцій Андрэевіч прапанаваў сваю кандыдатуру на настаўніка пачатковых класаў першай чыгуначнай школы. Дырэктар С. П. Тарасаў, які прыехаў з Ленінграда разам з жонкай М. І. Чугуновай, выкладчыцай матэматыкі, звярнуўся да Лаўрэнція Амялішкі:

— Лаўрэнцій Андрэевіч, я пазнаёміўся з вашай біяграфіяй і бачу, што вы маеце вялікую практыку працы з вучнямі пачатковых класаў. Мы вас працаўладкуем. Але ў нас зараз няма выкладчыка фізікі. Прапаную вам паспрабаваць працаваць выкладчыкам фізікі.

— Гэтая прапанова нечаканая, — сказаў Лаўрэнцій Андрэевіч, — я не здагадваўся, што мне, настаўніку пачатковых класаў, вы прапануеце выкладаць фізіку ў сярэдняй школе. Гэтая прапанова мне як снег на галаву, бо маю сярэднюю адукацыю. Я баюся, што гэта будзе мне не па сілах, і таму адмаўляюся ад гэтай спакуслівай прапановы.

— Лаўрэнцій Андрэевіч, калі ласка, не спяшайцеся адмаўляцца. Я пазнаёміўся з вашай асабістай дакументацыяй і бачу, што сярод новага калектыву нашай школы, хто падаў заяву працаваць у ствараемым калектыве, больш за ўсё падыходзіць настаўнікам фізікі Лаўрэнцій Андрэевіч Амялішка. Чаму? Таму, што ў настаўніцкай семінарыі Слоніма вы па фізіцы мелі адзнаку выдатна. А гэта азначае, што вы фізікай авалодвалі з прыемнасцю. Узнавіць тое, што калісьці было фундаментальна набыта, значна прасцей, чым тое, што засвойвалася без цікаўнасці. Мне вядома, што вы халасцяк і маеце больш часу, каб узнавіць тое, што ў свой час было грунтоўна засвоена і з часам забылася. Вайна канчаецца. Я мяркую, што ў бліжэйшым будуць адчынены інстытуты, дзе вы зможаце завочна атрымаць вышэйшую адукацыю па фізіцы. Так што, Лаўрэнцій Андрэевіч, вам даецца шанец падняцца да ўзроўню выкладчыка фізікі сярэдняй школы. І апошняе, вы мужчына, і я мяркую, што вы па сваёй прыродзе больш схільны да тэхнікі, чым жанчыны, бо фізіка — аснова сучаснай тэхнікі.

— Выслухаў вас, паважаны Сцяпан Пятровіч, я абяцаю падумаць і ў бліжэйшы час прыняць рашэнне па вашай прапанове.

— Паважаны Лаўрэнцій Андрэевіч, я ваша назначэнне выкладчыкам фізікі ўзгадніў з кіраўніцтвам Дортэхшкол Брэст-Літоўскай чыгункі, і яны пагадзіліся з маім меркаваннем. Думайце. Я вас чакаю ў бліжэйшыя дзень-два.

Лаўрэнцій Андрэевіч падумаў, прыйшоў да высновы, што варта пагадзіцца з гэтай перспектыўнай прапановай, і ў наступны дзень прынёс заяву, каб яго прызначылі выкладчыкам фізікі, і пачаў рыхтавацца да ўрокаў.

Лаўрэнцій Андрэевіч сур'ёзна паставіўся да сваёй новай пасады. Пачаў абсталёўваць кабінет фізікі неабходнымі прыборамі. Ягоныя ўрокі былі багата насычаны

дэманстрацыямі фізічных эксперыментаў, якія пацвярджаюць справядлівасць фізічных законаў. Пасля вайны Лаўрэнцій Андрэевіч паступіў у Баранавіцкі настаўніцкі інстытут на завочны аддзел фізіка-матэматычнага факультэта. Быў адным з лепшых выкладчыкаў фізікі горада Баранавічы. Ажаніўся ў 1947 годзе. Ягоная жонка Яўгенія Паўлаўна Нямера працавала пасля замужжа ў той жа школе выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры. Яе радзіма — вёска Бабаевічы Клецкага раёна. У яго сям'і нарадзіліся сын Георгій (Жора) і дачка Людміла. Зараз дзеці маюць свае сем'і. Жора атрымаў вышэйшую адукацыю ў Новасібірску, дзе ажаніўся і там застаўся. На радзіму не вярнуўся. Людміла скончыла БДУ, выйшла замуж за вучня Лаўрэнція Андрэевіча — Мікалая Вячаслававіча Падгайскага. Зараз яны жывуць з сям'ёй у баранавіцкім доме Лаўрэнція Андрэевіча.

## 13. Паездка на ферму ў Дацкім Каралеўстве

Ранак 25 жніўня 1996 года. Я з жонкай Ліляй і спадарожнікам Грыгор'евым гасцявалі ў датчанаў Элізы і Эрыха. Падняўся я а сёмай гадзіне. Спаць не хацелася. Спусціўся на першы паверх і выйшаў на падворак.

Перад домам толькі што зжатае пшанічнае поле, аб гэтым сведчаць тыя каласы, якія засталіся. Падняў некалькі іх, разгледзеў, зразумеў, што тут атрыманы багаты ўраджай. Падышоў да гаража і сустрэў гаспадара, які штосьці мне па-дацку пачаў тлумачыць і запрасіў пайсці з ім у склад-музей, дзе паказваў і тлумачыў. Я нічога не разумеў, але здагадваўся, што ён паказвае мне тыя прылады, якімі ягоныя продкі апрацоўвалі зямлю ў пачатку XX стагоддзя. Ён іх беражліва захоўвае. Сярод іх былі: рознай канструкцыі матыкі, граблі, пілы, сякеры, калуны, вобруць, венікі і амаль усё тое, што мы зараз ужываем на нашых летніках, а ў іх ляжыць на музейных паліцах. Для параўнання ён мне паказаў сучасную тэхніку, якой карыстаецца пры апрацоўцы прысядзібных сотак, што засталіся побач з домам. Тут былі: сучасны апырсквальнік, электраплуг з усімі навяснымі прыстасаваннямі (барана, культыватар, акучнік, пласка-

рэз і г. д.), кустарэз з сенакасілкай, і ўсе гэтыя прыборы разлічаны на электрапрывад — чым ён ганарыўся:

— Глядзі, паважаны госць, што мы мелі раней і чаго мы дасягнулі ў канцы нашага стагоддзя! Калі ў мінулым для выканання ўсіх работ пры апрацоўцы глебы выкарыстоўвалася мускульная энергія многіх працоўных, то зараз з гэтымі работамі я адзін лёгка ўпраўляюся, выкарыстоўваючы сучасную тэхніку.

Я падумаў: вось той шлях, па якім павінна развівацца і наша сельскагаспадарчая вытворчасць. Іншага не бачна.

А дзявятай гадзіне нас паклікалі на снеданне. За сталом растлумачыў гаспадыні, што ў недалёкім мінулым я працаваў у Гродзенскім аграрным інстытуце на кафедры фізікі і знаёмы з працай аграрыяў, таму хацеў бы, калі гэта магчыма, пазнаёміцца з работай дацкай фермерскай гаспадаркі. Гаспадар тут жа прапанаваў наведаць ферму свайго сына.

Мяне, як сыну былога селяніна-аднаасобніка, цікавіла, як жывуць і працуюць сяляне ў гэтым каралеўстве. Калі я прыехаў сюды, то заўважыў, што сп. Эрык Ланк’ер жыве ў прыгарадзе. Ягоны дом, і пры ім некалькі сотак зямлі, мяжуюць з фермерскімі гаспадаркамі. Насупраць дома поле суседа, дзе размяшчаецца даспяваючы палетак жыта прыкладна гектараў каля трыццаці. Праз пару дзён на гэтым полі з’явіўся раніцай зернеўборачны камбайн, і да сямі гадзін вечара ўвесь палетак быў зжаты. Зерне тут жа на полі было высыпана на плёнку, а ў наступны дзень прыехалі супрацоўнікі спецбрыгад, якія забралі зерне для далейшай прасушкі і ачысткі. Патрэбная колькасць жыта ў гаспадарцы, засыпана ў сусекі фермера, а астатняе купіла дзяржава, пералічыўшы грошы на ягоны асабісты рахунак. Далей на жытнёвым полі пачаў сваю справу рабіць другі камбайн і за дзень сцюкаваў салому і адразу ж кругляшы саломы адвёз у сховішча.

Праца фермера размеркавана так, каб ён выходзіў рана к 9 гадзінам і вяртаўся на адпачынак не пазней чым у 19 гадзін. Такая праца іх магчыма дзякуючы таму, што яны маюць самыя сучасныя машыны.

Прыкладна ў 10 гадзін мяне і Лілію гаспадар вязе на сынаву ферму ў паўночным напрамку. Мінаем палі розных ферм.

На некаторых палетках яшчэ сядзіць кукуруза. Назіраем дзе-нідзе ўзараныя дзялянкі пад азімыя культуры. Слухаем музыку і не агледзеліся, як пад'ехалі да тыповай дацкай фермы. Заехалі ў двор з паўночнага боку. Забудова фермы складаецца з жылога дома і ўсіх гаспадарчых памяшканняў, якія размешчаны па перыметру прамавугольніка. На поўначы жылы дом гаспадароў, гумно, зернясховішча, хлявы жывёле і птушкам. Па сярэдзіне двор, пакрыты марской галькай. На двор ні жывёла, ні птушкі не маюць доступу. Зроблена гэта для таго, каб у хату не пападаў жывёльны кал і тым самым каб аблегчыць працу гаспадыні — зберагчы чысціню пакояў. Выхад буйнай рагатай жывёлы з прыплодам непасрэдна на пашу агароджаны электрапастухом. Раніцай не трэба гаспадарам выганяць жывёл на луг пасвіцца. Яны самі падымаюцца са свайго стойла і ідуць на пашу, а непажаданае іх адхіленне кантралюе ўсё той жа электрапастух. Ідуць яны туды, дзе ім належыць пасвіцца, а ўвечары самастойна вяртаюцца тым жа шляхам у стойла. Гаспадары, калі маюць свабодную хвіліну, кантралююць паводзіны жывёл.

На ферме гадуецца мясная парода кароў з прыплодам. На іх гадоўлю фермер нясе мінімальныя затраты, атрыманая прадукцыя параўнальна танная. Малако і малочныя прадукты пры гэтым яму прасцей набыць у краме. На ферме вырошчваецца да 20 кароў з прыплодам.

Значны даход прыносіць фермерскай гаспадарцы норкавая звераферма. Норкі ўтрымліваюцца на тэрыторыі побач з пашай кароў у спецыяльных клетках парамі, і налічваецца іх там каля 3000 галоў. Звяркі рознакаляровыя: блакітныя, чорныя, пярэстыя (чорныя з белымі плямамі) і іншых колераў і адценняў. Кормяць іх спецыяльнай рыбнай пастай і зернем. Вырошчваюць да канца восені, а калі трэба атрымаць прадукцыю — футра, то фермер па тэлефоне запрашае спецбрыгаду, якая забірае даспеўшых звяркоў і адвозіць для далейшай апрацоўкі на фабрыку. Фермеру на яго асабісты рахунак паступае ад рэалізацыі тавару чысты даход у памеры аднаго мільёна крон у год.

У Даніі, як нідзе ў свеце, прынамсі ў нас ці ўвогуле ў былым СССР, развіты спецбрыгады розных напрамкаў, якія аказваюць, зразумела, за плату, паслугі кваліфікавана і

ў дамоўленыя тэрміны. Такія спецбрыгады выконваюць эфектыўна любы заказ. Таму дацкаму фермеру не баліць галава, як яму справіцца з той ці іншай работай. Тэхнічная аснашчанасць фермера нам здаецца фантастычнай. Уявіце сабе гаспадара, які апрацоўвае 77 гектараў зямлі сваёй сям'ёй (жонка і трое малых дзяцей дашкольнага ўзросту). Апрацоўвае ўвесь гэты палетак і яшчэ некалькі дзён на тыдзень працуе ў Колдзінгу на нейкім прадпрыемстве. У ягонай гаспадарцы акрамя легкавых і грузавых машын, неабходных яму, маюцца трактары, камбайны сучасных марак. Даходы ягонай гаспадаркі дазваляюць яму набываць самыя найноўшыя высокатэхналагічныя машыны і шырока выкарыстоўваць сучасныя тэхналогіі.

На зіму жывёл пераводзяць на стойлавае ўтрыманне. А для гэтага патрэбна нарыхтаваць неабходны запас кармоў: сена, кукурузнага сіласу, камбікорму — ды так, каб корм быў высокай якасці і паступаў жывёле ў патрэбнай колькасці на ўвесь стойлавы перыяд утрымання жывёлы. І кіруе ўсімі працэсамі кармлення камп'ютар па спецыяльнай праграме. Роля фермера: уважліва сачыць за ўсімі тэхналагічнымі працэсамі кармлення і не дапускаць іх парушэння. І калі ўзнікаюць праблемы, то своечасова іх ліквідаваць з дапамогай спецбрыгад.

Пасля кароткага знаёмства з гаспадаркай нас запрасілі ў хату на пачастунак. Дом фермера меншы па памерах, чым бацькоўскі, але ненамнога. Абстаўлены сучаснай мэбляй і тэхнічнымі сродкамі як у прыгатаваньні ежы, так і ў прыбіранні памяшкання. Дзякуючы механічным памочнікам: пасудамоечным, кухонным шматфункцыянальным камбайнам, пыласосам самай апошняй канструкцыі — гаспадыні не патрэбны слугі. А калі і ўзнікаюць такія праблемы, то і па гэтай справе ёсць спецыяльныя брыгады, гатовыя па званку прыехаць на дапамогу. Напрыклад, трэба гаспадыні памыць вокны дома. Яна па тэлефоне дае заказ, прызначае тэрмін выканання. Спецбрыгада ў прызначаны час прыязджае і выконвае заказ. За паслугі з разліковага рахунку фермера будзе знята адпаведная сума. Фермер з банка атрымае квітанцыю, за што ён разлічыўся, і з указаннем, колькі грошай на ягоным рахунку. Супрацоўнікі спецбрыгад

зацікаўлены ў выкананні большай колькасці заказаў. Ад гэтага залежыць іх высокі заробак. Яны не лічацца слугамі гаспод. Яны кваліфікаваныя супрацоўнікі адпаведнай фірмы і выконваюць работу па спецыяльнасці. У Дацкім Каралеўстве абразлівыя словы «служанка»і «парабак» практычна зніклі. Іх месца занялі спецыялісты адпаведнай кваліфікацыі з дастойным заробкам.

У нашым распараджэнні сённяшні светлавы дзень, а вечарам мы павінны вярнуцца да сп. Эрыка, каб 26 жніўня раніцай ад'ехаць дадому. Таму мы хутка развітваемся з нашымі мілымі маладымі фермерамі. Жадаем ім яшчэ больщых поспехаў. Выказваем свае захапленні ад убачанага і едзем да дома спн. Элізы.

Бегла пазнаёміўшыся з тыповай гаспадаркай сына сп. Элізы, едучы ў зваротным напрамку, я яшчэ больш пільна стаў углядацца ў палеткі тых фермераў, якія сваёй працай, вынаходлівасцю і руплівасцю вырошчваюць у гэтых суровых кліматычных умовах такі багаты плён. Сп. Эрык нам растлумачыў, што такое выдатнае надвор'е, якое было ў дні нашага побыту ў Даніі, — рэдкасць у іхнім каралеўстве. Не зважаючы на неспрыяльныя пагодныя ўмовы вядзення сельскагаспадарчых работ, дацкія фермеры вынайшлі такія абарончыя сродкі, якія дазваляюць ім атрымліваць небывала багаты плён усіх культур. За сваю працу дацкія фермеры атрымліваюць высокую ўзнагароду, а дзяржава ў цяжкія часы ім заўсёды дапамагае — падстаўляе сваё плячо, і менавіта тады, калі такая дапамога патрэбна. Я ўбачыў сапраўды свабоднага дацкага селяніна, які ўсе свае праблемы вырашае самастойна, і гэтым ён шчаслівы.

Кожнага жыхара Даніі, па майму назіранню, адрознівае ад нашага ягоная ашчаднасць. Які б даход датчанін ні меў, ён ніколі не будзе дарма раскідваць сваё дабро. Гэтая рыса характару набыта датчанамі карпатлівай паслядоўнай выхаваўчай працай інтэлігенцыі шматлікіх пакаленняў. У пачатку мінулага стагоддзя датчане жылі небагата, а магчымасцяў паляпшэння дабрабыту нацыі не было такіх, як у славян (многа багатых земляў, многа лясных угоддзяў). Таму яны бачылі адзіны сродак, каб стаць заможнымі: трэба выхаваць ва ўсёй нацыі ашчаднасць, і ім гэта ўдалося.

Мінула паўстагоддзя, і як мы бачым, Данія па ўзроўню жыцця займае адно з першых месцаў у свеце — рыса ашчаднасці ўвайшла ў генетычны код датчан. Яны зараз маюць магчымасць дапамагаць тым, хто патрапіў у катастрофу, пастаўкамі гуманітарнай дапамогі, дасылаючы ім адзенне, палаткі, коўдры, інвалідныя каляскі, кансервы і іншае. Не маючы на астравах ні вугалю, ні нафты, ні іншых карысных выкапняў, працавітыя, ініцыятыўныя датчане вынайшлі ў прыбярэжным шэльфе нафту, забяспечылі сябе гэтым палівам і прадаюць частку яго сваім суседзям. Датчане лідзіруюць пастаўкамі на сусветны рынак ветраэлектрастанцый.

## 14. Сям'я Антона і Волькі Маруцікаў

Мой дзед Андрэй Амялішка быў руплівым гаспадаром, эканомным. Збіраў грошы дзеля набыцця зямлі, каб забяспечыць дзяцей добрай спадчынай. Пасля, як аддзяліўся старэйшы ягоны сын Васіль, аддалі замуж яго сястру Вольку ў вёску Брыксічы за Антона Маруціка. Цяпер гэта прыгарад гарадскога пасёлка Гарадзішча. Жылі яны не багата. Мелі мала зямлі. У іх сям'і вырасла два сыны — Міша і Мікалай — і дзяўчаты: Ніна, Жэня і Наташа. Міша, старэйшы з Маруцікавых дзяцей, заўсёды, калі наведваў нас у Бортніках, сябраваў са мной. Я любіў яго і быў заўжды рады сустрэчы з ім. Ён быў лепшым маім сябрам. Яго, на жаль, напаткаў трагічны лёс. У 1943 годзе яго мабілізавалі ў войска. Падчас бамбавання ягонай часткі прапаў. Цёця Волька была моцна ўражана гібеллю свайго старэйшага сына і не магла супакоіцца да канца дзён, што паскорыла яе адыход у іншы свет. Пахавана цёця Волька на гарадзішчанскіх могілках. Малодшы сын Маруцікаў Мікалай нарадзіўся ў 1926 годзе. У 1944 годзе быў мабілізаваны ў савецкае войска і ўдзельнічаў у Другой сусветнай вайне. Вярнуўся з вайны пераможцам. Прыязджаў да нас у Бортнікі. Любіў расказваць аб сваіх вайсковых прыгодах. Я памятаю многа эпізодаў з ягоных расказаў. Мяне тады здзівіла тое, што былы вясковец да службы ў Савецкай Арміі амаль не валодаў

рускай мовай, а калі я яго сустрэў пераможцам, дык цяпер ён карыстаўся толькі рускай мовай. Праўда, пад уплывам сваёй сям'і і таго мясцовага беларускага асяроддзя ішоў працэс вяртання да сваёй роднай мовы. Вярнуўшыся з войска, набыў спецыяльнасць краўца. Працаваў у Гарадзішчы ў пашывачнай майстэрні.

Пры жыцці цёці Волькі мне з маім братам Мікалаем даводзілася гасцяваць у іх хаце ў Брыксічах. Мы з братам падчас канікул вырашылі наведаць Маруцікаў. Я — вучань дзявятага класа Баранавіцкай школы, а брат Мікалай — студэнт чыгуначнага тэхнікума ў Брэсце прайшлі пяшком 11 кіламетраў. Прыйшлі ў госці да Маруцікаў. Запомнілася. Яны былі нам вельмі рады. Цётка Волька сардэчна сустракала нас — старалася пасадзіць нас на пачэсным месцы і як мага лепш пачаставаць. І гэта нягледзячы на той сум, які яна насіла ў сваім сэрцы па прапаўшым старэйшым сыне Мішу. Трэба адзначыць, што мой бацька — старэйшы брат цёці Волькі, заўжды, як больш заможны гаспадар, чым мог дапамагаў сваёй сястры. Яны часцяком прыязджалі да нас. Васіль дапамагаў дзядзьку Антону і ягоным сынам парадамі ў гадоўлі пчол. Мясцовыя сяляне лічылі майго бацьку калдуном, таму што яго парады прыносілі Маруцікам добры плён медазбору. Апошняе наведванне гэтай дружнай сям'і адбылося ў 1946 г. падчас канікул. У той час мы сабраліся парыбачыць з братам Мікалаем на рэчцы Сервечы, якая працякае ля вёскі Брыксічы. Мы вярталіся дахаты па беразе гэтай рэчкі, дайшлі да вёскі Кутаўшчына і напрамкі прышлі праз вёску Скробава ў Бортнікі. І ніякай рыбы не злавілі — не мелі вопыту. Гэты няўдалы паход адштурхнуў мяне назаўжды ад гэтага занятку.

Нявеста Мікалая скрыла тое, што яна венерычная. І заразіла гэтай хваробай свайго мужа. Пасля чаго ён пападае ў шпіталь і памірае. Праз нейкі час, ад усіх гэтых хваляванняў памірае дзядзя Антон Маруцік. Першай з дачок цёткі Вольгі выйшла замуж Ніна, у вёску Свяцілавічы (цяпер гэта Баранавічы). Мне ў пасляваенны час прыйшлося быць у яе ў гасцях. Памятаю той дом і тую цеплыню, з якой мяне там сустракалі.

Пасля смерці бацькі Жэня і Наташа пераехалі таксама ў Баранавічы і там працавалі. Выйшлі замуж і займелі свае сем'і. Наташа ўсё сваё жыццё працавала сакратаром у Баранавіцкім гарадскім судзе.

## 15. Інтэрв'ю ў доме Міхася і Ганны Шырко. Баранавічы

— Мой тата Аляксандр Белавусаў быў для свайго часу адукаваным, — расказвае Ірына Аляксандраўна Філіпчык, — скочыў сем класаў польскай школы. Быў пакліканы ў кастрычніку 1940 года ў Савецкую Армію. Ваяваў да 1944 года на розных франтах. Быў тры разы цяжка паранены. Пасля апошняга ранення быў камісаваны па стану здароўя ў 1944-м і жыў у Борніках у хаце Юзіка Хаменюка. Ажаніўся з дачкой Мікалая Сеўрука Наташай (мая маці).

Мікалай Іванавіч Сяўрук — мой дзед. Ён быў прыроўнены да кулакоў, таму што трымаў парабка і меў тры каровы. Гэты парабак быў з Расіі, і ён ратаваўся ад голаду. Я нарадзілася ў хаце ў Юзіка Хаменюка, дзе мы і жылі. Мой бацька ў пяцідзясятыя гады быў прызначаны старшынёй Вальнянскага сельсавета і пачаў будаваць свой дом у Бортніках. Пабудаваў. Мы пачалі жыць па суседству з Ю. Хаменюком.

*— Раскажыце мне, як вы жылі, калі арганізавалі ў Бортніках калгас?*

— Мой тата атрымліваў нейкія грошы, і мы маглі карміцца. А як можна пражыць калгаснікам, калі ім на першых парах грошай не плацілі? — расказвае Міхась Шырко. — Мой бацька працаваў у супольным калгасе з Бортнікамі плотнікам і за гадавую працу ў брыгадзе прынёс за плячыма паўмяшка сырога жыта. Пасыпаў на печ сушыцца — і гэта быў ягоны гадавы заробак! У тым мяшку было жыта не больш як трыццаць кілаграмаў.

А Ганна, ягоная жонка, дапоўніла:

— Грашыма ў той час калгаснікам не плацілі, таму, каб калгаснікі не адбіралі хлеб у гараджан. А фактычна ўсё было наадварот: вырашчанае збожжа, мяса, малако і шмат чаго іншага цяжкай працай сялян-хлебаробаў адбіралася ў

сялян, так забяспечвалі партыйны і дзяржаўны апарат і ўсіх астатніх, а хлебаробам амаль нічога не заставалася. Плацілі ім працаднямі. Адна жанчына мне сказала, што на першых парах у калгасе сялян лічылі нахлебнікамі.

За працадні разлічваліся збожжам, пераважна жытам. І то з таго фонду, які заставаўся пасля таго, як калгас разлічыўся пастаўкамі дзяржаве. Той, хто вырошчваў хлеб, забяспечваўся хлебам апошнім. Партыя і ўрад забяспечвалі хлебам і іншымі прадуктамі ў першую чаргу партыйны апарат абкамаў і гаркамаў і шматлікую армію сілавікоў, вайскоўцаў. На другой чарзе — рабочых заводаў і фабрык, а сялянам штомесячна плацілі працаднямі, якія атаварваліся раз у год.

*— Ганна Давыдаўна, раскажыце гісторыю пра каня.*

Селяніну, уступаўшаму ў калгас, трэба было здаваць і зямлю, і жывёл. Аднак паслухаем, аб чым гаворыць Ганна Давыдаўна.

— І як у калгас тата запісаўся, то прышлося нам цяжка з канём расставацца, бо конь у гаспадарцы асноўная безадказная цяглавая сіла селяніна, а адвёўшы каня ў калгас, гэтая сіла трацілася. І калі трэба было з'ездзіць у горад на базар ці прывезці доктара да хворага, дык цяпер неабходна было ісці да брыгадзіра і прасіць у яго, каб ён дазволіў узяць каня і воз.

У нас быў прыгожы каштанавага колеру вялікі конь. Нейкае мучэнне было: зямлю адабралі, падаткамі абкладвалі і тату прымусілі запісацца ў калгас. Прышлося яму заяву падаць. І як у калгас тата запісаўся, мама плакала, галасіла:

— А мае ж вы дзеткі, што мы цяпер будзем есці, як жа цяпер будзем жыць?

Тата сам адвёў каня ў агульную канюшню. Кіраўнікі казалі, што ўсё было добраахвотна, а фактычна ўсё было пад прымусам. Каня адвялі ў канюшню, а як яны там даглядаліся, мне невядома, бо іх блага кармілі, — коні былі худыя, дрэнна дагледжаныя. Прайшло з паўгода. Мусіць, была восень. Наш былы конь недзе пасвіўся на пашы і прыйшоў да нас на панадворак. Іго-го, іго-го! А тата быў у хаце, убачыў каня — і слёзы з вачэй яго пакаціліся, і ў каня таксама. Яны паплакалі. Яго чымсьці тата пакарміў, хоць карміць каня забаранялася, каб яго не прываджваць

да нашага панадворка. Пасля тата ўзяў яго за грыву і адвёў у канюшню.

— Да вайны ў Бортніках быў калгас, — кажа Ганна Давыдаўна, — аб гэтым расказвала мая бабуля. Калгас назвалі «Сталінскі шлях». Яго арганізавалі зімой 1940/41 года. Старшынёй калгаса быў абраны Алесь Шчэрба — Тадэўчык (мянушка). Наш конь быў на пашы і зайшоў на калгаснае пасвішча. Старшыня заняў каня ў хлеў. Выручаць гэтага каня да старшыні прыйшла ягоная цешча і просіць яго:

— Алесь, аддай нашага каня. Мы ўсё ж такі свае.

— Якія свае? — адказвае Алесь. — Мне родная маці ў трэцяй стрэчы.

Ён быў службісты да гэтай улады. У калгасе было такое рабства, — дадае Ганна Давыдаўна Шырко, — якога ніколі свет Божы не бачыў. Застаўлялі працаваць, а нічога не давалі. І яшчэ трэба было вырабіць мінімум працаднёў. Не вырабіш мінімуму працадзён, дык цябе пакараюць. А еў ты ці не еў, нікога гэта не цікавіла.

*— Ганна Давыдаўна, раскажыце нам, як ставіцца да такой балючай праблемы, як алкагалізм, вашая рэлігійная канфесія?*

— Не наша канфесія, а слова Божае гаворыць: што табе не карыснае — не ўжывай. Апостал Павел сказаў (і аб гэтым напісана ў Бібліі): «Спажывай тое, што табе карыснае», а выпіўка не карысная, ад яе ўсялякі грэх. Як вып’еш, так і грашыш. Акрамя таго, выпівохі нясуць страты як маральныя, так і матэрыяльныя. Канкрэтнай забароны ўжывання алкаголю ў нас няма. Хочаш, пі ці не пі. Аднак калі ты напіваешся і п’янствуеш — дрэнна сябе паводзіш. У нас усе вернікі на віду. Не так, як у праваслаўнай канфесіі: вернік прыйшоў у царкву, паставіў свечку, пацалаваў ікону, памаліўся, паслухаў літургію і пайшоў дахаты.

У нас такога няма, а ёсць назначаныя прэсвітэрам дэканы. Кожны з іх адказвае за адпаведны мікрараён і назірае па месцы жыхарства за сваімі вернікамі. Ён іх наведвае і знаёміцца з імі, з іх праблемамі. І калі хтосьці з вернікаў парушае маральныя ўстановы — злоўжывае алкаголем, то па царкоўным савеце такі вернік папярэджваецца: за паўгода

выправіць свае паводзіны. Праз паўгода на савеце царквы разглядаюцца ягоныя паводзіны. Выносіцца рашэнне: адлучыць яго ад царквы ці пакінуць у царкве, калі ён выправіў свае паводзіны. Аднак калі парушальнік не выканаў папярэджанне, дык ён можа наведваць царкву, але не мае права ўдзельнічаць у прычасці.

Да нашых размоў далучаецца муж Ганны Давыдаўны Міхась Мікалаевіч Шырко:

— Слухай, Міхась, у нашай веры такая справа: дэкан можа п'янага месяцамі ці нават гадамі не бачыць, дык справа не ў гэтым. Чалавек можа чарку выпіць за ядой. Аднак калі да яго прыходзіць вера ў Бога, то ў чалавека з'яўляецца страх перад Госпадам: чалавек прыходзіць да такога стану, што ён бачыць перад сабою Гасподнія вочы — і тады прыходзіць вера. Над намі днём і ноччу Вочы Госпада, і яны ўсё бачаць і судзяць нас за ўсе нашы ўчынкі. А калі мы не прытрымліваемся запаветаў Госпада, дык няма чаго хадзіць у царкву.

Бывае такое:

— Да нас прыходзяць у царкву людзі, — гаворыць Ганна Давыдаўна, — твары іх ацёкшыя, цёмныя, спітыя — страшныя. А пачалі рэгулярна царкву наведваць, маліцца — і паступова іх твары прасвятляюцца. Яны становяцца, як усе людзі.

## 16. Калгас у Матылях арганізаваны ў пяцідзесятых гадах

Расказвае аб гэтым Маргарыта Янковіч:

— Арганізавалі ў Матылях калгас. Першым старшынёй абралі самага беднага селяніна, гультая і п'яніцу. У яго каля хаты нават плоту не было. Памятаю, што яго звалі Бабуль (мянушка). Кіраваў ён калгасам да тых пор, пакуль усё калгаснае багацце з сябрукамі не прапілі. Мой бацька ў той час працаваў майстрам у леспрамгасе, але леспрамгас у 1953 годзе расфарміравалі і бацьку прапанавалі пераехаць на працу ў Баранавічы. Але ад гэтай прапановы бацька адмовіўся, і яму прыйшлося падаць заяву ў калгас. Наша сям'я

ўступіла ў калгас. Забралі зямлю. Заставілі нам трыццаць сотак агарода. Да калгаса ў нас было дзве каровы. Хапала нашай сям'і малака, сыроў, і масла, і хлеба, а як увайшлі ў калгас, нам заставілі толькі адну карову, і пачалася беднота і галадушка. Калі арганізавалі калгас, назвалі «Светлы шлях». У багатых сялян — кулакоў адабралі гумны. І у гэтых гумнах складзіравалі калгасныя снапы. Калгасных гумнаў не было. Хтосьці падпальваў гэтыя гумны амаль кожную нядзелю, гэтыя гумны гарэлі па чарзе. Сяляне смяяліся, што гэтыя гумны свяцілі, бо калгас насіў імя «Светлы шлях». Віноўнікаў падпалаў не знайшлі.

Я памятаю, што ў 53/54 годзе хлеба не было. У калгасе мама ў звяне вырошчвала лён. Адпрацавала цэлы год. На працадні прынесла ў мяшку за плячамі жыта. І увесь заробак, а грошай ні капейкі. А ў 1954 годзе ўжо было ў сям'і трое дзяцей. Іх трэба было чымсьці карміць.

Мой бацька быў кемлівым. Самастойна навучыўся чытаць і пісаць па-руску. Выбралі яго намеснікам старшыні калгаса. А старшынёй калгаса прыслалі з Ленінграда камуніста з Пуцілаўскага завода Курдзюкова. Прыслалі гэтага камуніста падымаць сельскую гаспадарку нашай Заходняй Беларусі. Аб ім можна сказаць, што ён быў вельмі адданым камуністам. Верыў у партыю. Упэўнена верыў, што тут ў нас зробіць шмат чаго добрага, верыў, што ўсё ў нас выправіць, а мой бацька быў у яго першым памочнікам. Бацька аднойчы прыходзіць дахаты і рагоча, мама ў яго пытаецца:

— Чаго ты рагочаш?

А ён сеў і кажа:

— Ах, Божа ж ты мой Божа, гэты Курдзюкоў нічога ў сельскай гаспадарцы не разумее. Мы паехалі з ім на поле. Ён глядзіць на поле, як баран на новыя вароты, і пранікся да мяне даверам, кажа: «Петрович, ты мне расскажи, где здесь этот овёс, ячмень, рожь, гречиха. Я ничего не понимаю. Я тебе говорю как есть. Я никогда на поле не был. Я вырос в городе и ничего не знаю».

Бацька пры ім не рагатаў. Павёў яго па полі. Расказваў, дзе жыта, ячмень, авёс, грэчка — тлумачыў і паказваў. Гэта быў 1954 год. Вось ён два ці тры гады кіраваў у нас. За гэты час ён пабудаваў сабе дабротны драўляны дом. Папрацаваў у нас тры гады. А пасля наш калгас прыйшоў зусім у за-

няпад, таму што людзі кралі, а кралі ад таго, што трэба выжываць. Людзі нічога не атрымлівалі на працадзень. За год атрымлівалі мяшок жыта. Калі ішлі малаціць, дык шылі вялікія кішэні і ў іх насыпалі зерне, якое малацілі, бо трэба было людзям карміць сям'ю і якоесьці свінчо. Соткі на сям'ю абразалі так, што сям'і не хапала прадукцыі, каб выжыць.

У мяне была дзесяцігадовая сяброўка. Яе бацька прыхаваў паўмяшка зерня на рабоце. А вечарам пайшоў па гэты мяшок. Яго ахоўнікі злавілі. Судзілі. Далі два гады турмы. Нягледзячы на тое, што ў яго ў доме засталіся дзве непаўналетнія без догляду дзяўчынкі. Ніхто не зважаў на тое, што ў іх няма маці. Яна некалькі гадоў таму памерла. Гэтыя дзяўчынкі засталіся без бацькоў.

Карацей кажучы, старшыня Курдзюкоў разваліў у Матылях гаспадарку. Прышлося сеяць, а ў калгасных сусеках няма зерня. Не было чым сеяць.

Знялі камуніста Курдзюкова з пасады старшыні. А таксама і яго намесніка. Курдзюкоў перавёз свой дом у Гродна і атрымаў новую пасаду ў абласным цэнтры, а намеснік вярнуўся ў лясгас — стаў працаваць лесніком.

Мы, дзеці, падрасталі. Хадзілі ў лес па ягады і грыбы. Памагалі маці жаць жыта. Выжывалі як маглі. Вучыліся ў школе. Лягчэй жыць стала тады, калі наш калгас далучылі да саўгаса. Замест працаднёў сталі плаціць нейкія грошы. Ужо была якаясьці зарплата. Ды ўсё роўна была галота і беднота.

# Змест

## Частка 3. Войны

**Частка 4. Калгас**



---

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Амялішка** Міхась Васільевіч

**ЗАБЛУДНЫЯ**

*Раман-успамін. Кніга 2*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*, рэдактар *Міхаіл Шатун*,
вёрстка *Ларысы Ваўчок*, карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 11.07.2011. Фармат 60x84 $^{1}/_{16}$. Друк на рызографе.
Папера афсетная. Ул.-выд. 7,53 арк. Ум. друк. 9,33 арк.
Наклад 300 асобнікаў. Зак. 328.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.